Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

**І.Я.ЛЕПЕШАЎ, М.А.ЯКАЛЦЭВІЧ**

# ПРАКТЫКУМ ПА ФАНЕТЫЦЫ, АРФАЭПІІ, ГРАФІЦЫ І АРФАГРАФІІ

Дапаможнік па курсу
«Сучасная беларуская літаратурная мова»
для студэнтаў спецыяльнасці
1-210501 – Беларуская філалогія

Гродна 2007

УДК 811.161.3
ББК 81.411.3
Л48

Рэцэнзенты: прафесар кафедры беларускай мовы Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны, доктар філалагічных навук *В.А.Ляшчынская*; дацэнт кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, кандыдат філалагічных навук *Ж.С.Сіплівеня*

Рэкамендавана саветам філалагічнага факультэта ГрДУ імя Янкі Купалы.

**Л е п е ш а ў, І.Я.**

Практыкум па фанетыцы, арфаэпіі, графіцы і арфаграфіі: дапам. / І.Я.Лепешаў, М.А.Якалцэвіч. – Гродна: ГрДУ, 2007. – 75 с.

ISBN

Змяшчаюцца заданні і практыкаванні для практычных і лабараторных заняткаў па ўсіх праграмных тэмах фанетыкі, арфаэпіі, графікі і арфаграфіі сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Пераважаюць заданні, зарыентаваныя на творчы пошук з боку студэнта, набыццё ўменняў самастойнай работы са спецыяльнай літаратурай, развіццё навыкаў навукова-даследчыцкай працы і г.д.

УДК 811.161.3
ББК 81.411.3

## Прадмова

Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы, як вядома, займае цэнтральнае месца ў лінгвістычнай падрыхтоўцы настаўніка-славесніка і выкладаецца ва універсітэце на працягу чатырох гадоў навучання. На 1-ым курсе філфака студэнты вывучаюць лексікалогію, фразеалогію, фанетыку, арфаэпію, графіку і арфаграфію.

У 2001 г. быў апублікаваны падрыхтаваны намі навучальны дапаможнік (з грыфам Міністэрства адукацыі РБ) «Практыкум па лексікалогіі і фразеалогіі» (Гродна: ГрДУ). Цяпер жа ў новым нашым дапаможніку для студэнтаў філфака змяшчаюцца заданні і практыкаванні па праграмных тэмах фанетыкі, арфаэпіі, графікі і арфаграфіі.

Тут, як і ў папярэдняй кнізе, пераважаюць заданні, зарыентаваныя на творчы пошук з боку студэнта, актывізацыю самастойнай пазнавальнай дзейнасці, набыццё ўменняў самастойнай работы са спецыяльнай літаратурай, супастаўленне розных поглядаў на тое ці іншае пытанне па названых раздзелах мовазнаўства, развіццё крытычнага мыслення. Шмат якія практыкаванні вучаць шукаць, параўноўваць, аналізаваць, абагульняць, мысліць. Ёсць практыкаванні, выкананне якіх садзейнічае развіццю навыкаў навукова-даследчай працы.

Пры размяшчэнні заданняў па пэўнай фанетычнай, арфаэпічнай, графічнай і арфаграфічнай тэме захоўваецца сістэмнасць іх падачы, ахопліваюцца амаль усе праграмныя пытанні тэмы ў іх лагічнай паслядоўнасці. Адны заданні выконваюцца на практычных і лабараторных занятках, другія – дома (можна і трэба выкарыстоўваць прынцып дыферэнцыяцыі і індывідуалізацыі пры раздачы заданняў), трэція могуць быць перанесены на самастойную работу студэнта.

У практыкаваннях 46, 107, 144 пададзены схемы і ўзоры фанетычнага, графічнага і арфаграфічнага аналізаў, у канцы дапаможніка паўтораны схемы і ўзоры лексічнага і фразеалагічнага аналізаў, а таксама змешчаны пытанні для падрыхтоўкі да заліку і да экзамену па сучаснай беларускай літаратурнай мове.

# Фанетыка і фаналогія

**1**. Раскажыце пра неаднолькавае разуменне ў сучасным мовазнаўстве паняццяў «фанетыка» і «фаналогія». Што ўваходзіць у паняцце «гукавы лад мовы»?

Выкарыстоўваючы веды і ўменні, атрыманыя ў курсе «Уводзіны ў мовазнаўства», затранскрыбуйце тэкст і падзяліце яго на фразы, такты, фанетычныя словы.

Вясна наступала напорыста і ўпэўнена. Удзень, ледзь толькі падымалася сонца, усюды ажывалі тысяч ы гаваркіх ручайкоў. З шумам і цурчаннем вада бегла палявымі межамі, каляінамі дарог. *(Кр.)*

**2**. Чым адрозніваецца фанетычнае паняцце «фраза» ад граматычнага паняцця «сказ»? У якіх прыведзеных урыўках фраза супадае са сказам, а ў якіх – уключае ў сябе некалькі сказаў? З якіх розных бакоў разглядаецца фраза (у фанетыцы) і сказ (у сінтаксісе)?

1. Люблю мой край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла, дзе першы раз пазнала шчасце, слязу нядолі праліла. *(К.Б.)* 2. Ноч. Халодная зямлянка. Перастрэлка. Цішыня. *(Гл.)* 3. Жыта горда красуецца, вее пах медзяны, ад вятроў аж хвалюецца акіян аржаны. *(Астр.)* 4. І сцінае хваляванне горла: як збяднела родная зямля! Астравы, дзе мова не памёрла, у тумане бачацца здаля. *(В.Г.)*

**3**. Прачытайце ўрывак з артыкула І.Валасевіча «Мне за буслоў душа баліць...». Адзначце ва ўрыўку фанетычныя словы, якія не супадаюць з асобнымі самастойнымі словамі. Якія іншыя часціцы (апрача адзінай ужытай ва ўрыўку) выступаюць як энклітыкі?

Бег часу адчуваецца і ў рамане «Бедна басота». Усе падзеі, што ў ім апісваюцца, мелі месца больш за пяцьдзесят гадоў таму, у час, калі сталінская пасляваенная дзяржава яшчэ існавала. З тае пары шмат вады ўцякло: і Сталіна не стала, і Хрушчова прагналі, і наогул уся камуністычная пабудова развалілася. А мы з вамі, людзі старэйшага пакалення, і нашы дзеці і ўнукі жывём у незалежнай Беларусі. Дык што, Гардзееў раман гістарычны? Ні ў якім разе.

Я б сказаў, што ў ім ёсць адмеціны часу. Людзі жылі «за польскім часам», за панам Абуховічам, хадзілі пешшу плаціць штраф «ажно» ў Баранавічы… У час акупацыі выкупалі свайго мужыка ў немцаў за яйкі і самагонку, цярпелі ад розных «палітаддзельцаў», з-пад палкі ішлі ў калгасы і са слязамі развіталіся са сваёй маёмасцю і са сваёй зямлёю. Гэта не гісторыя, гэта – чалавечае жыццё, прагнанае скрозь шпіцрутэны гісторыі. І беларускі мужык, маласельскі, кругавіцкі, паляшуцкі, у гэтай маўклівай няроўнай бойцы вытрымаў і перамог. Дзе сёння Сталін, дзе «палітаддзельцы», дзе тыя калгасы? Няма… А ў Малых Кругавічах ёсць вуліца імя Віктара Гардзея, які нібы старажытны Пімен углядаецца і назад, і наперад і прадказвае нам шчаслівую будучыню.

**4**. Што такое склад (з артыкуляцыйнага пункту гледжання і з акустычнага боку, г.зн. з боку гучнасці)? У чым сутнасць закону ўзрастальнай гучнасці? Дзе пры падзеле фанетычнага слова на склады паводле гэтай заканамернасці аказваюцца [й], [ў], астатнія санорныя, калі пасля іх ідуць шумныя?

Падзяліце словы на склады ў адпаведнасці з гэтым законам.

Над намі, з-за лесу, ляснік, гіганцкі, гульня, таемны, дружны, праўда, экзэмпляр, заўтра, шчодры, тутэйшы, аўторак, будаванне, антракт, расказчык, патруль, кармілі, адрэзаць, пад акном, праз цябе гэта.

**5**. Падзяліце словы на склады і ахарактарызуйце кожны склад па пачатку (прыкрыты ці непрыкрыты) і па канцы (адкрыты ці закрыты).

Бульба, паўза, сумны, паэзія, пяшчота, маленства, мантаж, уздоўж, спачатку, яшчэ, неабходна, скарга, армейскі, падпіска, гасцінец, узмор'е, зямля, гутарка, яблык, вядро, канверт, знайсці, каштоўны.

**6**. Зрабіце фанетычны складападзел слоў і параўнайце яго з падзелам на часткі для пераносу (як з'явай арфаграфіі). Адзначце выпадкі несупадзення фанетычнай і арфаграфічнай з'яў.

Сястра, галава, падскочыць, засмяяцца, адны, узгорак, маўклівасць, абшар, аўторак, прыйсці, галлё, сенаўборка, толькі, набраць, радзіма, падводны, таварыства, форма, зайграць, квартал, бур'ян, акрайчык, марскі, досвіткам, іскрынка, мядзведзь, упрысядкі, народжаны, вечны, сур'ёзны, падысці, трактар.

**7**. Якія склады паводле іх пачатку найбольш тыповыя? Пра што сведчыць ужыванне прыстаўных *в, г,* устаўных *в, й* (ёта) перад галоснымі ў беларускай мове?

Вострыы, завастрыць, вуха, вока, навучэнец, завочнік, Ганна, біёлаг, радыё, вобземлю, возера, вокрык, вугал, вустрыца, гладыёлус, фіялка, чэмпіён, фае, вобраз, волава, вупраж, вобыск, дыягназ, варыяцыя, антыбіётык, водпуск, вопытны, Лявон, завойкаць, павудзіць, завостраны, гэтулькі, дагэтуль, гэй, заворваць, трохвугольнік, гэтак, га, гэты, гэтакі.

**8**. Раскажыце пра фразавы, тактавы і слоўны націск. Праілюструйце гэта прыкладамі з вершаванага маўлення.

**9**. У адных словах беларускай мовы, як і многіх іншых моў, націск прыпадае на першы склад *(ве́расень)*, у другіх – на другі, трэці і г.д. *(гало́ўка, галава́, ахарактарызава́ць* ). Такі націск называюць у беларускай навуковай і навучальнай літаратуры неаднолькава: *разнамесны, рознамясцовы, разнамесцавы.* Апошнім часам часцей ужываюць *разнамесцавы.* Магчыма, гэта стане нормай.

Назавіце яшчэ дзве асаблівасці націску ў беларускай мове і праілюструйце гэта некалькімі прыкладамі.

**10**. Некаторыя словы нарматыўна могуць ужывацца ў дзвюх разнавіднасцях, якія адрозніваюцца месцам націску: *да́рма – дарма́.* Такія разнавіднасці называюцца акцэнтнымі варыянтамі. Часам дваякі націск вядзе і да фанетычных змяненняў (а таксама арфаграфічных), у выніку чаго ўзнікаюць акцэнтна-фанетычныя варыянты: *гаркатá – гаркота, габлявáны – габлёваны, завербавáны – завярбованы.*

Адзначце, якія з пададзеных ніжэй варыянтаў акцэнтныя, а якія – акцэнтна-фанетычныя.

Гняды́ – гне́ды, грабцí – грэбці, за́тычка – заты́чка, камфара́ – ка́мфара, камфора, кайданы́ – кайда́ны, лазíна – лазíна́, догляд – догля́д, доўгі – даўгі́, за́гарадка – загародка, люстраны́ – люстра́ны,

нада́лей – надале́й, па́мятаць – памята́ць, неапра́ўданы – неапраўда́ны, запле́снец – запляснe´ць, коптур – капту́р, навокал – навакол, рася´ны – расяны´, разгайда́ць – разгойдаць, пярэпалах – перапалох, пале́пшанне – паляпшэнне, няскораны – нескароны, мы´сленне – мышле´нне, дайграва́нне – даі́грыванне, су́праць – супроць.

**11**. Пры неабходнасці звяртаючыся да «Слоўніка беларускай мовы» (1987), выпішыце з пададзеных сказаў ці ўрыўкаў словы з няправільнай, памылковай пастаноўкай націску ў іх (ва ўрыўках, узятых з вершаванага маўлення, першае слова кожнага радка падаецца з вялікай літары).

1. У суровай цішы Абняла па чарзе нас Праскоўя: – Праважаю вас, таварышы, Нібы родных сыноў я. 2. Што з ватоўкай? Дзе Ворчык? Дзе сцяг? Што здарылася? Не разумею. Ахапіў мяне холад і жах. Сэрца раптам нямее. 3. Бацька засланіў нас спіной. 4. Другі і званняў нахапаў, і ардэноў. 5. Вучні запісваюць выказванні пісьменнікаў, крытыкаў, грамадскіх дзеячоў, зробленыя імі па пытаннях літаратуры. 6. Ля стала прэзідыума сабралася з дзесятак старшынь і дырэктароў, што хацелі высветліць нейкія пытанні. 7. Сумленне, якое даводзіць алібі, Тым самым сябе асуджае на гібель. 8. А з ягад, з садавіны Такія гоняць віны – Як хопіш шклянку – зойме аж духі! 9. Ізноў Той мэр лагодны, ветлівы і звышласкавы І ў нейкім квартале гатоў Мае кватэрныя ўладзіць справы.

**12**. Абазначце націск у словах.

Ганьба, ганьбіць, пасланец, крыху, зганьбіць, беларусы, таварышы, гліняны, здарыцца, падпарадкаваць, пацвердзіць, пяцёра, таварыства, украінец, выпадак, цяжар, арахіс, стары, загадзя, агрэст, вусы, дасуха, закутак, індустрыя, кулінарыя, мезенец, найвышэй, на працягу, пазіраваць, прасціна, сівы, статус, фартух, цяжкі, каменны, адзінаццаць, прыяцель, жалюзі, бармен, наспех, удалы.

**13**. На якім складзе трэба ставіць націск у асабовых формах дзеяслова *існаваць? Існу́ю, існу́еш, існу́е* ці *існую´, існуе́ш, існуе́?* Супастаўце паказчыкі наступных слоўнікаў:

1. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 т. Т 2. – 1978. – С. 561.
2. *Арашонкава Г.У., Лемцюгова В.П.* Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы. – 1987. – С. 100.
3. Слоўнік беларускай мовы / Пад рэд. М.В.Бірылы. – 1987. – С. 313.
4. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. – 1996. – С. 259.

**14**. Зрабіце фанетычны аналіз слоў (першыя тры пункты схемы «Фанетычны аналіз»; гл. практ. 6б). У з о р: *на жаль* [на-жал’] – двухскладовае слова з націскам на другім складзе; першы склад па пачатку прыкрыты, па канцы – адкрыты; другі склад па пачатку прыкрыты, па канцы – закрыты; націск нерухомы.

На жаль, яшчэ існуюць людзі, што праўды ў іх шукаць дарма. Крычаць: «Сумленне!..» Б’юць у грудзі. А паглядзіш, яго няма. *(Бр.)*

**15.** З якіх частак складаецца маўленчы апарат? Якую ролю адыгрывае ў дзейнасці маўленчага апарата цэнтральная нервовая сістэма?

**16**. Язык здаўна лічыўся ў народным уяўленні асноўным органам маўлення. Як звязваецца з гэтымі ўяўленнямі існаванне ў сучаснай беларускай літаратурнай мове больш за 90 фразелагізмаў і больш як 15 прыказак, у якіх ёсць кампанент *язык?*

Вось толькі некаторыя з іх (у другім абзацы – прыказкі):

Біць язык аб зубы, востры на язык, доўгі язык, пацягнула за язык (каго), прыходзіць на язык (каму), распускаць язык, трымаць язык за зубамі, цяля язык аджавала (каму), што сліна на язык прынясе, язык адняўся (у каго), язык гладка ходзіць (у каго), язык добра падвешаны (у каго), язык заплятаецца (у каго), язык каля вушэй матляецца (у каго), язык меле (чый), язык на шарнірах (у каго), язык не адваліцца (у каго), язык не паварочваецца (у каго), язык развязаўся (у каго), язык свярбіць (у каго), язык у роце не месціцца (у каго), язык як брытва, як язык праглынуў, з языка не спускаць (каго, што), круціцца на канцы языка (у каго), сарваць з языка (у каго), малоць языком, пляскаць языком, даваць волю языку, круціцца на языку (у каго), на языку (у каго).

Язык да Кіева давядзе; Людзям языка не завяжаш; На чужы язык замок не навесіш; Язык без касцей; Язык мой – вораг мой; Хто языком штурмуе, не шмат наваюе.

**17**. Ахарактарызуйце галосныя гукі паводле ўдзелу языка і губ пры ўтварэнні пэўнага гука, называючы рад, падём, лабіялізаваны гэты гук ці нелабіялізаваны.

Аднойчы цёплы вільготны вецер, наляцеўшы з поўдня, нечакана прынёс з сабой першае адчуванне вясны. *(Кр.)*

**18**. Дайце пашыраную характарыстыку галосным гукам паводле іх утварэння, паясняючы паняцці «рад», «пад'ём», «удзел губ». Напрыклад: [о] – галосны гук *задняга рада,* г.зн. пры яго ўтварэнні язык, рухаючыся па гарызанталі, адсоўваецца назад і артыкулюе задняй часткай; *сярэдняга пад'ёму,* г.зн. пры яго ўтварэнні язык, рухаючыся па вертыкалі, займае сярэдняе становішча; *лабіялізаваны,* г.зн. утвораны з удзелам губ.

Адшумеўшы завеямі і сцюжамі, непрыкметна прайшла зіма. *(Кр.)*

**19**. Параўн., якую характарыстыку атрымліваюць галосныя гукі ў сярэдняй школе і на філалагічных факультэтах (напрыклад, у слове *водар*).

**20**. Як характарызуюцца зычныя гукі ў сярэдняй школе? Па якіх прыкметах класіфікуюцца зычныя гукі ў курсах «Уводзіны ў мовазнаўства» і «Сучасная беларуская літаратурная мова»?

**21**. Калі разглядаць зычныя гукі паводле цвёрдасці і мяккасці, то 30 зычных утвараюць 15 суадносных, адпаведных пар, напрыклад: [б] і [б'], [в] і [в']. Назавіце адпаведныя парныя мяккія да гукаў [д] і [т] і праілюструйце словамі-прыкладамі.

**22**. Вызначце, колькі мяккіх зычных у прыведзеных словах.

Вераб'і, аб рамантызме, з Нёмана, адмесці, падбіваў, па камандзе, спісаў, в'етнамка, транзіт, юнацкі, раз'ездзіць, у Юрмале, аб капіталізме, мацнеў, цвёрды, сферычны, сем'янін, свядомасць, аб'іньваць, кусцік, канцік, гнеў, з песнямі, дзверы, канверт, бландзін, бензін, канвенцыя, дранцвець, згінуць, брытве, з неба, на фронце, канспект, пенсія, збуцвелы, подзвіг, звесткі, схібіць, схільнасць, апладысменты, плазменны, пяскі, праспект.

**23**. Сярод 9 няпарных зычных па цвёрдасці-мяккасці адзін гук – [й] (ёт) – заўсёды мяккі, астатнія 8 – цвёрдыя. Назавіце гэтыя гукі, ілюструючы іх ужыванне ў словах.

**24**. Адзначце словы, у якіх ёсць няпарны цвёрды [дз].

Адзаду, адзнака, адзначыць, адзываць, водзыў, дзвынканне, дзылінканне, дзын-дзын, дзынкаць, ксяндзы, надзвычайны, нэндза, падзол, падзорны, дзвынкаць, падзублены, падзываць, пэндзаль.

**25**. У падручніку «Беларуская мова. Ч. 1» (1968) М.І.Гурскага, М.Г.Булахава, М.Ц.Марчанкі да санорных зычных аднесены толькі [м], [м'], [н], [н'], [л], [л'], [р] (с. 89). Чаму, апрача гэтых, санорнымі трэба лічыць і такія: [в], [в'], [ў], [й]?

**26**. Назавіце глухія зычныя, якія знаходзяцца ў парных суадносінах са звонкімі [г], [д], [дж], [дз].

**27**. Ахарактарызуйце зычныя гукі паводле цвёрдасці-мяккасці, удзелу голасу і шуму, месца ўтварэння і спосабу ўтварэння. Пры гэтым характарызуйце толькі тыя зычныя, якія знаходзяцца ў моцнай пазіцыі.

Тры стагоддзі заходні брат ратаваў, браў у абдымкі уніяў. Тры стагоддзі ўсходні брат вызваляў, на лад праваслаўны выструньваў, каб яшчэ два стагоддзі даводзіць царскі міф аб адзіным народзе... *(В.З.)*

**28**. Рашыце фанетычныя прапорцыі:

Кажу : кашу = хаджу : ?; чыжык : джынсы = суп : ?; брат : брацЬ == воз : ?; зала : ? = год : ход; біць : піць = дзень : ?; [ж] : [з'] = [?] : [с']; [д] : [б] = [т] : [?]; [п] : [м] = [?] : [л]; [х] : [?] = [п] : [б]; [і] : [у] = [э] : [?]; [і] : [?] = [у] : [о].

**29**. Вызначце, якое слова маецца на ўвазе, калі ў ім: п е р ш ы гук – зычны, шумны, шчылінны, пярэднеязычны, глухі, зацвярдзелы; д р у г і гук – галосны, сярэдняга рада, ніжняга пад'ёму, нелабіялізаваны; т р э ц і гук – зычны, санорны, пярэднеязычны, вібрант, зацвярдзелы.

**30**. Што называецца пазіцыйнымі зменамі гукаў? Выпішыце з тэксту (урывак з аповесці В.Быкава «Бліндаж») словы, у якіх ёсць пазіцыйныя змены галосных, звязаныя з дзеяннем фанетычных законаў акання ці якання.

Тыдзень ішоў нудны халодны дождж, мачыў і без таго намоклую ўжо зямлю. Дарога зусім раскісла, гразь распаўзлася пад нагамі, па каляінах сабраліся і нікуды не сцякалі мутныя лужыны. Нават сцежка наўзбоч за канавай і тая не высыхала за тыя невялікія прамежкі, як трохі пераставаў дождж, была слізкая і сцюдзёная. Лепей за ўсё было ісці па дробнай, таксама змакрэлай траўцы наўскрай бульбянішча, дзе пакапанага, з параскіданым, парудзелым бульбоўнікам, а дзе і з нечапанымі яшчэ баразёнкамі бульбы. Бульба, відаць па ўсім, пойдзе пад снег, памерзне, капаць яе ўжо не было каму – вёскі, лічы што, не стала: пагарэла, паруйнавалася дашчэнту гэтая невялічкая вёсачка. Ды і іншым тут дасталося, мабыць, не менш, і цяпер здаля з-за абпаленых дрэў сям-там вытыркаліся закапцелыя печы з абламанымі камінамі, рэшткамі смярдзючага дыму дыхалі недагарэлыя пажарышчы. Дзіва што – столькі жахлівых дзён усё тут грымела ад жудасных выбухаў, хадуном

хадзіла зямля, скрозь у паветры віраішчала і скрыгатала, а ад дыму нельга было прадыхнуць нават у яме на бурачніку, дзе тады хавалася цётка Серафімка.

**31**. У падручніку «Беларуская мова. Ч. 1» (1968, с. 82-83) М.І.Гурскага, М.Г.Булахава, М.Ц.Марчанкі чытаем: «У другім, трэцім і іншых складах перад націскам, а таксама ва ўсіх складах пасля націску паміж цвёрдымі (або зацвярдзелымі) зычнымі галосныя *а, о, э* вымаўляюцца з найбольшым аслабленнем (рэдукцыяй) – як кароткае *а*, якое набліжаецца да кароткага *ы* (такі гук умоўна будзем абазначаць літарай ъ), напрыклад: *дараваць* (дъравáц'), *начаваць* (нъчавáц'), *шасцярня́* (шъсц'арн'á), *раскáзваць* (раскáзвъц'), *вы́насіць* (вы́нъсіц'), *вы́чарпаць* (вы́чърпъц'). Паміж мяккімі зычнымі ці мяккім і цвёрдым (або зацвярдзелым) галосныя *а, э* таксама вымаўляюцца з найбольшым аслабленнем – як кароткае *э*, якое набліжаецца да кароткага *і* (гэты гук умоўна будзем абазначаць літарай ь), напрыклад: *цягавíты* (ц'ъгав'íты), *цяжкавáты* (ц'ъжкавáты), *лебядá* (л'ьб'адá), *верацянó* (в'ърац'янó)».

Аднак параўн. у акадэмічнай «Беларускай граматыцы. Ч. 1» (1985, с. 42-43): «Гукі [о], [е], [а] пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных ва ўсіх ненаціскных складах вымаўляюцца як гук [а], а на пісьме абазначаюцца літарай *а*. Ненаціскны [а] больш кароткі, чым [а] націскны, але зусім выразны. Напрыклад, [дайу́], [кáн'а], [ракá]. Розніцу ў вымаўленні [а] у розных ненаціскных складах – [ламáц'], [ламавы́], [вы́ламац'], [разáк], [вы́разаў], [давáў], [вы́даў] – на слых вызначыць амаль немагчыма. Таму практычна, відаць, няма патрэбы іх размяжоўваць...

Гукі [о], [е], [а] пасля мяккіх зычных супадаюць у гуку [а] (арфаграфічна *я*) толькі ў першым складзе перад націскам: [н'асу́], [в'аслó], [с'алó], [л'асы́], [гл'адз'í]. Ва ўсіх іншых складах галосным [е], [о] адпавядае галосны [е]: [с'ел'ан'íн], [вы́н'ес], [вóз'ера], [пóл'е], [прыйéдз'е]. Галосны [а] тут можа быць толькі ў тых выпадках, калі ён узыходзіць да этымалагічнага [а]: *пятачок, пяцярня, ляскатанне, лямантаваць* і г.д.

Частка слоў дапускае вымаўленне [і] на месцы [е]: [н'амá] і [н'імá], [дз'ав'áты] і [дз'ів'áты], [дз'ас'áты] і [дз'іс'áты]».

Якое з гэтых сцвярджэнняў больш дакладнае?

**32**. Сярод фанетычных працэсаў у галіне зычных адрозніваюць пазіцыйныя змены, абумоўленыя пазіцыяй гука ў слове, і камбінаторныя змены, якія ўзнікаюць ад уплыву аднаго гука на другі. Пералічыце асноўныя працэсы ў галіне зычных.

Запішыце па пяць прыкладаў-слоў з аглушэннем звонкіх зычных на канцы слова, у тым ліку па два прыклады з аглушэннем двух звонкіх зычных (накшталт: *з'езд*).

**33**. Што называецца асіміляцыяй? Прывядзіце прыклады на асіміляцыю поўную і няпоўную, рэгрэсіўную і прагрэсіўную, слоўную і міжслоўную.

**34**. Вызначце разнавіднасці асіміляцыі (па мяккасці, звонкасці, глухасці, шыпячых да свісцячых, свісцячых да шыпячых). Дайце разгорнутую характарыстыку асіміляцыі (поўная ці няпоўная, рэгрэсіўная ці прагрэсіўная, слоўная ці міжслоўная).

Адкрыццё, расчынены, абедзве, з журавін, абхапіць, скідкі, лічбіна, пад канец, перабежчык, без яго, арабскі, узмежжа, водсвет, у вазачцы, праходчык, экзотыка, вяселле, рыбка, мосцік, раздзел, збег, сведка, на кладцы, барзджэй, падчарка, рукзак, мозг, носчык, адсвечваць, з жахам, не парэжся, ад хаты, адказчык, без шуму, расчуліцца, паказчык, брусчатка, адцвісці, адценне, на палачцы, без сястры, з хлебам, следчы, ад цябе, над табой, свет, сучча, малацьбіт, з зімы, збярэшся, дождж, прыязджаць, футбол, праз жыта, хрэсьбіны, з людзьмі, экзотыка, сняданак, прынесці, злазьце, счарсцвелы, дранцвець.

**35**. Адзначце фанетычны працэс, які носіць назву сцяжэння гукаў (або кансанантнай кантракцыі).

Нарвежскі, свецкі, купецкі, гарадоцкі, галандскі, фламандскі, калужскі, выбаргскі, салдацкі, налібоцкі, дойлідскі, івянецкі, абхазскі, старасвецкі, старадарожскі, чэхаславацкі, галандскі, вынаходства, хараство, адвакацкі, княства, адэскі, крыжацкі, флоцкі, шатландскі, алеуцкі, глядацкі, каморніцкі, егіпецкі, асветніцкі, белавежскі, лабаранцкі, уніяцкі, кіргізскі, кар’ерысцкі, сілезскі, латышскі, абхазскі.

**36**. Раскажыце пра гістарычныя чаргаванні гукаў. Чым яны адрозніваюцца ад пазіцыйных і камбінаторных змен?

**37**. Адзначце гістарычныя чаргаванні галосных.

Сон – сне, шэсць – шосты, жую – жаваць, злую – злаваць, кіснуць – квас, замок – замыкаць – замкнуць, дзерці – здзіраць, дзеці – дзіця, кую – каваць, клюю – кляваць, плысці – плаваць, везці – воз, псую – псаваць, падняць – паднімаць, памяць – успамін – успомніць – памінаць, семя – семянны, сухі – сохнуць – высыхаць, сную – снаваць, цкую – цкаваць, дрогнуць – дрыгва, роў – рыць, блеск – блішчаць, кашалёк – кашалька, пень – пня, свет – світаць, лезці – лазіць, плюю – пляваць, зімую – зімаваць, збіраць – збяру – збор – сабраць, замок – замыкаць – замкнуць, дух – дыхаць, гасцюю – гасцяваць, існую – існаваць, кую – падкова – падкоўваць, узяць – вазьму, мяць – мну, крошка – крышыць, гнаць – ганю, вітаць – ветлівы, вяжу – вузел, біць – бойка, бяру – браць.

**38**. Адзначце гістарычныя чаргаванні зычных.

Лавіць – лаўлю, любіць – люблю, друг – дружу, піск – пішчу, графіць – графлю, страх – страшыць, кляпаць – скляплю, плата – плачу, пісаць – пішу, хапаць – схаплю, чапаць – чаплю, вадзіць – ваджу, вазіць – важу, вуха – вушка, ламаць – ламлю, плаціць – плачу, крык – крычу, сухі – сушу, піск – пішчу, суд – суддзя, бераг – беражок, мех – мяшок, памагу – памажы, рука – руцэ, гарох – гаросе, рабіў – рабіла, славіць – слаўлю, насіць – нашу, рака – рэчка, клікаць – клічу, страх – страшыць, муха – мусе, галава – галоўка, казаць – кажу, карміць – кармлю, хадзіць – хаджу, карова – кароўка, касіць – кашу, рог – ражок, драмаць – драмлю, магу – можаш, глухі – глуш, гарох – гарошак, пускаць – пушчу, дзіва – дзіўлюся, гадаваць – гадоўля.

**39**. У якіх словах маем справу з гістарычнымі чаргаваннямі, а ў якіх – з пазіцыйнымі ці камбінаторнымі зменамі?

Прывыкаць – прывычка, іграць – адыграць, пілот – аб пілоце, клубок – клубкі, пісала – пісаў, сад – саджу, сыпаць – сыплю, берагі – беражок, касіць – касьба, неба – у небе, драбіць – драбленне, чысты – начышчаць, скрывіць – скрыўленне, збіраюся – збор, арэх – арэшнік, бабёр – бабровы, лёд – ледзяны, біць – б’ю – бой, белы – бялявы, развага – разважаць, доўга – даўжэй, смех – усміхацца, пагроза – пагражаць, кветкі – квяцісты, рака – рэчку, сасна – сасновы, дзвесце – двумстам,

падысці – ісці, пяку – пячэш, рад – радок, дровы – дрывотня, збіраць – сабраць, сотня – сто, дзяжа – дзежка, сухі – сушэйшы, мёд – мядок, сяліцца – паселішча, імя – імёны, знімаць – зняць, Сцёпа – Сцяпан, квасіць – квашаная, выдумка – выдумляць, узнагарода – узнагароджаны, чытала – чытаў, пясок – пясчаны, стрэл – страляць, цвет – цвісці, просты – спрашчэнне.

**40**. Раскажыце пра гістарычнае чаргаванне [л] : [ў]. Паспрабуйце растлумачыць, чаму ў адных выпадках гэта чаргаванне адбылося *(воўк, шоўк, чытаў)*, а ў другіх *(стол, палка, галка, балкон, калгас)* [л] не пераходзіць у [ў].

**41**. Што вывучае фаналогія, калі яе разумець як раздзел фанетыкі? Што называецца фанемай? Якая розніца паміж фанемай як адзінкай мовы і алафонам як адзінкай маўлення? Праілюструйце гэта на якім-небудзь прыкладзе. Колькі фанем у беларускай мове, у тым ліку галосных і зычных? Якія існуюць разыходжанні пры аднясенні [ы], [ў], падоўжаных зычных да ліку фанем?

**42**. Раскажыце пра моцныя і слабыя пазіцыі фанем. Адзначце фанемы, якія знаходзяцца ў моцнай пазіцыі.

1. Змайстравана вуда хвацка і найлепшым чынам: гнецца, слушнае, па-брацку вудаўё з ляшчыны. *(В.З.)* 2. Хмельная цяплынь накшталт паэтычнага ўздыму раптам напоўніла мае грудзі і сціснула пяшчотным болем горла... *(Д.-М.)*

**43**. У фаналогіі адрозніваюць некалькі тыпаў іх гукавых рэалізацый фанемы: варыянты, варыяцыі, гіперфанемы, марфанемы. «Вылучаюць таксама і асноўны алафон, які выступае ў моцнай пазіцыі і, такім чынам, з’яўляецца найменш пазіцыйна залежным» (В.І.Рагаўцоў).

Выдзеліце фанемы з уласцівымі ім варыянтамі і варыяцыямі ў корані слоў. Выкарыстоўвайце і тэрмін «асноўны алафон».

Каса – у касе, вада – воды – вадзе, рэчка – рака – ракі, казаць – казка, кніга – кнігі – кніг, горад – гарады, дом – у доме – дамы, малаціць – малацьба, дарога – дарогі – дарог, ножык – нажы – нож, воз – возам – на возе – вазы, том – тамы – у томе, лічыць – лічба, збор – збіраць.

**44**. У штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» (1981. 5 чэрв.) пра тагачасны падручнік для 4 класа «Беларуская мова» Н.Шэўчыка і А.Амяльковіча гаварылася, што ў аўтараў падручніка свой уласны погляд на фанетычны разбор слова: «У многіх выданнях падручніка на прыкладзе разбору слова *прыязджаць* (у фанетычнай транскрыпцыі: *прыйажджац'*) паказваецца, як рабіць фанетычны аналіз, пры гэтым характарызуецца не гук [ж], а [з]. Калі адна настаўніца звярнулася ў рэдакцыю часопіса «Народная асвета» з пытаннем, чаму ж гэта трэба характарызаваць гук [з], якога фактычна ў слове няма, адзін з аўтараў падручніка растлумачыў (Народная асвета. – 1977, № 5, с. 54): «Нашы дзеці і без навукі гавораць правільна: *горат, прозьба, маладзьба, лотка, прыяжджаць*, а вось каб яны правільна пісалі *горад, просьба, малацьба, лодка, прыязджаць*, іх трэба вучыць і вучыць, настойліва, штодзённа, сістэматычна... Вопытныя настаўнікі вучаць дзяцей не толькі трымацца правіл вымаўлення (арфаэпіі), але яшчэ ў большай ступені норм правапісу».

Дакажыце, што прыведзенае «растлумачэнне» няправільнае. Што з’яўляецца непасрэдным аб’ектам фанетычнага аналізу: гукі ці літары?

**45**. Азнаёмцеся з рознымі пунктамі гледжання на падоўжаныя і падвоеныя зычныя і абгрунтуйце сваё меркаванне.

1. У падручніку для 4 класа «Беларуская мова» Н.Шэўчыка і А.Амяльковіча чытаем: «Падаўжэнне гукаў трэба адрозніваць ад падваення. Так, у слове *каменне* – адзін падоўжаны гук *н*, а ў слове *каменны* – два гукі (адно *н* карэннае, другое – суфіксальнае)». У поўнай адпаведнасці з гэтым настаўнік будзе патрабаваць ад вучняў, каб яны пры фанетычным аналізе слоў *каменне* і *каменны* вылучалі ў першым 6 гукаў, а ў другім – 7. Але ці так гэта?

У абодвух словах тут па 6 гукаў, прычым адзін з іх падоўжаны ці доўгі, які адрозніваецца ад звычайнага працягласцю вымаўлення. З фанетычнага пункту гледжання, калі мы характарызуем гукі слова, няма розніцы, ці падоўжаны гук (у слове *каменне*) утварыўся на месцы старажытнага спалучэння «зычны + й», ці ён узнік (у слове *каменны*) у працэсе словаўтварэння на мяжы дзвюх марфем.

З такімі падоўжанымі (падвойнымі) гукамі сустракаемся і ў словах *смяецца, адзінаццаць, насценны, ванна, надта* (вымаўляем: *натта*), *мяккі, аддаць, бясшумна* (вымаўляем: *бяшшумна*), *адчыніць* (вымаўляем: *аччыніць*), *вучышся* (вымаўляем: *вучысся*) і г.д. У слове *падчытчык* 9 літар і 7 гукаў, у тым ліку два доўгія [ч] (*Лепешаў І.* Ці так вучым дзяцей? // Літаратура і мастацтва. 1981, 5 чэрв.).

2. Звычайна ў фанетыцы беларускай мовы адрозніваюць *падоўжаныя і падвоеныя* зычныя. Пра падваенне гавораць тады, калі мяжа паміж марфемамі, адна з якіх з'яўляецца прыстаўкай або суфіксам, праходзіць такім чынам, што зычны падзяляецца на два аднолькавыя: *з-заду, с-садзіць, ад-даць, камен-ны* і г.д. У гэтым выпадку ніхто не сумняваецца, што фанетычна падоўжаныя зычныя трэба разглядаць як дзве фанемы.

Што да падоўжаных, якія знаходзяцца на мяжы кораня і канчатка, то адны даследчыкі разглядаюць іх таксама як дзве фанемы, а іншыя лічаць асобнымі падоўжанымі фанемамі. Тут маюцца на ўвазе выпадкі, калі падаўжэнне ўзнікла на месцы былых спалучэнняў зычных (якія адносіліся да кораня) і [j] (які быў суфіксам): *палоззе, насенне, калоссе, вуголле, жыццё, моладдзю, зацішша, збожжа, суччa*. Такім жа чынам разглядаюцца падоўжаныя ў запазычаннях тыпу *ванна, Мекка, бонна, манна*, а таксама ў некаторых уласна беларускіх словах, марфемная структура якіх у выніку гістарычных змен аказалася невыразнай (*ссаць, ззяць, мяккі*)...

Паколькі падоўжаныя зычныя з пункту погляду артыкуляцыі і акустыкі нічым не адрозніваюцца ад падвоеных, а апошнія разглядаюцца як спалучэнне дзвюх фанем, узнікае магчымасць разглядаць і падоўжаныя зычныя як дзве фанемы...

Ва ўсіх выпадках фанетычна падоўжаныя зычныя варта разглядаць як спалучэнне дзвюх аднолькавых зычных фанем (*Крывіцкі А.А., Падлужны А.І.* Фанетыка беларускай мовы. – Мінск, 1984. – С. 120-124).

3. У дапаможніку [«Фанетыка беларускай мовы» А.А.Крывіцкага і А.І.Падлужнага] даказана, што як пры марфалагічным падаўжэнні (на стыку марфем: *ад-даць, камен-ны*), так і пры фанетычным (*насенне, калоссе, мышшу*) маем справу не з адной падоўжанай, а з дзвюма аднолькавымі зычнымі фанемамі. Думаецца, аднак, што пры фанетычным аналізе слова падоўжаныя зычныя, паколькі яны артыкуляцыйна і

акустычна ўяўляюць сабой адзіны элемент, павінны кваліфікавацца як адзін доўгі гук, які з'яўляецца варыянтам дзвюх аднолькавых фанем (*Лепешаў І.Я.* Грунтоўнае апісанне фанетыкі // Народная асвета. 1986, № 6, с. 78-79).

4. У беларускай мове фанетычна (артыкуляцыйна і акустычна) могуць падаўжацца амаль усе зычныя... Такая якасць зычных (падоўжанасць / непадоўжанасць) можа адрозніваць словы і іх формы; параўн.: *па ле*[с'']е і *Пале*[с'']е (*па лесе* і *Палессе),* [*ш*]*ыць* і [*ш*]*ыць (шыць* і *сшыць),* [*з'*]*яць* і [*з'*]*яць, вара*[*н'*]*ё* і *вара*[*н'*]*ё* і г.д. (*Рагаўцоў В.І.* Уводзіны ў мовазнаўства. – Магілёў, 2004. С. 57).

**46**. Схема ф а н е т ы ч н а г а  а н а л і з у: 1) транскрыпцыя слова і падзел на склады; 2) колькасць складоў і месца націску; націск рухомы ці нерухомы; 3) характарыстыка складоў (паводле пачатку і канца); 4) характарыстыка гукаў і вызначэнне пазіцыйных і камбінаторных змен (аканне, аглушэнне, асіміляцыя, падаўжэнне, сцяжэнне гукаў). Галосныя характарызуюцца паводле рада, пад'ёму, удзелу губ. Зычныя характарызуюцца паводле цвёрдасці-мяккасці, удзелу голасу і шуму, месца ўтварэння і спосабу ўтварэння.

У з о р: *рэдкі* [рэ-ткі] – двухскладовае слова з націскам на першым складзе; націск нерухомы; першы склад – прыкрыты, адкрыты; другі склад – прыкрыты, адкрыты.

Р – зычны гук (асноўны алафон фанемы <р> у моцнай пазіцыі), цвёрды (няпарны), санорны, язычны, пярэднеязычны, дрыжачы.

Э – галосны гук (асноўны алафон фанемы <э> у моцнай пазіцыі), пярэдняга рада, сярэдняга пад'ёму, нелабіялізаваны.

Т – зычны гук (варыянт фанемы <д> у слабай пазіцыі – як вынік няпоўнай рэгрэсіўнай асіміляцыі па глухасці), цвёрды (парны), шумны, глухі (парны), язычны, пярэднеязычны, змычны.

К – зычны гук (варыяцыя фанемы <к> у моцнай пазіцыі), мяккі (парны), шумны, глухі (парны), язычны, заднеязычны, змычны.

І – галосны гук (варыяцыя фанемы <і> у слабай пазіцыі), пярэдняга рада, верхняга пад'ёму, нелабіялізаваны.

Зрабіце фанетычны аналіз слоў у сказах.

1. Сядзіць дзед Агей без шапкі на камені. Не мігаючы, глядзіць дзед на паплавок, на галачку хлеба, што гойдаецца на кручку ля самага дна. *(Крап.)* 2. Колькі ўжо стагоддзяў мова наша – косткаю ў горле розных каланізатараў краю. *(М.Г.)*

## Арфаэпія

**47**. Існуюць адзіныя, абавязковыя для ўсіх носьбітаў мовы нормы літаратурнага вымаўлення, якія, аднак, нярэдка парушаюцца па розных прычынах. Назавіце тры асноўныя прычыны адхіленняў ад арфаэпічных нормаў літаратурнай мовы.

**48**. У мастацкіх творах пісьменнікі часам абгрунтавана выкарыстоўваюць фанетычныя дыялектызмы для маўленчай характарыстыкі персанажаў. Адзначце такія словы (з асаблівасцямі мясцовых гаворак) у прыведзеных сказах.

1. Ціхо ты, ціхо, Ганначко! *(І.М.)* 2. Корч ездзіў у мясцечко па дохтара. *(І.М.)* 3. – І не абрыдне ім [рыбу вудзіць]!.. – Бо нічого іншаго, Майсак, не маюць да работы!.. От, дурнота ўсё і разбэшчанасць! *(Карп.)* 4. А вам ето важно знаць? *(І.М.)* 5. Вечарам набліжаюсо да поля – штось бомкае, а ветру няма! Ліхо на яго, чэрці звоняць, ці што?! *(Карп.)* 6. Прынясіце спадніцу, каторая ў клетку, кохту хвабрычную, чаравікі і

хвартух белы! *(І.М.)* 7. А чаму сонцо раніцой жоўтае, вялікае, а днём – белае і малое? І як гэто брычка Шастаковіча едзе ўперад, калі колы яе круцяцца назад? *(Карп.)* 8. Ты, мабуць, б'ешся балюча. *(І.М.)* 9. Колісь мы з Ляксандрам егдзілі ў Канаду, памятаеш, Волесь? *(Карп.)* 10. Кеб з таго кавалка, што каля цагельні, дасталося. То б надзел буў!.. *(І.М.)*

**49**. У некаторых беларускіх гаворках звонкія гукі [б], [г], [д], [дж], [дз], [з], [ж] на канцы слоў і перад глухімі не аглушаюцца, а глухія перад звонкімі не азванчаюцца. Як у адпаведнасці з арфаэпічнымі нормамі трэба вымаўляць наступныя словы?

Хлеб, боб, грыб, дуб, луг, мітынг, вораг, металург, дзед, агарод, сад, холад, катэдж, дождж, ксёндз, моладзь, газ, вылез, груз, скрозь, туз, адрэж, замуж, галубка, жэрдка, сцежка, суседка, бабка, лыжка, бегчы, лёгка, блізка, жарэбчык, сядзьце, едзьце, казка, футбол, касьба, барацьба, просьба, малацьба, носьбіт, баскетбол.

**50**. Няправільнае вымаўленне асобных гукаў выклікаецца і ўплывам рускай арфаэпіі, змешваннем арфаэпічных нормаў беларускай і рускай моў. Назавіце асаблівасці вымаўлення ў рускай і беларускай мовах, напрыклад, гукаў [ч], [р], [г]. Якія парушэнні арфаэпічных нормаў сустракаюцца ў гэтай сувязі пры вымаўленні прыведзеных слоў?

Чалавек, начальнік, вечар, гоншчык, згушчаць, карчаваць, росчырк, голуб, восем, б'юцца, чатырохстопны, начаваць, чаго, яго, яфрэйтар, гаварыць, горад, кангрэс, кангалезец, магніт, ягадка, ягуар, чэчэнец, угон, уголас, угадваць, дрожджы, даслоўна, дырэктар, настаўнік, заўтра, праўда, на ўра, роўны, яўрэй, ураўненне, урач, дзеці, дзяўчына, адзенне, цела, дацiснуць, дзверы, дзіва, дзюбка, высокага, няўмелага, шчасце, шчыры, пятага, нашага, шчодры, шчаўчок, вашага, смелага, вераб'ю, залатога, шчаўе, Шчучынскі раён, рогат, рэбус, выразка, харызма, трохвугольнік, вуліца, вокны, вучаніца, даўно.

**51**. Прачытайце ўрывак з апавядання К.Крапівы «Мой сусед» (1927) і скажыце, чаму школьнік-беларус ніяк не мог навучыцца гаварыць «рюмка». У апавяданні расказваецца пра прыстасаванца-настаўніка Лукавіцына, які прыстасоўваўся да палітычных абставін і адпаведна мяняў сваё прозвішча: пры цары быў Лукавіцыным, пры паляках – Цыбульскім, а ў часы беларусізацыі «стаў шчырым беларусам» Міхасём Цыбулевічам.

Настаўнікам Лукавіцын быў – пашукаць такога: старанны, паслухмяны і заўсёды ў начальства на відавоку. Да вучняў ён адносіўся па-бацькоўску строга і клапаціўся не толькі аб іх ведах, але і аб выхаванні, і аб набыцці імі добрага тону. Аднаму, напрыклад, свайму вучню ён паставіў чатыры па паводзінах за тое, што вучань прайшоў па вуліцы са сваёй знаёмаю дзяўчынаю. Другога вучня Лукавіцын пяць разоў выклікаў на зіме, дамагаючыся, каб той сказаў «рюмка». Вучань кожны раз гаварыў «румка» і садзіўся з «едзініцаю».

Клопаты Лукавіцына аб чыстаце вымаўлення «рюмкі» скончыліся тым, што вучань у канцы года меў «круглую едзініцу» і канчаткова «сеў» на другі год, а настаўнік быў здаволены, што выпаўніў свой абавязак.

**52**. Часам пад уплывам арфаграфіі вымаўляюць словы так, як прывыклі іх пісаць; напрыклад, *адкусіць, вучышся, не быў, бязлітасны* замест [*ат*]*кусіць, вучы*[*с'а*], [*н'а*] *быў,* [*б'аз'*]*літасны.* Адзначце аналагічныя магчымыя арфаэпічныя няправільнасці.

Не хочацца, не думаў, без страху, без шуму, не трэба, дзівішся, імкнешся, злуешся, купаешся, асмелішся, цікавішся, на печцы, на рэчцы, зжаты, сшытак, счапляць, перапісчык, на полачцы, у сутычцы, падмазчык, світанне, разбіць, след, сцвярджаць, сліва, збегчы, смех, спіс, расцвісці, цвет, цвік.

**53**. Пры вымаўленні і напісанні некаторых слоў дапускаецца варыянтнасць у межах нормы. Напрыклад, у нарматыўных слоўніках падаюцца як аднолькава дапушчальныя варыянты *канешне* і *канечне, жаваранак* і *жаўранак, калодзеж [калоz'эш]* і *калодзесь [калоz'эс']*. Пры неабходнасці звяртаючыся да нарматыўнага «Слоўніка беларускай мовы» (1987), дапішыце да слоў (пасля працяжніка і шматкроп'я) варыянты гэтых слоў.

Замгліць – …, ігруша – …, даімчаць – …, аржаны – …, іграць – …, зарава – …, мачаха – ..., водар – ..., загаворваць – …, квоканне – …, зблякнуць – …, змёрзнуць – …, даіграць – …, квактуха – …, крактун – …, сутарга – …, кафтан – …, траверса – …, кмен – …

**54**. Асноўныя правілы беларускага літаратурнага вымаўлення зводзяцца да вымаўлення галосных і спалучэння галосных, вымаўлення зычных і спалучэння зычных, вымаўлення некаторых граматычных формаў і правілаў пра націск у словах.

Як вымаўляюцца ўсе астатнія націскныя галосныя, апрача [і]? Раскажыце, як вымаўляецца націскное [і] у пачатку слова, а таксама пасля галоснага ў сярэдзіне і на канцы слова. У якіх з пададзеных слоў развіўся ў вымаўленні прыстаўны [й] (ёт)?

Івалга, івасі, ігла, ідал, іжыца, Заір, заінець, іголка, ігра, ігрушавы, Іўе, Іван, імя, заіка, ігрэк, ідыёма, ідэал, ідэйны, краіна, тваіх, маіх, іканне, ікаўка, ікнуць, ікс, іл, ізатоп, ізгой, ізноў, іменна, імпульс, па-іхняму, іхні, Індыя, іней, інець, здваіць, даіць, інстытут, інсульт, ісці, іністы, ісціна, у гаі, у баі, салаўі, ізюм, ікона, ікра, іншае, іншы, ірад, іск, ілгаць, імі, па-іншаму, паіць, імпэт, імша, індык, паілка, іскарка, іскра, інакш, індыйцы, існасць.

**55**. Што такое поўнае аканне? Як трэба вымаўляць ненаціскныя галосныя гукі ў наступных словах?

Асабліва, арганізм, стараста, чатыры, пачуць, малавата, грамада, ахарактарызаваць, барада, галава, грамадазнаўства, малады, выпрацоўваць, цагляны, выламаць, выразаць, ажаніцца, шарсцяны, ацаніць, высакавата, навастрыць, дапамагчы, прагаладацца, прагаласаваць, гараваць, ганарыцца, вадавоз, дранnаваты, сарцавіна, халады, вадзяны, драмлю, закутак, праснаваты, дарагаваты.

**56**. Растлумачце, чаму галосныя [о], [э] не пад націскам у адных выпадках вымаўляюцца як гук [а], а ў другіх – як [ы].

Воды – вада, рэкі – рака, узгорак – гара, прэсны -- праснак, кроў – крыві, хрэсьбіны – хрышчэнне, гром – грыміць, скрогат – скрыгатаць, бровы – брыво, дрогкі – дрыжыкі, крошка – крышыць, блохі – блыха,

глотка – глытаць, брод – брысці, дровы – дрывотня, брызент, трывога, рысора, цырымонія.

**57**. Растлумачце, чаму ненаціскны гук [э] пасля цвёрдых зычных у адных словах падлягае замене на [а], а ў другіх – захоўваецца.

Жэмчуг – жамчуговы, шэсць – шасцёра, рэчка – рачны, крэмль – крамлёўскі, эгаіст, эканоміка, экзамен, эзопаўскі, эйфарыя, экватар, экзекутар, эксгумацыя, экран, рэжым, рэзервуар, рэзон, рэйхстаг, рэкамендацыя, цэлафан, цэлулоід, цэмент, цэнзура, цэнтралізм, тэарэма, тэатр, тэзаўрус, атэіст, тэлеатэльe, дэбош, дэпутат, дэвіз, дэманстрацыя, дэлегат, дэкада, рэзюмэ, рэнамэ, экзэмпляр, эфіоп.

**58**. Што такое няпоўнае яканне? Як вымаўляюцца галосныя [о], [э] ў першым пераднаціскным складзе пасля мяккіх зычных?

Вясковы, вятры, селянін, нясмелы, бязмежны, землямер, бранябойны, сяляне, бяроза, Валянцін, дзяўчына, бервяно, бляхар, бярлог, бярозавік, бягонія, бязвыезна, весялун, васьмярык, верацяно, вясёлка, дзяцюк, змеявік, каляіна, клеяварня, кляймо, князёўна, ільвяня, лядоўня, медзведзяня, мятліца, напярэдадні, нацянькі, няўзнак, пабядзіт, папяроса, паслязаўтра, прад’явіць, прасвятліць, пруцяны, пярсцёнак, семярык, сянаж.

**59**. Як вымаўляецца часціца *не* і прыназоўнік *без* у пададзеных прыказках?

1. Не адзін Гаўрыла, што ў Полацку. 2. Не бойся таго сабакі, што брэша, а бойся таго, што лашчыцца. 3. Не было ні граша, а раптам алтын. 4. Не варта шкурка вырабу. 5. Без Бога ні да парога. 6. Без гаспадара і дом сірата. 7. Без мукі няма навукі. 8.Сэрца не камень. 9. Адзін у полі не воін. 10. Дзеўка не конь, вупраж не накінеш. 11. Дзіця не плача, матка не дагадаецца. 12 Праўда не скварка, з кашаю не з’ясі. 13. Смех без прычыны – прызнак дурачыны. 14. Ружы без калючак не бывае. 15. Шавец заўсёды <ходзіць> без ботаў. 16. Няма гаду без яду. 17. Свет не без добрых людзей. 18. У сямі нянек дзіця без носа.

**60**. Растлумачце, чаму ў адных словах неславянскага паходжання (і вытворных ад іх) пасля мяккіх зычных у першым складзе перад націскам вымаўляецца [э], а ў другіх – [а].

Метро, сезон, сезонны, легенда, легендарны, калектыўны, медаль, метровы, аперацыя, дзяжурны, яфрэйтар, сяржант, каляндар, ялейны, яўрэй, бейсбол, берэт, веранда, вердыкт, галерэя, гектар, камерсант, манекен, мармелад, капялюш, рэгуляваць, маляваць, цыркуляваць, меню, малярыя, шавялюра, мянтуз, язмін, мінерал, пергамент, пенал, пельмені, янот, янтар, ярлык, пейзаж, педаль, плеўрыт, сегмент, секунда, ядваб, яхтсмен, сенат, сервіз, яхідна, фенол, экзаменатар.

**61**. У нас ёсць амаль сотня слоў, і складаных у тым ліку, з коранем *пяць: пяцёра, пяцярня, пятачок, пяцігоддзе, пяцізначны* і г.д. І ўсе яны захоўваюць каранёвае [а] (арфаграфічна – *я*). Здавалася б, ні ў кога не павінна выклікаць сумнення, што і *пяцёра* ва ўскосных склонах трэба вымаўляць з [а] у першым складзе, а на пісьме захоўваць літару *я.* Але ў «Слоўніку беларускай мовы» (1987, с. 663) памылкова даюць

так: *пяцёра... пецярых, -ым, -ымі*; аднак параўн. на с. 825*: упяцярых.* І вось промах гэтага нарматыўнага даведніка набывае сілу аўтарытэта і ўкараняецца ў практыку. Карэктары ўжо ўсюды выпраўляюць *пяцярых* на *пецярых* (гл., напрыклад: Полымя. № 12. С. 30). І ў падручніку-хрэстаматыі для 7 класа («Жураўліны крык» В.Быкава) чатыры разы даецца *пецярых.* Цяпер ужо, калі сямікласнік скажа *[п'а]цярых* або ў пераказе ці сачыненні напіша, як і трэба, *пяцярых, пяцярым, пяцярымі,* настаўнік, відаць, мусіць папраўляць так, як пададзена ў хрэстаматыі.

Звярніце ўвагу на гэту недакладнасць у нарматыўным слоўніку.

**62**. Які гук ([і] або [ы] ці [й]) трэба вымаўляць у прыведзеных словах і спалучэннях слоў?

Вы…сці, пры…сці, з …голачкі, вы…шаў, стол … крэсла, на …грышчы, узяла …голку, брат … сястра, луг … поле, ад …нстытута, пед…нстытут, пад…сці, з …таліі, яна …шла, да …вана, яго …дэал, ад …вана, наш …гнась, на …мя, за …нспектарам, не …сці, Гродна … Брэст, Гомель … Магілёў, Мінск … Віцебск, смех … грэх, за…сці, паліт…нфармацыя, раз…сціся, з …мі, уз…сці, аб...ду, між…нстытуцкі, да…граваць, ён …шоў, без ...льгот, про…грыш, пера…грываць, за…мчыць, без …груш, у …нтэрв'ю, без …скры, з …нструментам, у …ўе, бацька … сын, хлеб … масла.

**63**. Прааналізуйце прыклады з вершаванага маўлення. Як трэба вымаўляць выдзелены злучнік у першых трох сказах? Чаму злучнік *і* і часціца *і* ў 4-6 сказах перададзены на пісьме літарай *й*? Вызначце ў 2-м сказе ўсе несупадзенні ў напісанні і вымаўленні.

1. Князь у хораме жыў, слаўны свету ўсяму, недаступны *і* грозны, як хорам. *(Куп.)* 2. Ідзе з лапатай дзядзька з хаты *і* адграбае снег заўзята. Ў гумно *і* хлеў праводзіць сцежкі, – не хоча мецъ удзень замешкі, бо ўдзень на рэчку *і* на тоні схадзіць збіраецца Антоні. *(К-с)* 3. Ото паноў! О, божа мілы! Якія гладкія іх рылы! Якія вусы *і* бароды! Паставіць бы іх у гароды – ні вераб'і *і* ні вароны не смелі б сесці на загоны! *(К-с)* 4. Жывеш, ліпіш, як на калу ты, *і* ногі *й* рукі ўдзеты ў путы. *(К-с)* 5. Ішлі гоманы нівай нясмелай, гарады заклікаючы *й* вёскі. *(Куп.)* 6. Калі няма разумніка другога, пабіцца каб удвух, дык ён разгоніцца, ды ў сцену – бух! У іншага дык выскачыў бы *й* дух, а ён – нічога. *(Крап.)*

**64**. Які гук ([у] ці [ў]) вымаўляецца ў прыведзеных словах і спалучэннях слоў? Звярніце ўвагу на паслядоўнае вымаўленне (і напісанне) пэўнага гука ў сярэдзіне слоў неславянскага паходжання пасля галосных верхняга падёму ([і], [ы], [у]).

Рака …рал, каля …фы, да …краіны, на ...ладзіміра, да …льяны, ва …ладзівастоку, О…эн, Ланда…, Бешта…, ка…чук, а…кцыён, а…дыенцыя, а…дыторыя, ваку…м, рады…с, натары…с, прэзіды…м, кансілі…м, сімпозі...м, стра…с, ра…нд, бра…нінг, ма…зер, ла...рэат, аквары…м.

**65**. У дапаможніку «Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фанетыка. Арфаграфія» (1993, с. 171) сярод запазычаных слоў, у якіх пры вымаўленні адбываецца змена [у] на [ў], ёсць і выраз *ва [ў]нісон.* Дадаецца, што «вымаўленне ў гэтым выпадку не супадае з напісаннем: *спявалі ва унісон*». Звярніцеся да «Беларуска-рускага слоўніка» (1989, т. 2, с. 612) і «Руска-беларускага слоўніка» (1982, т. 2, с. 531): ці дакладнае сцвярджэнне дапаможніка, прыведзенае вышэй?

**66**. Як вымаўляецца спалучэнне галосных [аа]? Ці сцягваецца яно ў адзін доўгі гук [а]?

Наадварот, заалогія, заараны, паадносіць, заадно, заахвочваць, заакіянскі, наабсякаць, кааліцыя, кааперацыя, наабяцаць, наадбіраць, наадрэз, наадэкалоніцца, наапашкі, дрэваапрацоўчы, паасобку, па-армянску, наачышчаць, паабапал, паабдзіраны, паабедаць, паабмазваць, паабмарожаны, паабсяваны, па-абхазску, паабяцаны, заазёрны, заапарк, заапладзіраваць, заатэхнік, заараны.

**67**. Як вымаўляюцца спалучэнні галосных [эа], [уа], [ээ], [эо], [іо], [ыо], [іа] у словах неславянскага паходжання і вытворных ад іх?

Тэарэма, туалет, рэалізм, рэалістычны, рэагаваць, рэарганізацыя, тэарэтычны, сексуальны, рэактар, рэабілітацыя, рэактыў, рэаліст, Туапсе, туалетны, дээскалацыя, дээтымалагізацыя, рээкспарт, рээмігрант, рээвакуацыйны, гнасеалогія, фразеалогія, альвеола, фразеолаг, палеанталогія, палеантолаг, палеаграфія, біёлаг, біялогія, радыё, адажыо, Токіо, Рыо-дэ-Жанейра, сальфеджыо, піяністка, піянер, стацыянарны, рацыянальны, сакратарыят, дыяметр, дыягназ, кардыёлаг, кардыяграма, кардыялогія, дыялекталагічны.

**68**. Як ужо адзначалася ў практыкаванні 50, гукі [ч], [р], [г], у беларускай мове вымаўляюцца інакш, чым у рускай. Неаднолькава вымаўляюцца рускае [щ] і беларускае спалучэнне [шч], а таксама губныя [б], [п], [м], [ф] на канцы слоў і перад зычным. Супастаўце вымаўленне названых гукаў у рускай і беларускай мовах.

Щавель, щебень, щебет, щегол – шчыгол, щедро – шчодра, щека, щелок, щелочность, щениться, щепоть, щербатый, щетка, Щетин, щипать, щипнуть, щука, щур, Щучин, расщебенивать, расщемить, расщеп, защебетать, зещемить, защипанный.

Голубь, степь, восемь, верфь, пью, бью, воробьи, семья, сыпь, восемьдесят, восемьсот, кровь, насыпь, накипь, познакомься, семь, сафьян, дробь, поступь, вьетнамский, пьедестал, пьеса, пиявка, компьютер, семьсот, семьянин, интервью, копьё.

**69**. У рускай мове гук [г] – выбухны, і толькі ў некалькіх словах вымаўляецца фрыкатыўны [γ] (гама): *ага, ого, бухгалтер, господи, ей-богу, Бог* і ў выразах з кампанентам *бог (слава богу, дай бог* і інш.). У беларускай жа мове гук [γ] часцей за ўсё шчылінны (фрыкатыўны), толькі ў параўнальна рэдкіх выпадках – выбухны. Пра выбухны [г], парны звонкі з [к], ва ўсіх беларускіх падручніках пры разглядзе арфаэпіі зычных гаворыцца, што ён вымаўляецца толькі ў асобных словах небеларускага паходжання: *гузік, гонта, гарнец, ганак, нягеглы, газа, гізаваць, гільза.* Часам да гэтых дадаюцца яшчэ словы з гукаспалучэннем *зг: абрызгаць, брызгаць, бразготка, мазгі, мазгавіты, розгі, рэзгіны* і некаторыя іншыя. А Я.Лёсік ілюстраваў вымаўленне выбухнога [г] не толькі словамі *мазгі, розгі, ганак,* але і шматлікімі іншымі, у якіх [к] пераходзіць у [г], «калі яму, будучы прыназоўнікам, прыходзіцца стаяць перад словамі, што пачынаюцца звонкімі *г, д, ж: г гары, г дому, г дзераву, г жалезу» (Лёсік Я.* Граматыка беларускае мовы: Фонэтыка. – Менск, 1926. – С. 111). Выбухны [г] вымаўляецца, аднак, не толькі ў гэтых выпадках. Азванчэнне глухога [к] адбываецца ў сярэдзіне вельмі многіх слоў, найчасцей запазычаных з неславянскіх моў, а таксама на стыку двух слоў: *рукзак, Вялікдзень, як бачыш.*

У якіх з гэтых слоў ці спалучэнняў ёсць выбухны [г]?

Горад, нага, бразгалка, бразганне, бразгат, бразгатаць, гойсаць, Бог, нягожа, нягуста, няголены, падгуляць, мазгаўня, мазгаваць, мазгавы, швагер, гвалт, гвалтоўны, гонтавы, гвалтам, згвалціць, як бы, гасцінец, гартаваны, вогнішча, к дому, к дакладу, к жолабу, к гораду, як жа, як быццам, гаротны, дагараць, дэгенерат, рэнегат, дэградацыя, анекдот, вакзал, гекзаметр, штрэйкбрэхер, экзамен, экзатычны, дэгустатар, экзекуцыя, экзэмпляр, экзотыка, экзэма, вакзальны, экзістэнцыялізм, дэгераізацыя, экзальтацыя, пераэкзаменоўка, згіб, герой.

**70**. Ахарактарызуйце такія з'явы арфаэпіі, як дзеканне і цеканне. Праілюструйце іх трыма прыкладамі накшталт наступных: *сад – у садзе, садзіць; газета – у газеце; тоўсты – таўсцей; іду – ідзеш; наперад – напрадзе.*

**71**. 25 студзеня 1952 г. на навуковай канферэнцыі па пытаннях беларускага правапісу, скліканай Інстытутам мовазнаўства Акадэміі навук БССР, К.Крапіва, выступаючы з дакладам аб «Праекце змен і ўдакладненняў беларускага правапісу», прапанаваў ад імя Арфаграфічнай камісіі пашырыць правіла аб дзеканні і цеканні на ўсю іншамоўную лексіку. Прапаноўвалася пісаць (і вымаўляць): *парція, дзірэктар, акцію, дзірыжор* і г.д. Гэты «Праект...» на працягу некалькіх гадоў абмяркоўваўся ў друку, а таксама на спецыяльнай канферэнцыі. 11 мая 1957 г. Савет Міністраў БССР прыняў пастанову «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу». У ёй правілы аб дзеканні і цеканні сфармуляваны не ў такім варыянце, які прапаноўваўся Арфаграфічнай камісіяй у 1952 г.

Праілюструйце пададзенымі прыкладамі сучасныя правілы вымаўлення [д], [т] і [дз'], [ц'] у словах неславянскага паходжання і вытворных ад іх.

Кандыдат, парадыгма, дыяпазон, Індыя, камандзіровачны, тэатральны, каранцін, ірландзец, Ірландыя, тэлеграма, тэатр, габардзін, тыран, дыктатар, індзеец, манцёр, эцюдзік, дырыжор, актыў, партыя, крытыка, білецёр, лацінскі, дэлегат, дывізія, тэкст, тыповы, транспарцір, камандзіроўка, дэльта, гардэробшчык, камандзір, балаціроўка, плаціна, гардзіна, цюльпан, блакноцік, гвардзейскі, вахцёр, Дзяніс, Ватыкан, акцёр, білецік, дзюшэс, Тыбет, букецік, Аргенціна, цітр, брыганціна, авантура, дэкан, бамбардзіроўшчык, брыгадзір, манціроўка, гвардзеец, пацвердзіць, бацвінне, Антарктыда, тыраж, каскадзёр, канадзец, экспарцёр, іудзейскі, рэпарцёр.

**72**. Супастаўце некалькі слоў, агульных для беларускай і рускай моў: *затишье – зацішша, несчастье – няшчасце, ночью – ноччу, радостью – радасцю, солью – соллю.* Толькі ў якой фанетычнай пазіцыі гукі [з], [л], [н], [с], [дз], [ц], [ж], [ч], [ш] на месцы старога спалучэння «мяккі зычны + рэдукаваны + ёт» вымаўляюцца як падоўжаныя зычныя? Чаму няма падаўжэння зычных у словах *няшчасце, радасцю?* Зазначым у дужках, што для запамінання першых шасці зычных, якія падаўжаюцца ў вымаўленні, можна скарыстоўваць мнеманічны прыём: ***зелень садзіць***.

Запішыце па два прыклады слоў, у якіх пры вымаўленні падаўжаюцца пералічаныя 9 зычных гукаў.

**73**. У якіх словах і па якіх фанетычных заканамернасцях адбываецца падоўжанае вымаўленне пэўных гукаў?

Адчайна, сучча, зацішша, засведчаны, датчык, абуваешся, беражэшся, кладцы, матцы, бясшумна, у вазачцы, дачцэ, салдатчына, адтуліна, скібачцы, спадчына, апаратчык, носішся, лодцы, студэнтцы,

аддаць, разжаваць, расшыфроўка, стачцы, следчы, мінамётчык, сустракаешся, дудцы, кветцы, кладачцы, адтапыраны, адцадзіць, ягадцы.

**74**. Праілюструйце на пададзеных прыкладах правілы вымаўлення гукаў [з], [с] перад мяккімі губнымі і перад [з'], [л'], [н'], [с'], [дз'], [ц']. Адзначце прыклады, у якіх гукі [з], [с] не змякчаюцца.

Беларускі, згінуць, расфіласофстваваць, гняздзечка, цераз месяц, беззямельны, палескі, схіл, атмасфера, слёзы, з зімы, вільнюскі, розгі, калоссе, сфера, схібіць, з левага боку, мазгі, сфінкс, госць, ускіпеў, схіснуць, несці, схітрыць, сферометр, рассмяўся, з зямлі, сцяна, з Нёмана, свята, спіна, праз лес, сківаца, знізу, снедаць, крымскі, бязлессе, згібаць, знішчыць, з'езд, счарсцвець, расцвітаць, расхіліць, спяваць, схема, рассцілаць, скіснуць, сцерагчы, зняць, зляпіць, ісці, роспіс, празмерна, раздзець, здзейсніць, звязаць.

**75**. Якія гукі абазначаны падкрэсленымі літарамі?

Раскіданы, дождж, цюрыхскі, будка, возчык, зняць, выязджаць, сяджу, падзолісты, разжаваць, адпасці, счарнелы, у баковачцы, счэпшчык, крадком, лічба, дранцвець, Індыя, гараджанін, на дарожцы, лебедзь, сударга, экзаменатар, голуб, ва Уладзівастоку, ручнік, раўнапраўе, мы ішлі, юнак, зжаць, гарадскі, пасведчанне, подзвіг, пясчынка, з інжынерам, з чатырох, у хустцы, узбекскі, рукзак, Патсдам, не змог, Брэстчына, кантрастны, рэдзька, у грэчцы, суражскі, стужка, швагерка, мітынг, мядзведзь, смачны, зелле, адчуванне, ускраіна, пінжак, быльнёг.

**76.** Адзначце словы, у якіх ёсць гук [с].

Скіба, сліва, просьба, грамадскі, пражскі, смех, схіл, перапісчык, вучышся, на дошцы, згіб, на дарожцы, чэшскі, бясшумна, казка, сцежка, бярозка, перавозчык, раз'юшаны, смех, паслабленне, ссыпаць, расцвітаць, раскідаць, счапіць, рассмяшыць, французскі, схімічыць, без памылак, спілаваць.

**77**. Адзначце ў прыведзеных словах сцяжэнне зычных гукаў і спрашчэнне груп зычных.

Расольнік, беларускі, добрушскі, гарадскі, посны, расада, рыжскі, брэсцкі, пасланць, нясвіжскі, расаднік, казацкі, расол, сарцавіна, баранавіцкі, радасны, шавецкі, у частцы, матроскі, праязны, чувашскі, аб'ездчык, варонежскі, сардэчнасць, людскі, брацкі, паляшуцкі, свіслацкі, маладзецкі, андалузскі, сонца, позна, сілезскі, кравецкі, смалявіцкі, красавіцкі, гіганцкі, фламандскі, Даргамыжскі, ламаншскі, вільнюскі, міласэрна, трохмесны, адэскі, расліна, сожскі, астма, карысны, парыжскі, вынаходства, альпінісцкі, страсны, ціснуць, індускі, бермудскі, няўрымслівы, хіснуцца, веснік, дэпутацкі, славацкі, зайздросны, ткацтва, шчаслівы, грэцкі, кіргізскі, помслівы, лунінецкі, суэцкі.

**78**. Выпішыце з «Парадоксаў жыцця» В.Быкава словы, у якіх вымаўленне не супадае з напісаннем. Растлумачце асаблівасці вымаўлення пэўных гукаў у гэтых словах.

На ленінскія ўгодкі да помніка правадыра ветэраны ўскладвалі кветкі. Сярод іх быў адзін стары з кавенькай у руцэ. Я яго ведаў. Расказвалі, як у вайну ён апынуўся ў нейкім мястэчку, адзін, без сям'і. А быў глуханямы. Жыць было дужа трудна. Палітыкай ён не займаўся. Неяк аднаго разу ў мястэчка завіталі хлопцы з лесу. Іх было трое, і яны прынеслі з сабой фальшывыя, зробленыя ў падполлі прадуктовыя карткі. Хацелі атаварыцца, але баяліся, што пападуцца. Тады рашылі паспрабаваць на кім-небудзь, каго не шкада. Выбралі таго глуханямога. Нечакана для іх ён пайшоў і атаварыўся. Хлопцы зарадаваліся і надзялілі яго тымі карткамі. Нямко быў дужа ўдзячны ім. На ўсё жыццё. І стаў партызанам. І палюбіў Леніна. І ягоную партыю.

А тое здарэнне ў вайну расказваў пасля адзін з трох партызанаў.

**79**. Вызначце, ці ўсе прыведзеныя тут рыфмы з паэмы Я.Коласа «Новая зямля» дакладныя. (Дакладнай рыфмай называюць такую, у якой супадаюць усе гукі, пачынаючы з апошняга націскнога.) Затранскрыбуйце першыя дзве рыфмы. Якія фанетычныя працэсы ў зычных дазваляюць дабівацца дакладнай рыфмоўкі?

Верас – яшчэ раз, спачатку – па парадку, Лыска – блізка, мяне ты – абагрэты, тая – выплывае, старонка – пялёнка, скавародкі – кароткі, увачавідкі – пліткі, патэльні – пякельны, маткі – аладкі, па целе – з пасцелі, лагамі – палямі, цялушкі – дружкі, пужка – мянушка, дзядзька – бацька, завіхацца – аладцы, сёння – Заблоння, блізка – рыска, наніз – абрыс, апранатка – аладка, у барох – мог.

**80**. Праілюструйце на пададзеных прыкладах правілы вымаўлення некаторых граматычных формаў.

Радаснага, леташняга, зачыненага, лепшага, пятнаццатага; добрую, ціхую, смачную, леташнюю, летнюю; пакрыўджаная, сусветная, чатырнаццатая; расчыненыя, зняволеныя, трынаццатыя, прыгожыя, раздрукаваныя; мераю, гуляю, хітрую; ідзём, гуляем, пішам, бяром; па дарогах, аб вёснах, па вуглах; дзвюх гадзін, двух урокаў; па лесе, у порце, на снезе, аб вучню, на мітынгу; два акны, тры вучні.

**81**. Націск у беларускай мове, як і ў многіх іншых, разнамесцавы *(сту́дзень, лістапа́д, ідэаліза́цыя)* і ў шмат якіх словах рухомы *(а́драс – адрасы́, бо́й – у баі́, рука́ – ру́кі).*

Рухомы націск уласцівы і назоўніку *злодзей.* Ва ўсіх склонавых формах адзіночнага ліку націск прыпадае на першы склад. Напрыклад, у прыказках: *Не злавіўшы, не кажы, што злодзей; Злодзею адна дарога, а хто шукае, таму многа.* У множным ліку націск падае на другі склад: *Абышлі ўсе закануркі паблізу вёскі – можа, дзе да часу зладзеі кінулі коні. (Крап.)* Спалучаючыся з лічэбнікамі *два, тры, чатыры,* гэты назоўнік мае мае форму *злодзеі.*

Акцэнталагічная норма гэтага назоўніка зафіксавана ва ўсіх нашых акадэмічных слоўніках; напрыклад, у ТСБМ (т. 2, с. 481): «Злодзей, -я, *мн.* зладзеі *(з ліч. 2, 3, 4 злодзеі)*, зладзеяў; *м.*». Але гэта норма вельмі часта парушаецца ў друку апошніх гадоў (пры ўжыванні назоўніка *злодзей* у формах множнага ліку).

Адзначце сказы, у якіх слова *злодзей (зладзеі)* ужыта з няправільнай пастаноўкай націску.

1. На злодзеі шапка гарыць. *(Прык.)* 2. Ды і хата адна доўга не пастаіць: могуць і вокны выбіць, могуць і зладзеі залезці якія, цяпер гэта не навіна. *(Дам.)* 3. Мы размаўлялі з госцем хвілін дваццаць, не больш. Але злодзеям гэтага аказалася дастаткова, каб угнаць легкавушку з двара. *(С.Б.)* 4. – А вы сенцы што, не замыкаеце? – Навошта? – А злодзеі? *(Бад.)* 5. Адкуль у людзей такія грошы? Пэўна, якія-небудзь спекулянты-ліхвяры або зладзеі... *(І.К.)* 6. Злодзеяў судзіў Рэвалюцыйны ваенны трыбунал Мінска. *(А.Л.)* 7. Злодзеі грошай чамусьці не ўзялі. *(Вішн.)* 8. Беднага карнета я выратаваў, бо ён адчайна закрычаў, калі два злодзеі, палічыўшы яго мёртвым, сарвалі з яго медальён і палезлі абшукваць кішэні. *(К.Т.)*

**82**. Абазначце націск у словах, пры неабходнасці звяртаючыся да нарматыўных слоўнікаў. Параўн., аднак, як часам неаднолькава абазначаюць месца націску ў некаторых словах:

*шэ́сцьдзесят* – у РБС (1982, т. 2, с. 604), «Арфаграфічным слоўніку» М.П.Лобана і М.Р.Судніка (1982, с. 203), «Арфаграфічным слоўніку» А.М.Булыкі (2000, с. 221); ТСБЛМ (1996, с. 769); *шэсцьдзеся́т* – у БРС (1989, т.2, с. 726), ТСБМ (т. 5, кн. 2, с. 439), СБМ (1987, с. 889), «Слоўніку цяжкасцей беларускай мовы» Г.У.Арашонкавай і В.П.Лемцюговай (1987, с. 205);

*нібы́* – у БРС (1988, т. 1, с. 797), РБС (1982, т. 1, с. 75), ТСБМ (т. 3, с. 404); *нíбы* – у СБМ (1987, с. 452), ТСБЛМ (1996, с. 391).

Крапіва, навіна, садавіна, квартал, спіна, Украіна, абычай, аксюмаран, анапест, аспід, грамадзянін, грамадзянка, прыступка, гваздзікі, статут, статуя, тытул, факсіміле, хабар, падпарадкаванне, мажны, аб'інець, алфавіт, аднасастаўны (сказ), высокаразвіты, злінялы, падпарадкаваны, чатырнаццаць, чатырнаццаты, шэсцьдзесят, семдзесят, паведаміць, паведамі, паведамлю, дзеячы, курганы, нібы, маляр, супавы, сутулаватасць, эксперт, сінанімія, арахіс.

**83**. Абазначце націск ў дзеяслоўных формах.

Далі, занялі, засталіся, плылі, прадалі, перажылі, пераплылі, аддалі, прынялі; дала, узяла, прыняла, прадала, перажыла, заняла; бераце, даяце, крычыце, несяце.

**84**. Абазначце націск у фразеалагічных зваротах.

Кідаць цень, кідаць вока, закідаць шапкамі, кідацца ў вочы, закасаўшы рукавы, гнуць спіну, кішка тонкая, кануць у лету, журавель у небе, віламі па вадзе пісана, губа не дура, як у ваду кануў, у гарачай вадзе купаны, як з крыжа зняты, на мігі, на мігах.

## Графіка

**85**. Што вывучае графіка як раздзел мовазнаўства? З якімі іншымі значэннямі ўжываецца слова *графіка*? Гл. ТСБМ, т. 2, с. 79.

**86**. Выкарыстоўваючы веды, атрыманыя на лекцыі па сучаснай беларускай мове, а таксама ў курсе «Уводзіны ў мовазнаўства», раскажыце, якія тры стадыі

прайшло сусветнае пісьмо ў сваім развіцці. Чаму наша сучаснае пісьмо называецца гукавым або фанемным?

**87**. У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 1, с. 225) сэнс слова *алфавіт* раскрываецца і апісальным спосабам («сукупнасць літар якой-небудзь пісьменнасці»), і сінанімічным («азбука»). Якія семантычныя адносіны існуюць паміж словамі *алфавіт* і *азбука?* Ці аднолькавыя іх спалучальныя магчымасці? Выкарыстайце пры адказе, напрыклад, такія словазлучэнні: *авалодаў азбукай, лацінскі алфавіт, скласці спіс па алфавіце.*

**88**. У падручніках і дапаможніках падаюцца неаднатыпныя, часам супярэчлівыя сцвярджэнні пра беларускі алфавіт. У «Буквары» А.К.Клышкі (1995, с. 103) колькасць літар не называецца, але першакласнікі пры жаданні самі могуць зрабіць падлік: апрача 32 літар, тут пасля *д* у дужках прыводзяцца *дж* і *дз.* Тое самае знаходзім і ў падручніку для 2 класа «Беларуская мова» В.А.Бекіша і інш. (1995, с. 24). Пяцікласнікі з падручніка «Беларуская мова» В.П. Краснея і Я.М.Лаўрэля (1995, с. 141) даведваюцца, што «ў беларускім алфавіце 32 літары, а гукі [дж], [дз] абазначаюцца на пісьме дзвюма літарамі (*д, ж* і *д, з*)». Прыкладна тое самае паўтараецца і ў дапаможніку для вучняў старэйшых класаў «Беларуская мова» М.Ц.Кавалёвай (1995, с. 66-67). Аналагічныя звесткі даюцца і ў падручніку для педвучылішчаў «Беларуская мова. Ч. 1» (1982, с. 41-42). У дапаможніках жа для студэнтаў-філолагаў вышэйшых навучальных устаноў сцвярджаецца, што сучасны беларускі алфавіт складаецца з 34 літар, потым даецца іх пералік: *а, б, в, г, д, дж, дз* і г.д. (гл., напрыклад: *Бурак Л.І.* Сучасная беларуская мова. – Мінск, 1974. С. 89; *Камароўскі Я.М., Сямешка Л.І.* Сучасная беларуская мова. – Мінск, 1985. С. 113-114; *Рагаўцоў В.І., Юрэвіч А.Л.* Уводзіны ў мовазнаўства. – Мінск, 1987. С. 147-148; *Сцяцко П.У.* Пачатковы курс мовазнаўства. – Гродна, 1993. С. 53; Сучасная беларуская мова: Лексікалогія. Фаналогія. Арфаграфія. – Мінск, 1976. С. 168). Праўда, у апошняй з пералічаных кніг, у 2 і 3-м дапрацаваных выданнях (1984, с. 160-161; 1993, с. 177-178), сказана, што ў нашым алфавіце 32 літары, а *дж* і *дз* утвораны са спалучэння літар і называюцца дыграфамі. Няпэўнасць адносна колькасці літар у алфавіце адчуваецца і пры чытанні энцыклапедыі «Беларуская мова» (1994, с. 29). Тут спачатку гаворыцца, што алфавіт складаецца з 32 літар, а затым дадаецца, што «некаторыя даследчыкі асобнымі літарамі лічаць дыграфы дж, дз». Тут слова «даследчыкі» ўжыта, відаць, не зусім дакладна (замест «аўтары падручнікаў»), бо спецыяльнымі даследаваннямі пра названыя дыграфы ніхто ў беларускім мовазнаўстве не займаўся, ды ў гэтым і няма патрэбы, бо існуе адпаведная агульнапрынятая сусветная практыка.

Паколькі ў існуючай навучальнай літаратуры не тлумачыцца, чаму *дж, дз* не павінны ўключацца ў алфавіт, далей даецца адказ на гэта пытанне. Прачытайце (пры падрыхтоўцы да практычных заняткаў па тэме «Графіка») змешчаны ніжэй урывак з кнігі І.Я.Лепешава «Сучасная беларуская літаратурная мова: Спрэчныя пытанні» (2002, с. 146-147) і будзьце гатовыя пераказаць змест гэтага ўрыўка.

Паводле прынятай агульнасусветнай практыкі, кожная літара алфавіта як асобны графічны знак для перадачы на пісьме пэўнага асноўнага, тыповага гука (фанемы) мае свой, толькі яму ўласцівы малюнак (абрыс), непадобны ні да адной іншай літары. Так, фанема [д] абазначаецца літарай *д*, фанема [ж] – літарай *ж*, фанема [з] – літарай *з*. Ідэальным мог бы лічыцца алфавіт, калі б у ім для кожнай фанемы была свая літара. Але такіх алфавітаў няма. Яны б былі занадта шматлітарныя. У нашай графіцы, як і ў некаторых іншых, многія літары маюць два асноўныя гукавыя значэнні (напрыклад, літары *б, в* у словах *быць – біць, воз – вёз*). Няма ў беларускай графіцы асобных знакаў-літар для фанем [дж] і [дз]. Яны абазначаюцца на пісьме спалучэннем дзвюх літар (*д, ж* і *д, з*), кожная з якіх ужо заняла ў алфавіце сваю нішу. Такія

спалучэнні дзвюх літар называюцца дыграфамі. І, зразумела, яны не павінны ўключацца ў алфавіт – ні ў дужках пасля *д*, ні без дужак.

Аналагічнае можна бачыць і ў шмат якіх іншамоўных алфавітах. Напрыклад, і ва ўкраінскай мове гукі [дж] і [дз] перадаюцца на пісьме дыграфамі: *бджола, дзвін.* Тое самае і ў польскай мове, дзе алфавіт складаецца з 33 літар, а па-за алфавітам ёсць яшчэ аж 7 дыграфаў, у тым ліку *dz, dž* для абазначэння афрыкатаў [дз], [дж]. Дыграфы ці паліграфы характэрныя і для англійскай, французскай, нямецкай моў. У нямецкай мове фанема [ш] абазначаецца спалучэннем трох літар – *sch*, а для перадачы на пісьме фанемы [ч] выкарыстоўваецца спалучэнне з чатырох літар – *tsch*. І, канешне, такія спалучэнні (паліграфы) у алфавіт не ўключаюцца. «Вынікам непаразумення» называе вядомы даследчык тэорыі пісьма Л.Р.Зіндэр выпадкі, калі ў алфавіт уключаюць спалучэнні дзвюх і больш літар, і ў якасці прыкладаў прыводзіць кабардзіна-чэркескі алфавіт, у якім ёсць чатырохлітарнае спалучэнне *кхъу*, а таксама беларускі «са спалучэннямі *дз* і *дж* для абазначэння афрыкатаў».

Характэрна, што ў 20-ыя гады мінулага стагоддзя не было праблемы адносна таго, уключаць ці не ўключаць у алфавіт дыграфы *дз, дж*. Б.Тарашкевіч у «Беларускай граматыцы для школ. Выданне 5-е» (Вільня, 1929. С. 47) пісаў: «У беларускай азбуцы 32 літары. Для гукаў *дз, дж* няма асобных літараў, а таму для кожнага ўжываецца па дзве літары. Але трэба ведаць, што вымаўляюцца *дз* і *дж* як адзін гук». Я.Лёсік у «Граматыцы беларускае мовы: Фонэтыка» (Мінск, 1926. С. 43, 38) піша: «Для абазначэння гукаў *дз* і *дж* пішацца дзве літары, але чытаюцца яны не паасобку, а разам, злітна: *дзед, дзень*». У азбуцы, паводле Я.Лёсіка, 33 літары, сярод іх дзве (аднолькавага малюнку) літары *г*: адна абазначае фрыкатыўны гук [г], а другая – выбухны гук [г].

**89**. Ці дакладным будзе сцвярджэнне, што кожная літара нашага алфавіта мае чатыры разнавіднасці (варыянты)? Якіх агаворак патрабуюць літары ь*, ў, ы*?

**90**. Размясціце ў алфавітным парадку словы.

Абкапаць, адказчык, адзінокі, азначэнне, адзаду, адзежына, аджынаць, аджарскі, ад'ездзіць; барабан, бровы, бібліятэка, бадзёры, бадацца, бразгаць, брадзільны, бяздзейны, бяздзейнасць; двухсэнсавы, для, днём, джала, дзверы, дзюна, джунглі, джыгіт, дзяліць; зандзіраваць, загадзя, задзіра, зарадзіць, здзеравянелы, злодзей, здымаць, здзівіцца; кадзіла, калодзеж, крадзёж, каледж, камандзіроўка, каза-дзераза, Камбоджа, Кембрыдж, кадзіравацца; лебедзь, лудзіць, ільдзіна, ладдзя, лоджыя, лінолеум, ілжывы, лідзіруючы, лідзіраваць, ледзяніць, ледзянец.

**91**. Дзякуючы чаму для абазначэння 45 фанем у нашым алфавіце выкарыстоўваецца толькі 32 літары? Якія асаблівасці нашай графікі сведчаць аб яе рацыянальнасці і эканомнасці?

**92**. Пералічыце літары, якія па н а з в е з'яўляюцца састаўнымі. Якія галосныя літары належаць па назве да ётаваных і чаму яны так называюцца? Адзначце ў прыведзеных сказах састаўныя і ётаваныя літары.

1. Гара настолькі крутая, што спусціцца з яе самахоць немагчыма, можна толькі павольна, крок за крокам узбірацца ўверх. *(С.Д.)* 2. Аб

нашай долі-нядолі беларускай, аб лёсе роднай мовы, аб тым, што цярпець такі здзек над ёй ужо не стае сілы, я часта гутарыў з тымі, каму найбольш давяраў і каму, бачыў я, таксама гэта вельмі балела... *(Гіл.)* 3 Як вядома, усе людзі на свеце скіроўваюць свой розум і сэрца на пэўныя рэчы. *(Сав.)* 4. А яшчэ неабходна ўзгадаць адзін вобраз маці, пра які ведаюць нямногія. Створаны ён Андрэем Макаёнкам у іншым матэрыяле: старанна, з вялікай сыноўняй любоўю выразаны з дрэва. *(С.Л.)*

**93**. На якія дзве групы падзяляюцца паводле ф у н к ц ы і ётаваныя літары? У якіх пазіцыях ётавыя адначасова абазначаюць два гукі? Адзначце, у якіх словах ётаваныя выступаюць як ётавыя, а ў якіх – як палатальныя.

1. Не, гэты хлопчык на вопратку не быў абдзелены, хаця ўсё іншае ў яго аблічча з мінулага веку, ваеннага, акупацыйнага часу. *(В.К.)* 2. Летні маёнтак князёў Друцка Любецкіх стаяў на высокім узгорку, на схілах узгорку ляпіліся хаты паспалітых навапольцаў. *(Ляхн.)* 3. Вітушынскі п'янеў ад асалоды, што адкрываў яму велічны краявід. *(З.Дз.)* 4. А здароўе і жыццё гаспадыні Княства – гэта ўжо не толькі справа княжацкай сям'і. *(І.)* 5. Паэзія Рыгора Барадуліна і ўяўляецца мне тым нататнікам, куды Усявышні час ад часу надыктоўвае народжаныя на нябёсах радкі. *(Ск.)* 6. Творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа – магістральны шлях беларускай літаратуры, яе вяршыннае дасягненне. *(Іваш.)*

**94**. Вызначце колькасць гукаў і літар у словах.

Кніга, яе, дзеці, дзед, краіна, дом, паехаць, тваю, рака, аб'інець, салаўіны, людзі, дажджы, здароўе, праходчык, радзіма, фельчар, дзяжурны, ракетчык, усур'ёз, паджынаць, подзвіг, сашчапіць, аб'езд, расшпіліць, сонны, зжыцца, дзверы, апранаешся, любоўю, самаадданы, схільны, маладзенькі, дошка, разводдзе.

**95**. Назавіце літары і абазначаныя імі гукі ў наступных словах.

Заяц, суддзя, бацька, мільярд, заехаў, заіка, руіна, пазней, падзарабіў, падзякаваць, ледзьве, народ, завязь, схіл, пяшчотнасць, ручаіна, скептык, здзейсніць, узбярэжжа, смачны, стужка, пісьменнік, уз'яднанне, прозвішча, дзень, акадэмія, Піншчына, надтачыць, будзьце, сардэчны, персідскі.

**96**. Размясціце па трох пэўных калонках пададзеныя словы.

| гукаў больш, чым літар | гукаў менш, чым літар | колькасць гукаў і літар супадае |
|---|---|---|
| | | |

Абаяльнасць, аб'інець, абседжваць, авацыя, аддушка, адтапіць, адцвіўшы, акардэон, асудзіць, безбярэжжа, букваедскі, бяздзейна, бяздум'е, вакуум, варажскі, васьмісоты, відэазапіс, волжскі, высакатраўе, выхапіць, вышчараны, газарэзчык, грудзіцца, даезджаны, дакладчык, дарадчыца, дваякі, дзежка, дзьмуць, дойлідства, дыятэз, езджаны, ехаць, ёд, журналісцкі, заволжскі, заплюшчваць, зароджаны,

з’есці, іскра, іней, кампактны, каўказскі, краб, краявід, марнаслоўе, міжгор’е, надзерці, над’ядаць, паехаць, пазжынаць, пакласці, палью.

**97**. Наша графіка грунтуецца на двух прынцыпах – гукавым і складовым. У чым сутнасць гукавога прынцыпу? Чаму ён мае такую назву? На гукавым прынцыпе заснавана выкарыстанне адназначных літар: галосных *а, о, у, ы, э* і зычных *д, ж, й, т, р, ў, ч, ш,* а таксама дыграфа *дж* (для запамінання адназначных зычных можна карыстацца мнеманічным прыёмам: ***д**а**ждж**ы*, ***тр**а**ў***, ***ч**а**ш**а**й***).

**98**. У падручніку для педвучылішчаў «Беларуская мова. Ч. 1» (1982, с. 42-43) у пераліку адназначных літар чамусьці няма *й, ў.* Не называлася літара *й* і ў двух выданнях дапаможніка для студэнтаў-філолагаў «Сучасная беларуская літаратурная мова» (1976, с. 17; 1984, с. 163). Што заўсёды абазначае літара *й* у канцы склада і чаму яе трэба адносіць да адназначных?

**99**. У чым сутнасць складовага прынцыпу? Чаму ён носіць такую назву? Літары, ужыванне якіх грунтуецца на гэтым прынцыпе, называюцца (паводле іх ф у н к ц ы і ) двухзначнымі. Пералічваючы літары алфавіта, адзначце сярод іх двухзначныя.

**100**. Пытанне пра адназначныя і двухзначныя літары часам трактуецца неаднастайна.

Гэтыя тэрміны ў школьных падручніках, як і прадугледжана праграмай, не ўпамінаюцца. Але тут даюцца неабходныя звесткі пра двайную ролю літар *е, ё, ю, я,* пра тое, што мяккія зычныя гукі абазначаюцца на пісьме тымі самымі літарамі, што і цвёрдыя гукі, толькі з дапамогай *е, ё, ю, я, і*, а таксама мяккага знака. Гаворыцца і пра іншыя суадносіны паміж гукамі і літарамі, у прыватнасці, пра тое, што адна зычная літара можа абазначаць розныя гукі. Гэта ілюструецца прыкладамі: літара *з* у слове *замок* абазначае [з], у слове *казка* – гук [с], у слове *зжаваць* – гук [ж]. Да гэтага можна дадаць, што літарай *з* яшчэ абазначаюць і гук [ш], напрыклад, у слове *рэзчык,* а таксама мяккі гук [з’]: *азімы.*

Як бачым, літара *з* мае пяць гукавых значэнняў. Адны з гэтых значэнняў называюцца асноўнымі, другія – дадатковымі (другараднымі). Асноўнае значэнне літара мае тады, калі абазначае асноўны, тыповы гук (фанему), гук у моцнай пазіцыі. У пададзеных вышэй прыкладах літара *з* мае асноўнае значэнне ў словах *замок* і *азімы.* Астатнія значэнні літары *з* – дадатковыя, яны рэгулююцца правіламі арфаграфіі *(казка, зжаваць, рэзчык).* Наша пісьмо мае фанемны характар, таму ў графіцы вывучаюцца толькі асноўныя значэнні, а з дадатковымі значэннямі мае справу арфаграфія.

Адны літары маюць адно асноўнае гукавое значэнне і называюцца адназначнымі. Гэта літары *а, о, у, ы, э* (яны заўсёды абазначаюць адзін адпаведны галосны гук), а таксама *д, ж, й, р, т, ў, ч, ш* і дыграф *дж* (яны абазначаюць адпаведныя зычныя гукі; гэтыя літары, за выключэннем *р, ў, й,* маюць і дадатковае значэнне). Астатнія літары, за выключэннем мяккага знака, двухзначныя. Яны маюць два асноўныя значэнні, адны з іх (*б, в, з* і інш.) абазначаюць пэўныя цвёрдыя і мяккія зычныя (*выць – віць,. конь – кон*), а другія (*е, ё, ю, я, і*) у адных выпадках абазначаюць два гукі (*мае, маё, маю, мая, маіх*), а ў другіх – адзін галосны гук і мяккасць папярэдняга зычнага: *лес* – [л’ес].

Зусім іншы сэнс укладваюць у паняцце «адназначныя і двухзначныя літары» Я.М.Камароўскі і Л.І.Сямешка – аўтары дапаможніка для студэнтаў філалагічных факультэтаў «Сучасная беларуская мова» (1985, с. 115-116): «Літары, якія адначасова ніколі не абазначаюць двух гукаў, называюцца адназначнымі. Так, напрыклад, літара *б* адначасова абазначае або цвёрды [б] – *[б]ыла*, або мяккі [б’] – *[б’]іць*. Да адназначных адносяцца ўсе зычныя літары, а таксама галосныя *у, а, о, ы, э.* Галосныя літары *е, ё, ю, я* двухзначныя. У пэўнай пазіцыі ў слове яны адначасова абазначаюць два гукі: [j] з наступнымі [э, о, у, а]: *сва [ja] (свая)…*». Але, як відаць з папярэдняга выкладу, з такім разуменнем адназначных і двухзначных літар наўрад ці можна згадзіцца. Да таго ж, як ужо гаварылася, літары *е, ё, ю, я* не заўсёды «адначасова абазначаюць два гукі», нярэдка яны, дадаткова паказваючы на мяккасць папярэдняга зычнага, абазначаюць адзін гук: *зялёны* – [з’ал’оны].

Адзначце склады, у якіх выкарыстаны двухзначныя літары.

Пясочак, віяланчэль, беспрацоўны, вярба, яблык, бяз’ядзерны, непрыязь, прасціна, бервяно, карэнне, вуліца, краіна, мурашнік, сухацвет, укрутую, шыльда, заяц, ашчадны, падзеляніць, дзынкаць, паўшар’е, мыш’як, ласьён, выйгрыш, джынсы, брыльянт.

**101**. Назавіце, якія гукавыя значэнні (асноўныя і дадатковыя) маюць адназначныя літары.

Дом, сад, адчуць, пасадцы; жах, рэж, ножка; там, матцы, у матчы, баскетбол; чароўны, у калысачцы, лічба; шырокі, на дошцы, добрушскі; гараджанін, аджыць, дождж.

**102**. Назавіце, якія гукавыя значэнні (асноўныя і дадатковыя) маюць двухзначныя літары.

Бог, бялізна, выруб; возера, вясёлы; горад, геній, гузік, мазгі, лягчэй; дзесятак, дзынкаць, медзь, падземка; зрабіць, зямля, нізка, зжаць, мазь, рэзчык; каравай, кемлівы, экзамен; латарэя, ліслівы; мама, меншы; ноч, неба; парог, пяць; сон, смех, сшытак, просьба; футра, ферма; цана, цёмны, плацдарм.

**103**. Прывядзіце прыклады слоў, у якіх: а) адна літара абазначае розныя гукі (напрыклад, літара *с* у словах *сам, сем*), б) розныя літары абазначаюць адзін і той жа гук (у словах *плод, плот*), в) адна літара адначасова абазначае два гукі (першая літара ў слове *ягада*), г) адзін гук можа абазначацца трыма рознымі літарамі (гук [ш] у словах *нож, разносчык, рэзчык*).

**104**. Што да мяккага знака (ь), то гэта літара гука не абазначае і таму не адносіцца ні да адназначных, ні да двухзначных. Але ўмоўна можна гаварыць пра яе «двухзначнасць» – з крыху іншым разуменнем гэтага слова. Справа ў тым, што ў адных выпадках яна выступае як змякчальны знак, а ў другіх – як раздзяляльны. Змякчальны мяккі знак ужываецца для абазначэння мяккасці зычных: *мазь, пісьмо, хтосьці.* Раздзяляльны мяккі знак адначасова выконвае дзве функцыі: паказвае на раздзельнае вымаўленне гукаў перад *е, ё, ю, я, і* і абазначае мяккасць папярэдняга зычнага: *рэльеф, мільён, налью, мадзьяр, Ільіча.*

Вызначце, у якіх словах мяккі знак выступае як змякчальны, а ў якіх – як раздзяляльны.

Пісьменнасць, чамусьці, глядзець, трыльён, бацька, пяцьдзесят, столькі, чэрвеньскі, канькі, цэнтральны, мільярдэр, альянс, ганьба, каньяк, падзьмуць, соценька, браканьер, пасьянс, паўмільёна, канферансье, пасольства, дастаньце, шкельца, жменька, паштальён, ажаніць, ільвы, чытаць, васьмёра.

**105**. Вызначце розныя спосабы абазначэння мяккасці зычных гукаў. У якіх з прыведзеных слоў мяккасць зычных гукаў не абазначаецца на пісьме?

Смех, люблю, снег, канькі, пісьмо, пальцы, раз’езд, конь, алень, раз’едзены, бацька, пакатасць, паляпшэнне, паспешліва, пачарсцвець, сальны, салявы, самалюб, сем’янін, сямюстамі, сеньярыта, скіпець, скальпель, сліва, слізь, страсць, суаднесціся, схільны, сцверджанне, сыценькі, сядзельца, тыльда, уменне, чацвёра, яблынька.

**106**. Вызначце ў пададзеных словах гукавы і складовы прынцып абазначэння гукаў.

Адсвяткаваць, брыдкі, выязны, стадыён, скідаць, адчапіцца, моладзь, абнавіць, дзьмухаўцы, чаканка, лісце, шчаслівы, рамонт, ячмень, салаўіны, знайсці, авадзень, абруч, гультай, студэнт, ездзіць, уюн, шчаўе, вецер, барэльеф, ад'язджаць, адчайны, ружжо, прамоўца, быльнёг, карніз, пасяджэнне, прыгарад, выпускны, абаяльны, агароднік, джэнтльмен, міраж, фартух.

**107**. П а р а д а к графічнага а н а л і з у. 1. Вызначыць, колькі гукаў і літар у слове. 2. Назваць літары і абазначаныя імі гукі. 3. Ахарактарызаваць кожную літару: а) па назве (простая ці састаўная, а для галосных яшчэ – ётаваная ці неётаваная), б) па функцыі (адназначная ці двухзначная, а для ётаваных яшчэ – ётавая ці палатальная). 4. Вызначыць гукавы і складовы прынцыпы абазначэння гукаў.

У з о р. *Пяць* – у слове 3 гукі і 4 літары. Літара *п* абазначае гук [п']; простая, двухзначная. Літара *я* абазначае гук [а] і паказвае на мяккасць папярэдняга зычнага, простая, ётаваная, двухзначная, палатальная. Літара *ц* абазначае гук [ц'], простая, двухзначная. Літара ь гука не абазначае, састаўная, служыць для паказу на мяккасць папярэдняга зычнага. Тут ужыванне ўсіх літар грунтуецца на складовым прынцыпе.

Зрабіце графічны аналіз слоў у сказах.

1. Грабель мільганнем, звонам кос трымцяць лілёвыя прасторы. *(Крап.)* 2. Меліяратары з вялікай ахвотай асушылі… кілішкі. *(Ш.)* 3. Многае выпала бачыць і чуць хвалям дзвінскім. *(В.Л.)*

**108**. Назавіце іншыя, нялітарныя графічныя сродкі. Калі знак націску ў словах абавязковы?

**109**. Раскажыце пра гісторыю беларускай графікі (кірыліца, грамадзянская азбука і яе стваральнік Ілья Капіевіч, выкарыстанне ў свой час арабскай і лацінскай графікі і г.д.).

**110**. У апошнія 10-15 гадоў на старонках некаторых выданняў сустракаюцца разважанні пра неабходнасць асобных знакаў-літар для абазначэння на пісьме злітных гукаў [дз], [дж], а таксама пра магчымасць пераходу з сучаснага шрыфту на лацінку. Так, у «Нашым слове» (2001, № 22) адзін аўтар паведамляе, што з яго ўдзелам рыхтуецца часопіс для беларускіх настаўнікаў матэматыкі, у якім замест *дз* будзе выкарыстоўвацца знак *z*, а замест *дж* – знак *d*. Аўтар піша, што гэта не ягоная ідэя, што, «напрыклад, У.Дубоўка выдаваў з такімі літарамі сваё «Узвышша».

Але гэта няпраўда. Ніколі ў Дубоўкі не было свайго «Узвышша». І ніколі ён нічога не выдаваў «з такімі літарамі». Ён толькі апублікаваў у часопісе «Узвышша» (1928, № 4) артыкул «Праект літар для гукаў *дз* і *дж*». Вышэй ужо гаварылася, што дыграфы *дз, дж* нармальна выконваюць сваю функцыю і што няма патрэбы прыдумваць яшчэ нейкія знакі-літары для перадачы афрыкатаў.

Часам ідуць яшчэ далей. У «Родным слове» (1999, № 10) быў змешчаны артыкул А.Мельнікава «Аксамітны правапіс», дзе на поўным сур'ёзе прапануецца «ўдасканаленая» графіка з сумесі кірылічнага і лацінскага алфавітаў. Праўда, рэдакцыя, друкуючы гэты матэрыял, звярнулася да чытачоў з просьбай выказацца па закранутым пытанні. Быў у «Родным слове» (2000, № 1) і водгук на «Аксамітны правапіс». Аўтар водгуку Ю.Чарнякевіч, – прыхільнік лацінкі і тарашкевіцы, якая «вабіць сваёй мяккасцю, сваёй беларускасцю».

Коратка пра лацінку. Іншы раз некаторыя аўтары, вышукваючы аргументы на карысць лацінкі, гавораць, што ёю карысталіся пры друкаванні сваіх твораў Ф.Багушэвіч, А.Гурыновіч, Цётка і інш. Але ж яны рабілі гэта змушана. Бо, як вядома, цар Аляксандр Другі спецыяльным указам забараніў выдаваць кнігі і газеты на беларускай мове, быццам бы сказаўшы пры гэтым: «З нас хопіць і маларасійскай».

Таму, відаць, В.Дунін-Марцінкевіч, каб як-небудзь прабіцца ў друк, і напісаў п'есу «Пінская шляхта» не па-беларуску, а нібыта на «маларасійскай» (украінскай) мове, а фактычна на імітаванай гаворцы пінчукоў. (Той варыянт п'есы, які мы цяпер чытаем, – гэта ўжо толькі пераклад, зроблены Язэпам Лёсікам у 1918 г.) Лацінкай карысталіся, паралельна з «грамадзянкай», і на пачатку ХХ ст. І «Наша ніва» да 1913 г. друкавалася двума шрыфтамі. А пасля з-за матэрыяльных цяжкасцей і па іншых прычынах перайшла на «грамадзянку» – рэфармаваную кірыліцу. Перад гэтым было апытванне чытачоў. Абсалютная большасць (і Я.Купала таксама) – за кірыліцу. У № 42 за 1912 г. газета паведамляла: «Калі нельга друкаваць двума шрыфтамі, трэба выбраць адзін: рускі. Так пісалі ўсе свядомыя беларусы, апрача невялікай жмені». Кірыліцай друкаваў Ф.Скарына, ёю надрукаваны «Статут Вялікага Княства Літоўскага», ёю карысталіся на працягу стагоддзяў. Так што наўрад ці варта гаварыць пра пераход на лацінку не толькі сёння ці заўтра, але і наогул.

Ці згодны вы з тым, што выказана вышэй?

# Арфаграфія

**111**. Супастаўце словы *арфаграфія* і *правапіс* паводле іх сэнсавага зместу. Якія семантычныя адносіны існуюць паміж гэтымі словамі? Ці аднолькавыя спалучальныя магчымасці гэтых слоў? Выкарыстайце пры адказе спалучэнні тыпу *правапіс зычных, арфаграфія і пунктуацыя, спрэчныя пытанні арфаграфіі, марфалагічны прынцып арфаграфіі.*

**112**. Назавіце чатыры асноўныя раздзелы, з якіх складаецца беларуская арфаграфія. У якіх з гэтых раздзелаў уваходзіць больш як палавіна ўсіх арфаграфічных правілаў? З якіх трох падраздзелаў складаецца гэты раздзел?

**113**. У чым сутнасць фанетычнага прынцыпу арфаграфіі? Чаму ён мае такую назву? Вызначце, напісанне якіх літар у словах, прыведзеных ніжэй, грунтуецца на фанетычным прынцыпе. Адначасова называйце правіла напісання гэтых літар.

Бездакорны, беспадстаўны, бязмежнасць, бясколернасць, зжынаць, скормлены, узрадаваць, успаўзаць, роздум, роспіс, разгрузіць, расшываць, узмах, цераспалосіца, успаўзаць, ускрыкнуць.

Выкрасліць, выпрагчы, зашчабятаць, цадзілка, зачарсцвець, драўніна, шасці, шарахаваты, шаптаць, брахаць, выгаралы.

Клятчасты, вятры, ляснік, спяцоўка, каляндар, дзяжурны, пярсцёнак, цямнець, зямля, Сцяпан, бялявы.

Вусач, воцат, вобмацкам, Навуменка, вустрыца, Тадэвуш, завулак, на льдзіне, прымчаць, атрымаць ільготы.

Паслаць, міласэрны, выязны, сэрца, сонца, абласны, шчаслівы, позна, посны, злаcлівы, карыслівы, жаласлівы.

Сёння, сягоння, Палессе, мышшу, каменне, прыволле, суддзя, пяццю, бездарожжа, палоззе, роспаччу, стагоддзе, паўстагоддзя.

Карэліцкі, сваяцкі, выдавецкі, студэнцкі, салдацкі, турэцкі, ткацкі, птаства, прыгоства, мноства, адэскі, чэркескі, вільнюскі.

Беларускі, палескі, княства, таварыства, хараство, птаства, прыгоства, мноства, адэскі, чэркескі, вільнюскі.

Сатыра, дыскрэдытаваць, цюлевы, дыск, авантура, мястэчка, сарціроўшчык, камандзіроўка, каранцін, дзвесце, акцёр.

**114**. У чым сутнасць марфалагічнага прынцыпу арфаграфіі? Вызначце, напісанне якіх літар у пададзеных ніжэй словах грунтуецца на гэтым прынцыпе. Адначасова называйце правіла напісання гэтых літар.

Лічба, прыказка, бабка, голуб, дождж, пад'езд, ксёндз, парэжце, хрэсьбіны, блізка, трубка, бярозка, дзядзька, лёгкі, узлезці.

Пясчаны, грузчык, брусчатка, зжынаць, раз'язджаць, рэчцы, падточцы, печцы, смяешся, дарадчык, пераплётчык, перабежчык, перапісчык, расказчык, наладчык, пагрузчык, падмазчык, казахскі, рыжскі, волжскі, добрушскі, чэшскі, латышскі, абхазскі, белавежскі, нясвіжскі, узбекскі.

Надпісаць, абсыпаць, абнесці, абтаўчы, адкінуць, адгрузка, надбудова, падтуліць, падсунуць, надкосны.

Без ведаў, не трэба, не мог, не стой, без патрэбы, без натхнення, без стыпендыі, не толькі, без дазволу.

Дзве, цвісці, сцвярджаць, світаць, цвік, узлёт, песня, звінець, заснежыць, счарсцвець, дзверы, сляды, з'есці.

Братцы, адцяжка, падчас, на кладцы, у лодцы, у вопратцы, матчын, селядцы, раслінаводчы, на кветцы, на рэчцы.

Памяць, лямантаваць, пояс, месяц, ахвяраваць, ярмолка, ялей, пяцярня, упяцярых, выняньчыць, выгляд, завязь, роўнядзь, чэлядзь, дробязь, боязь.

**115**. Як разумець выказванне К.Крапівы (артыкул «Пытанні беларускага правапісу»), што ў нас запазычанні неславянскага паходжання «карыстаюцца правамі экстэрытарыяльнасці»? Праілюструйце гэтыя «правы» прыкладамі з правілаў акання, якання, напісання *у* (складовага) і інш.

**116**. Якія памылкі будуць дапушчаны, калі мы пры арфаграфічным аналізе назоўнікаў *сезон, апетыт, бетон* і прыметнікаў *сезонны, апетытны, бетонны* ці дзеяслова *бетанаваць* скажам, што тут у першым складзе перад націскам трэба пісаць не *я*, а *е*, бо яканне не пашыраецца на запазычанні неславянскага паходжання?

**117**. Спачатку адзначце словы, у якіх ёсць напісанні, заснаваныя на фанетычным прынцыпе, а пасля – на марфалагічным прынцыпе.

Нормы пісьмовай мовы ўстанаўліваюцца не адвольна, а на падставе законаў агульнанароднай мовы, якія ствараліся і ўдасканальваліся на працягу многіх вякоў. Правапіс, як збор арфаграфічных норм, таксама павінен грунтавацца на законах агульнанароднай мовы.

Правапіс гэта ёсць дагавор пісьменных людзей, узаемнае абавязацельства трымацца пры пісьме ўстаноўленых правіл. А паколькі ў нашай краіне ўсе людзі пісьменныя, то правапіс у нас з'яўляецца справай агульнанароднай. Зацверджаны рашэннем урадавых органаў, ён становіцца абавязковым законам. *(Крап.)*

**118**. Калі ў навучальнай і навуковай літаратуры размова ідзе пра прынцыпы арфаграфіі, то чамусьці нідзе не адзначаецца даволі пашыраная асаблівасць нашага правапісу, абумоўленая тым, што асіміляцыйная мяккасць зычных гукаў [з], [с], [дз], [ц] перад наступнымі мяккімі зычнымі на пісьме не абазначаецца мяккім знакам. У гэтай сувязі пры напісанні пэўнай літары нярэдка аднначасова спалучаюцца фанетычны і марфалагічны прынцыпы. Параўн. напісанне двух слоў: *сказаць* і *спіхнуць*. У першым слове, у адпаведнасці з фанетычным прынцыпам, пішам прыстаўку *с-*, а не *з-*. У слове *спіхнуць* па той жа прычыне пішам прыстаўку *с-*, хоць вымаўляецца не [с], як у папярэднім слове, а *сь* [с'], захоўваем гэту марфему ў нязменнасці. Значыць, пры перадачы гэтай прыстаўкі ў слове *спіхнуць* мы кіруемся аднначасова фанетычным і

марфалагічным прынцыпамі. Дарэчы, да арфаграфічнай рэформы 1933г. у словах тыпу *спіхнуць* мяккасць папярэдняга зычнага абазначалася мяккім знакам (*сьпіхнуць*) і, такім чынам, напісанне ажыццяўлялася па фанетычным прынцыпе.

Вызначце, у якіх пададзеных ніжэй словах (на стыку прыстаўкі і кораня) назіраецца такая ж самая з'ява. Звярніце ўвагу на вымаўленне зычных перад мяккімі *г, к, х.*

Збадзяцца, збалець, расхістаны, збегаць, з'есці, збедніцца, зблакіраваць, спісаць, усцешыць, аддзіраць, здымаць, знімаць, зжаць, скамянець, скідаць, спяваць, сплаўляць, спячыся, ускалыхнуць, успенены, усплыць, усцягнуць, усчаць, ускіпець, паддзёбваць, наддзвінне, аддзел, аддзяжурыць, схібіць, паддзімаць, разметка, размінаць, размываць, распіхаць, узважыць, узвінціць, узведзены, уз'ехаць, распад, наддзерці, устрэсванне, спапяліць, змахнуць, знясіліць, згібець, зганяць, наддзерці, згінуць, схіліцца.

**119**. У «Сучаснай беларускай літаратурнай мове: Лексікалогія. Фанетыка. Арфаграфія» (1993, с. 185) гаворыцца, што беларускі правапіс грунтуецца на двух прынцыпах – фанетычным і марфалагічным. Тое самае сцвярджаецца і ў шмат якіх іншых навучальных працах для студэнтаў (напрыклад, у «Беларускай мове. Ч. 1» М.І.Гурскага, М.Г.Булахава, М.Ц.Марчанкі; 1968, с. 112), а таксама ў дапаможніку для вучняў старэйшых класаў «Беларуская мова» М.Ц.Кавалёвай (1995, с. 75). Але гэта сцвярджэнне нельга лічыць дакладным. І вось чаму.

Як ужо часткова гаварылася (практ. 112), у акадэмічных «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Мінск, 1959) у 155 параграфах падаюцца арфаграфічныя правілы, прычым вельмі многія параграфы змяшчаюць у сабе не адно правіла, а два, тры і болей. Інакш кажучы, у нашым правапісе каля 500 правілаў. Яны, сістэматызуючыся, аб'ядноўваюцца ў чатыры групы (ці раздзелы): 1) правілы перадачы на пісьме гукавога складу слоў, 2) правілы напісання разам, праз злучок ці асобна, 3) правілы ўжывання вялікай літары, 4) правілы пераносу слоў. Больш за палавіну правілаў прыпадае на першую групу (91 параграф са 155). Яны ў сваю чаргу падзяляюцца на тры падгрупы: у адной разглядаецца правапіс галосных, у другой – правапіс зычных, у трэцяй – правапіс мяккага знака і апострафа.

Толькі правілы першай групы , звязаныя з перадачай на пісьме гукавога складу слоў, ці, інакш, з напісаннем літар у словах або іх частках, засноўваюцца на фанетычным ці марфалагічным прынцыпах. Астатнія памянёныя вышэй тры групы правілаў не маюць ніякай сувязі ні з фанетычным, ні з марфалагічным прынцыпамі.

Назавіце, якія з падкрэсленых арфаграм засноўваюцца на фанетычным ці марфалагічным прынцыпах або на фанетычным і марфалагічным адначасова, а якія арфаграмы не маюць дачынення да гэтых прынцыпаў арфаграфіі.

1. Мы едзем на Далёкі Усход. Яшчэ за дзесяць хвілін да таго, як выклікалі нас у Саюз пісьменнікаў, у кожнага былі свае планы і клопаты: адзін збіраўся ў вёску, другі ў дом адпачынку, трэці ў падарожжа па Палессі. *(Грах.)* 2. Бела-чырвона-белы сцяг ім, бачыце, ненавісны за тое, што яго насілі паліцаі. Дык паліцаі насілі і штаны, што ж тады вынікае з вашых вучоных вуснаў, шаноўныя панове? *(В.Б.)* 3. Цяпер успомнілася, з якім хваляваннем глядзелася зверху на тундру. На яе зялёна-бура-шэрую самотную бязмежнасць. *(Б.)* 4. Хвастаты нарэшце сцяміў гэта і хуценька нырнуў з бочкі пад скрынкі. *(В.Б.)* 5. Нас па-брацку тут яднае з далёкай бацькаўшчыны песня. *(Гіл.)* 6. У Дзяржынску быў малаказавод, на якім кралі смятану. Яе прадавалі не дзе-небудзь, а ў гарадскім гандлі, з якім малаказаводчыкі былі звязаныя. Але органы кантролю выкрылі зладзеяў. Судзілі. Пасадзілі. І ў магазінах знікла смятана. Каму ад таго стала лепей?

*(В.Б.)* 7. Па-беларуску, увечары, пад вечар, з вечара да ранку, дзед Талаш; *перанос слоў:* трыц-цаць, салаў-іны, пады-ход, па-дыход.

**120**. Прачытайце азначэнні, якія даюцца ў розных навучальных працах тэрміну *арфаграма.* Якія з гэтых азначэнняў, на вашу думку, найбольш дакладныя і прымальныя? Праверце свой адказ прыёмам накладання на слова *арфаграма* яго тлумачэння-азначэння ў наступных прыкладах: 1) Гэта арфаграма заснавана на марфалагічным прынцыпе; 2) Слова *заснула* не мае арфаграм; 3) У слове *распусціў* чатыры арфаграмы.

1. Арфаграма – унармаванае (правільнае) напісанне, якое адпавядае пэўным арфаграфічным правілам (Роднае слова. 1998. № 11. С. 135).

2. Арфаграма – напісанне, якое рэгулюецца пэўным правілам (*Лепешаў І.Я., Малажай Г.М., Панюціч К.М.* Практыкум па беларускай мове. – Мінск, 1980. С. 70).

3. Такое месца ў слове, дзе трэба выбраць адно з магчымых напісанняў, прынята называць арфаграмай. Інакш, арфаграма – гэта правільнае (адпаведнае правілам ці традыцыі) напісанне, якое выбіраецца з шэрагу магчымых (*Сямешка Л.І., Шкраба І.Р., Бадзевіч З.І.* Курс беларускай мовы. – Мінск, 1996. С. 155).

4. Арфаграма – гэта правільнае напісанне слова, якое выбіраецца з шэрагу магчымых і адпавядае існуючым правілам ці традыцыі. Да арфаграм могуць адносіцца асобныя літары, злітнасць, паўзлітнасць, раздзельнасць напісання слова, перанос, а таксама характар скарочанага напісання слоў (*Куліковіч У.* Беларускі правапіс: правілы, заданні, кантрольныя работы. – Мінск, 1998. С. 6).

**121**. Апошнім часам у некаторых навучальных працах «па-суседску» з тэрмінам *арфаграма* ўжываюць словазлучэнне *апорнае напісанне*, укладваючы ў яго невыразны, неакрэслены, незразумелы сэнс.

1. Ад арфаграм трэба адрозніваць апорныя напісанні, якія не патрабуюць прымянення арфаграфічных правілаў, апіраюцца на слых і адпавядаюць правілам графікі (*Куліковіч У.* Беларускі правапіс: правілы, заданні, кантрольныя работы. – Мінск, 1998, С. 6).

2. Немагчыма адшукаць арфаграмы ў словах тыпу *дом, соль, цукар, рай, восень, лета, сын* – іх напісанні адпавядаюць графічнаму запісу і не патрабуюць ужывання пэўнага арфаграфічнага правіла (у лінгвістычнай літаратуры падобныя напісанні лічацца апорнымі (Роднае слова. 1998. № 11. С. 136).

3. Напісанні, якія не патрабуюць прымянення арфаграфічных правілаў, г.зн. адпавядаюць правілам графікі, апіраюцца на слых, называюцца апорнымі. [Далей даюцца прыклады апорных напісанняў пры абазначэнні націскных галосных *(думка, сонца, сад),* пры абазначэнні зычных перад галоснымі і санорнымі *(раса, рваць, вясна),* для абазначэння мяккасці мяккім знакам *(моладзь, восень, мазь)* і г.д.] (*Сямешка Л.І., Шкраба І.Р., Бадзевіч З.І.* Курс беларускай мовы. – Мінск, 1996. С. 155).

Прыметнік *апорны*, як вядома, абазначае 'які апіраецца на што-небудзь ці такі, на які можна абаперціся, які з'яўляецца асновай чаго-небудзь'. З прыведзеных вышэй

прыкладаў і азначэння, дадзенага словазлучэнню *апорнае напісанне*, відаць, што тут прыметнік *апорнае* не адпавядае свайму слоўнікаваму значэнню. Дарэчы, у рускіх падручніках выкарыстоўваюць тэрмін *апорнае напісанне*, але разумеюць пад ім слова, якое выкарыстоўваецца для праверкі «сумніўных» галосных і зычных гукаў. У такім апорным напісанні гэтыя «сумніўныя» гукі выступаюць у сваёй сапраўднай якасці: *козá – кóзы, стенá – стéны, столб – столбы́, столбовóй.* Такое слова называюць яшчэ праверачным, напрыклад: *адрэжу* для дзеяслова *адрэж; мазгі* для слова *мозг.*

Падбярыце праверачныя словы (ці апорныя напісанні) для наступных слоў («сумніўныя» арфаграмы выдзелены).

Мала*ць*біт, у бара*ць*бе, е*дз*ьце, лу*г*, дож*дж*, пое*зд*, катэ*дж*, мола*дзь*, гру*з*, заму*ж*, жэр*д*ка, сусе*д*ка, лы*ж*ка, бе*г*чы, ле*г*чы, ця*ж*ка, мё*д*, ні*з*ка, кла*д*ка, кні*ж*ка, ло*д*ка, дзьме, карэньчык, бу*дзь*це, цьмяны, про*сь*бе, кантрас*т*ны, адве*з*ці, святкаваць, дзя*дз*ька, сцера*г*чы, вазьмі, спар*т*смен, каўказскі, сце*ж*ка, прапаўзці, рэкар*д*смен, выразка, пя*с*чаны, разве*д*ка, металур*г*, падма*з*чык, ва*ж*ка, ха*дз*ьба, ма*г*чы.

**122**. Раскажыце пра традыцыйны прынцып арфаграфіі. Чаму ён мае такую назву? Якія напісанні, заснаваныя на гэтым прынцыпе, пералічваюцца ў вучэбным дапаможніку «Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фанетыка. Арфаграфія» (1993, с. 188)?

У некаторых іншых працах (Роднае слова, 1998. № 11. С. 137) традыцыйнымі называюць а) напісанне літары *е* ў першым складзе перад націскам у словах *дзевяты, дзесяты, семнаццаць* і інш.; б) напісанне *е* і *я* (непаслядоўнае) пасля зычных у словах іншамоўнага паходжання тыпу *сяржант, яфрэйтар, генерал, перон, сезон* і інш.

Праект новай рэдакцыі «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1999, с. 45-46) змяшчае шэраг выпадкаў, калі канчатак назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку «ўсталяваны традыцыяй»: *вечара – ранку, поўдня – захаду, хлеба – гароху, аўса – ячменю, статка – гурту, франтона – даху, тома – тэксту, плана – зместу, класа – гатунку.*

У падручніку «Беларуская мова. Ч. 1» М.І.Гурскага, М.Г.Булахава, М.Ц.Марчанкі (1968, с. 113) гаворыцца: «У беларускім правапісе да традыцыйных можна, напрыклад, аднесці напісанне канчатка *-у* ў назоўніках *феадалізму, капіталізму, ідэалізму, імпрэсіянізму* побач з напісаннем канчатка *–а* ў назоўніках *сацыялізма, камунізма, марксізма, ленінізма*».

Звярніцеся да «Слоўніка беларускай мовы» (1987): з якімі нарматыўнымі канчаткамі падаюцца тут назоўнікі *камунізм, ленінізм, марксізм, сацыялізм*?

**123**. Прачытайце ўрывак з кнігі І.Я.Лепешава «Дазнанні» (2000, с. 57-58). Па якіх ідэалагічных прычынах трапілі ў выключэнне з правіла словы *марксізм, ленінізм, сацыялізм, камунізм?* Выпішыце 10 слоў з арфаграмамі, заснаванымі на фанетычным прынцыпе, і 5 слоў з арфаграмамі, заснаванымі на марфалагічным прынцыпе.

У 1978 годзе выйшла з друку перапрацаванае і дапоўненае выданне «Арфаграфічнага слоўніка» М.П.Лобана і М.Р.Судніка. Я апублікаваў у «Настаўніцкай газеце» рэцэнзію на гэты слоўнік. Адзначыў некаторыя хібы, выказаў асобныя пажаданні. Было, у прыватнасці, і такое: «Рэкамендуючы пісаць словы *камунізм, сацыялізм, марксізм, ленінізм* з канчаткам *-а* ў родным склоне, аўтары чамусьці не прынялі пад увагу самы істотны крытэрый пры вызначэнні моўнай нормы – маўленчую практыку апошніх гадоў. У газетах, часопісах, іншых выданнях паслядоўна выкарыстоўваецца ў гэтых словах канчатак *-у*» (далей ішлі пацвярджэнні-прыклады з аўтарытэтных крыніц – новай Канстытуцыі, газеты «Звязда»). Праз нейкі час, будучы ў Мінску, я заглянуў па справах у Інстытут мовазнаўства. Убачыўшы мяне,

М.Р.Суднік (тагачасны дырэктар гэтага інстытута) завёў гаворку пра рэцэнзію, з некаторымі маімі заўвагамі згаджаўся, іншыя аспрэчваў. А наконт *камунізм-а (-у)* сказаў прыкладна гэтак: «Не так тут усё проста, як вам здаецца. Вы ж наўрад ці ведаеце, што перш чым пабачылі свет новыя «Правілы...», іх шмат тыдняў разглядалі ў галоўным штабе камуністаў – ЦК, а потым і нас запрасілі туды. Усё высокае начальства было там, усе паказвалі сябе нібыта вялікімі знаўцамі мовы, уносілі папраўкі. Асабліва абурыла некаторых тое, што ў праекце «Правілаў...» у лік абстрактных назоўнікаў, сярод іншых з суфіксам *-ізм (рэалізм, патрыятызм, феадалізм, дарвінізм)*, трапілі і гэтыя чатыры словы. «Як гэта вы, – сароміліі яны нас, – *сацыялізм*, які мы ўжо даўно пабудавалі, які стаў для ўсіх працоўных нашых рэальнасцю, лічыце нейкай абстракцыяй?! І *камунізм* не абстрактна-разумовае паняцце, а наша рэальнае, блізкае заўтра! Што, і *ленінізм* для вас абстрактнасць?!» Нехта з нас асмеліўся быў сказаць, што граматыка ў паняцце «абстрактныя назоўнікі» ўкладвае свой пэўны сэнс, але – дзе там! І слухаць не хочуць, і рота разявіць не даюць. Так і мусілі ўвесці ў «Правілы...» гэтыя чатыры словы як выключэнне – з канчаткам *-а*».

**124**. Раскажыце, у чым сутнасць дыферэнцыяльнага прынцыпу арфаграфіі.

Звычайна ў навучальнай літаратуры гаворыцца, што ў беларускай мове дыферэнцыяльныя напісанні вычэрпваюцца «адрозненнем амонімаў – агульных і ўласных назоўнікаў» (тыпу *чарот – Чарот, брыль – Брыль, скіба – Скіба).* Але, па-першае, гэта не амонімы, а амафоны – словы, якія аднолькава гучаць, але пішуцца па-рознаму і не маюць нічога агульнага ў сваіх значэннях. Па-другое, на дыферэнцыяльным прынцыпе зрэдку засноўваецца напісанне не толькі агульных і ўласных назоўнікаў. Карыстаючыся 1-м томам ТСБМ, адкажыце, чым адрозніваюцца ў сэнсавых адносінах, напрыклад, назоўнікі *ангідрыд* і *ангідрыт, бона* і *бонна.*

**125**. Пастаўце ў творным склоне імёны і прозвішчы *Сяргей Барысаў, Васіль Рагачоў* і геаграфічныя назвы: *горад Барысаў, горад Рагачоў.*

**126**. Складзіце невялікія сказы з наступнымі словамі і спалучэннямі слоў.

Зранку, з ранку да вечара, звечара, з вечара да ранку, зверху, з верху да нізу, знізу, з нізу да верху.

**127**. У вучэбным дапаможніку «Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фанетыка. Арфаграфія» (1993, с. 188) пры апісанні дыферэнцыяльнага прынцыпу гаворыцца, што «ў словах, утвораных ад дзеяслова *ісці*, прыстаўка *з-* або *с-* пішацца ў залежнасці ад значэння слова: *сыходзіць* (з ганка), але *зыходзіць* (з меркавання)». Амаль тое самае, але раней на 25 гадоў (яшчэ да выхаду нашага першага акадэмічнага тлумачальнага слоўніка) М.І.Гурскі, М.Г.Булахаў, М.Ц.Марчанка ў падручніку «Беларуская мова. Ч. 1» (1968, с. 114) пісалі: «У залежнасці ад лексічнага значэння пішацца прыстаўка *з-* або *с-* у словах, утвораных ад дзеяслова *ісці: сыходзіць* (з дарогі); *зыходзіць* (з меркавання)».

Параўн., як апісваецца дзеяслоў *зыходзіць* у ТСБМ (т. 2, с. 520):

**Зыходзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак.* 1. Тое, што і с ы х о дз і ц ь.
2. *з чаго.* Грунтавацца на чым-н., браць што-н. за аснову. *Ствараючы байку, паэт зыходзіць з жыццёвых з'яў свайго часу, з камічных рысаў у самой рэчаіснасці.* Казека.

Зрабіце вывад аб дакладнасці сцвярджэнняў у абедзвюх названых кнігах. Як павінны кваліфікавацца, паводле ТСБМ (т. 2, с. 520), *зыходзіць* (у 1-м значэнні) і *сыходзіць*?

**128**. Выпішыце словы, у якіх ёсць арфаграмы на правапіс галосных (у тым ліку і ў некаторых ненаціскных канчатках зменных часцін мовы).

1. Скажаце: сягаць у будучыню. Але народ, каторы не знайшоў яшчэ веры ў сябе, ці ж захоча паверыць у казкі аб будучыні? І паэт воляй-няволяй не можа абмінаць і замоўчваць цяперашняга жыцця. Не да пацераў, калі хата гарыць. *(Куп.)* 2. У апошнія гады пішу пераважна публіцыстыку – на жаль, у вершах таксама. Па прычынах, пра якія ўжо гаварыў: «Не да каляды, калі поўная хата бяды». *(Гіл.)* 3. Даша зрабіла элегантны рэверанс Сасноўскаму і ўзяла Максіма пад руку. *(Шам.)* 4. На грубіянства і дакор аж загудзеў зялёны бор. *(У.Д.)* 5. Сорак літраў бензіну ўваходзіць у празрыстую поліэтыленавую каністру. *(ЛіМ)* 6. Ты, гаспадыня, не зіркай спадылба, мы не бандыты з вялікай дарогі. *(В.М.)* 7. Валодзька, рыючы лбом пульхную зямлю, выў і роў ад болю, ад крыўды, ад злосці, але не гаварыў нічога. *(І.М.)* 8. Гучнае і радаснае «ўра» страсянула паветра. *(Лыньк.)* 9. Лыжкай не вычарпаеш акіян. *(Прык.)* 10. Бялеў на лугавінах разасланы лён, чарнелі побач квадраты ўзаранага ржышча. *(Хад.)*

**129**. Устаўце прапушчаныя літары і назавіце адпаведныя правілы, якімі карысталіся пры ўстаўцы літар.

Рады…станцыя, рады…грама, рады…актыўнасць, рады…логія, р…дкалессе, зач…рсцвець, б…звоблачны, л…снічоўка, пад…грацць, в…семсот, ч…рнавусы, Барна…л, выдр…сіраваць, ц…гліна, ц…сляр, м…дзв…дзяняты, ід…альны, р…сора, тр…ц…курснік, ваку…м, …мчаць, від…акамера, стр…каза, с…рдэчны, н…навісць, л…даўборачны, ск…раварка, над …лбом, шкл…вата, в…ласпорт, па-…збекску, сп…кулянт, н…смачны, погл…д, ш…равокі, бухгалт…р, тыс…ча, п…лімеры, ас…нсаваны.

**130**. Выпішыце словы, у якіх ёсць арфаграмы на правапіс зычных.

1. Вострых кос восем штук леснікова хавала застрэшша. *(А.К.)* 2. Машына любіць догляд і змазку, а конь – авёс і ласку. *(Прык.)* 3. Нага нагу падпірае, рука руку абмывае. *(Прык.)* 4. Сэрца заходзіцца ад хуткасці і адчування неабдымнага прастору. *(Хадк.)* 5. Калі схавалася сонца, у розных канцах вёскі ўспыхнулі ланцужкі агнёў. *(Н.)* 6. Жыццё – адказнейшы экзамен, яго ніяк не абмінеш. *(Св.)* 7. На цяжкую, пакутную, але пачэсную, слаўную дарогу ўзышлі калісьці Янка Купала і Якуб Колас. *(Віт.)* 8. Цэлы гай старасвецкіх дубоў раскінуўся на беразе Нёмана. *(К-с)* 9. Ужо дзе-нідзе снуецца павуціннe па дрэвах, а касыя промні сонца слізгаюцца па вастраверхіх таполях. *(Кух.)* 10. Насельнікі нашай зямлянкі наогул былі з заранкамі як свае, родныя. *(Кір.)* 11. І тчэ, забыўшыся, рука заміж персідскага ўзору цвяток радзімы васілька. *(Б-ч)* 12. Не спяшаючыся, людзі падаліся ад берага ракі ў глыб лесу. *(Лыньк.)*

**131**. У некаторых сучасных выданнях у словах тыпу *гарадскі* (з каранёвым *д* і суфіксальным *с*) пішуць *дз* замест *дс (гарадзкі)*, часам самачынна падпраўляючы аўтара: *Якое гадства дзееццa на беларускіх гонях: паспеўшых абнадзеіццa назад у рабства гоняць! (Гіл.)*

Як ужо гаварылася, першая група правілаў, звязаная з напісаннем літар у словах або іх частках, засноўваецца на фанетычным ці марфалагічным прынцыпах. Кіруючыся фанетычным прынцыпам, мы пішам слова або яго пэўную частку так, як вымаўляем. Пры марфалагічным прынцыпе пэўная марфема пішацца нязменна, незалежна ад таго, як яна вымаўляецца. Спалучэнне *дс* у слове *людскі* і пад. вымаўляецца як *ц: люцкі* I калі б напісанне такіх слоў засноўвалася на фанетычным прынцыпе, то іх і трэба было б пісаць праз *ц*. Калі ж кіравацца марфалагічным прынцыпам, то тут трэба захоўваць *дс*. Значыць, або фанетычныя напісанні праз *ц*, або марфалагічныя – праз *дс*. Трэцяга, як кажуць, не дадзена. Але яшчэ ў «Нашай ніве» за 1906–1907 гг. назіраюцца траякія напісанні: *крыві люцкой, Лідскага павету, з гарадзкім.*

Чаму ж тады да арфаграфічнай рэформы 1933 г. пісалі ў словах тыпу *самаўладства* не *ц* і не *дс*, а *дз*? Адкуль узяліся такія напісанні?

Відаць, гэта ўплыў польскай арфаграфіі. Арфаграфічнай нормай у польскай мове з'яўляецца, напрыклад: *ludzki, ludzkość.* Але ў палякаў няма асіміляцыі зычных па глухасці-звонкасці, у іхнім літаратурным вымаўленні звонкія перад глухімі не аглушаюцца. Таму там і вымаўляюць *людзкі*, і пішуць у адпаведнасці з вымаўленнем. Калі зрабіць экскурс ва ўкраінскую мову, то там звонкія перад глухімі і ў абсалютным канцы слова захоўваюцца: *казка, рыбка, хліб, сад.* Арфаграфія ж слоў са спалучэннямі *дс* ва ўкраінскай мове грунтуецца на марфалагічным прынцыпе: *людський, громадський.*

Цяпер звернемся да беларускай мовы. Паводле «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», на большай частцы нашай краіны, а менавіта на поўнач ад лініі Пружаны – Ружаны – Івацэвічы – Слуцк – Бабруйск – Бялынічы – Орша – Дуброўна, паслядоўна адбываецца рэгрэсіўная асіміляцыя гукаў па глухасці-звонкасці. Звонкія зычныя ў пазіцыі перад глухімі аглушаюцца: *бапка, лышка, бліска, люцкі, па-люцку.* У беларускіх жа гаворках, размешчаных на поўдзень ад памянёнай лініі, звонкі перад глухімі не аглушаецца. Тут вымаўляюць: *нізка, лодка, гарадзкі, суседзкі.*

Асновай нашага правапісу і арфаэпічных нормаў, як вядома, з'яўляецца дыялектная мова цэнтральнай зоны. Гэта галоўная апора і база сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Тут спалучэнне *дс* вымаўляецца як *ц (гарацкі, сусецкі).* А на пісьме гэта спалучэнне найбольш лагічна перадаваць з захаваннем марфемных частак слова, г.зн. пісаць: *грамад-ск-і , сусед-ск-і.*

Устаўце прапушчаныя літары.

Грама…тва, па-лю…ку, парахо…тва, самае…тва, бе...тва, звераво…тва, Навагру…кі раён, па-сусе…ку, сусе…тва, Валгагра…кая губерня, зава...кі жарабок, заво…кія трубы, кана…кі, нялю…кі, людае…кі, мірае…тва, персі…кі, галан...кі, фінлян…кі, нарман…кі, іслан…кі, калінінгра…кі, лі…кі, дойлі...кі, мадры…кі.

**132**. Устаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары. Назавіце адпаведныя правілы, звязаныя з правапісам зычных.

Ал…ея, рас…ол, тка…кі, капус…ны, ра…воддзе, з...вярстаць, п…ўфінал, …удзільна, ра…чарціць, …обад, рамон…шчык, Рэмбран…т, вы…чарбіць, беладон…а, дз...весце, аван…ура, Да…гава, вокла…ка, а…чысліваць, карыс…лівы, за…улак, на…юрморт, са…жанцы, юн…ат, доблес…ны, кур…скі, прэзідэн…цкі, матрос…кі, расплю…чыць, бя…концы, адва…ся, салда…чына, рас…тацца, княс…ства, па…ук, ліс…е, каза…скі, тавары…скі, фарпос…ны, праяз…ны, сіро…кі, ма…штаб, трохмес…ны, цэл…юлоза, працэ…жваць, ро…чына.

**133**. Прачытайце і растлумачце напісанне мяккага знака і апострафа.

1. На бязрыб'і і рак рыба. *(Прык.)* 2. Аднойчы Вера Кавалёва, рухавая і жвавая дзяўчынка, з'язджаючы на санках з горкі, незнарок паламала адну з елачак. *(П.Т.)* 3. Нашы людзі – удзячныя нашчадкі Скарыны – помняць вялікі подзвіг свайго слаўтага першадрукара. *(Клыш.)* 4. Як толькі пацяплела надвор'е і збольшага падсохла зямля, сабраў Лабановіч сваю няхітрую маёмасць і, калі бралася на дзень, рушыў у дарогу. *(К-с)* 5. Яна [Айчына] багата прыродай, поўнай хараства, людзьмі, свабодалюбівымі і працавітымі, жыццём, што б'е невычарпальнай крыніцай. *(Хад.)* 6. У доме, дзе вырас паэт, дзе калісьці жыла сям'я яго бацькі – навагрудскага адваката Мікалая Міцкевіча, – знаходзіцца літаратурны музей. *(В.В.)* 7. Сонца свяціла ярка, неба было чыстае, але цеплыні не адчувалася: тут было Запаляр'е. *(Марц.)* 8. Пойдзеш нацянькі – згубіш тры дзянькі. *(Прык.)* 9. Старога вераб'я думаеце на мякіне правесці? Не выйдзе. Носам чую!.. *(Махн.)* 10. Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, бяры сявеньку і сей памаленьку. *(Прык.)* 11. – Перастаньце абодва. Слязьмі гору не паможаш, – пачаў супакойваць тата. *(Пальч.)*

**134**. Чаму ў словах *хтосьці, штосьці, калісьці, ледзьве* пішацца мяккі знак, а ў словах *госці, дзве* – не пішацца? Растлумачце напісанне мяккага знака ў словах *просьбіт, носьбіт.*

**135**. Устаўце, дзе трэба, замест кропак мяккі знак ці апостраф.

Песен...ка, п...е, л...е, голуб..., сляз...мі, восем..., сядз...це, соцен..., інтэрв...ю, дзес...ці, Заслаў...е, бул...ён, сузор...е, струмен...чык, раз...бяр, ін...екцыя, вішан...ка, аген...чык, п...едэстал, мен...шы, кан...юнктывіт, шэсц...сот, свіцяз...скі, любан...скі, стан...це, тайван...скі, ліпен...скі, ц...віль, камус...ці, кін...це, восен...скі, дзец...мі, у піс...ме, куп...існы, нян...ка, кон...скі, заходз...це, сып...це, фел...етон, вас...містам, шкел...ца, інтэр...ер, ледз...ве, балон...чык, белен...кі, чац...вер.

**136**. Падкрэсліце арфаграмы, назавіце правіла напісання той ці іншай арфаграмы, а таксама вызначце прынцып перадачы гукавога складу ў наступных словах.

Ястрабок, лямантаваць, расчоска, расада, зрабіць, спісаць, сіняе, засеяны, не чуў, чэркескі, рошчына, пераплётчык, добрушскі, абсохнуць, уперамежку, уперамешку, пакгауз, узмежак, ідэалогія.

**137**. Правілы напісання слоў разам, праз злучок ці асобна – гэта, як ужо гаварылася, асобны раздзел арфаграфіі, які не мае ніякай сувязі ні з фанетычным, ні з марфалагічным прынцыпамі. Толькі ў некаторых, вельмі рэдкіх выпадках можна гаварыць пра выкарыстанне дыферэнцыяльнага прынцыпу ў гэтым раздзеле арфаграфіі. Так, вытворныя злучнікі *затое, адтаго, прычым, прытым* пішуцца разам, а аднолькавыя гучаннем спалучэнні прыназоўнікаў з займеннікамі *(за тое, ад таго, пры чым, пры тым)* пішуцца асобна, у два словы, напрыклад: 1) *Бегучы, Суёпка толькі блісне на Аленку сваімі шэрымі вачыма, прычым бровы яго ссунуцца. (К-с);* 2) *Тут вы сапраўды ні пры чым. (Крап.).*

Часам у некаторых працах (гл., напрыклад, артыкул У.Куліковіча ў часопісе «Роднае слова», № 1 за 2004 г., с. 44) пішуць, што асноўныя правілы напісання слоў

разам, асобна, праз злучок грунтуюцца на лексіка-сінтаксічным і словаўтваральна-граматычным прынцыпах. Але такое сцвярджэнне можна праілюстраваць толькі досыць абмежаванай колькасцю слоў. Таму наўрад ці варта прымаць пад увагу гэта не агульнапрынятае, штучна выдзеленае сцвярджэнне, дарэчы, запазычанае, амаль даслоўна перапісанае з аднаго рускага дапаможніка (Современный русский литературный язык / Под ред. П.А.Леканта. – М., 1988, с. 141).

Растлумачце напісанне выдзеленых слоў.

1. Максім Багдановіч нарадзіўся ў горадзе Мінску ў сям'і *вучонага-этнографа. (Віт.)* 2. На працягу стагоддзяў нечуваны здзек трывала Беларусь: быць радзімаю *ўсходнеславянскага кнігадрукавання* і не мець права выдаваць кнігі на роднай мове. *(Клыш.)* 3. Вострыя верхавіны *цёмна-зялёных* ялін і высокіх соснаў абліты яркім святлом. *(Б.)* 4. Далёка *ўперадзе* між высокіх *пышна-зялёных* ліп бялеліся шыферныя і гонтавыя дахі хат, што раскінуліся шырока (аж не схопліваў позірк) *налева* і *направа* абапал доўгай, вярсты са дзве, вуліцы. *(Г.Д.)* 5. *Хлебам-соллю* сустракае край мой гасцей жаданых. *(В.Л.)* 6. Насустрач самалёту *бегла-слалася* злёгку запарушанае снегам *поле-аэрадром. (Хад.)* 7. Па рэчцы ўгадвалі і надвор'е: зменшала *пад вечар* вада – заўтра *зранку* будзе дождж. *(В.А.)* 8. Здарылася так, што я пачаў *па-сапраўднаму* пазнаваць Беларусь толькі пасля вайны. *(Каратк.)* 9. Аджыўшы свой доўгі век, ляжаць аброслыя мохам *дрэвы-гіганты. (В.В.)* 10. Невядомы аўтар піша паэму «Тарас на Парнасе», і яе завучвае *на памяць* бадай што кожны беларус. *(Каратк.)* 11. – Тое, што можна зрабіць сёння, *не трэба* адкладваць *на заўтра*, – банальна сказаў Рыгор і сам узлаваўся на сябе за гэта. *(Я.В.)* 12. Недзе *далёка-далёка* бліснуў агеньчык і, сарамліва паміргаўшы, згас. *(Каратк.)* 13. Летам, у *які-небудзь* спякотны поўдзень, калі хочацца хутчэй акунуцца ў ваду, такі халадок радасна ўсцешыў бы загарэлыя ногі, а цяпер, *увосень*, гэта было не зусім *даспадобы. (Сіп.)* 14. У той момант адзіноты Марыя гатова была паступіць па прыказцы: «*Сякі-такі* целяпей, *усё ж такі ўдваіх* ляпей». А жыць давялося не *ўдваіх,* а чацвярым. *(У.К.)*

**138**. Спішыце словы, раскрываючы дужкі, і будзьце гатовыя вусна растлумачыць напісанне гэтых слоў разам, праз злучок ці асобна.

Народна (паэтычны), (санкт) пецярбургскі, гіпса (цэментны), паравоза (вагона) рамонтны, (вада) праводны, грамадска (неабходны), горка (салёны), сусветна (гістарычны), жоўта (зялёны), аэра (фота) здымка, (лёгка) паранены, прэм'ер (міністр), Франкфурт (на) Майне, (пад) вечар, (па) бацькоўску, (пад) пахамі, (на) відавоку, (на) дзіва, (з) наскоку, (абы) што, (не) надта, ні (да) чаго, (ні) быта; (не) хто іншы як Васіль; далёка (не) лепшы выхад; (на) супраць.

**139**. Пытанне аб функцыях вялікай літары, пазначанае ў праграме курса сучаснай беларускай мовы, чамусьці не разглядаецца ў падручніках і дапаможніках. Пералічым гэтыя функцыі: 1) сінтаксічная (паказвае на пачатак самастойнага сказа пасля кропкі, пытальніка, клічніка ці шматкроп'я); 2) ідэаграфічная (для адрознення ўласных імёнаў ад агульных); 3) стылістычныя (для паказу асаблівых, адмысловых адносін да чаго-небудзь).

Якія функцыі выконвае вялікая літара ў пададзеных сказах? Назавіце адпаведнае правіла ўжывання вялікай літары. У якім сказе ўжыванне вялікай літары грунтуецца на традыцыйным прынцыпе?

1. На поўдні Палесся, у тым краі, дзе паўнаводная і спакойная Прыпяць спяшаецца ў абдымкі да Дняпра-прыгажуна, ёсць адзін вельмі цікавы раён. *(Саб.)* 2. Задуменна стаіць натхнёны Скарына, як бы вярнуўшыся з далёкіх дарог чужыны на Бацькаўшчыну. *(Клыш.)* 3. Пасля перапынку зноў пачала дзейнічаць Генеральная Асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. *(Зв.)* 4. Яго [Міхаіла Савіцкага] трыумфальны поспех у мастацтве звязваюць з цудоўнай работай, з «Партызанскай мадоннай», якая стала цяпер не меней славутай у свеце, чым самыя выдатныя яе папярэднiцы эпохі Адраджэння. *(В.Б.)* 5. Памятаю, як прымалі ў Саюз пісьменнікаў Вячаслава Адамчыка. *(Скр.)* 6. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў доўгія і цяжкія месяцы блакады Аляксандр Пракоп'еў быў з ленінградцамі, дзяліў з імі і голад, і холад, і смяротную небяспеку, і бессмяротную мужнасць. *(Панч.)* 7. На ўсход ад Беларусі, калі не лічыць Сярэднюю Азію, буслы ўжо амаль не водзяцца. *(Каратк.)* 8. Давайце заглянем у Навагрудак, горад на высокіх узгорках, што быў у далёкія часы сталіцай старажытнай беларускай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага. *(В.В.)* 9. Сям'я, родная хата, вёска для многіх людзей – такі ж цэнтр сусвету, як у Пталамеевай сістэме Зямля... *(У.К.)* 10. Нас, як учора і заўчора, яднае памяць і запавет папярэднікаў, яднае вялікая непарыўная традыцыя служэння роднаму слову, роднаму народу, яднае сыноўскі клопат пра лёс Маці-Радзімы, пра лёс Бацькаўшчыны. *(Гіл.)* 11. Тут, у нашым творчым саюзе, сабралася лепшае, што ёсць на сёння ў беларускай літаратуры, тут жыве той вольналюбівы дух, якім можа ствараццa Літаратура з вялікай літары. *(І.)* 12. Жывём, як Купала і Колас калісь загадалі нам жыць... Жывём без агляднi на голас, што з ранку да ночы сіпіць: – Прадайце Радзіму і Мову, аддайце на здзек прыбышу і Бога, і роднае Слова... Прадайце святую Душу... Я – бог, бо я ўладу вяршу!.. *(Ак.)*

**140**. Прачытайце пададзены ніжэй (са скарачэннямі) артыкул, змешчаны ў «Нашым слове» (2003. 26 лістап.). Чым матывуецца неабходнасць пісаць з вялікай літары ўсе словы ў складаным найменні *Вялікае Княства Літоўскае*?

У акадэмічных «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», выдадзеных у 1959 годзе, гаварылася, што ў афіцыйных назвах дзяржаў усе паўназначныя словы пішуцца з вялікай літары. І тут, і ў шматлікіх іншых даведніках, падручніках, дапаможніках правіла ілюструецца прыкладамі тыпу: *Злучаныя Штаты Амерыкі, Федэратыўная Рэспубліка Германія, Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, Каралеўства Непал, Кітайская Народная Рэспубліка.* Сюды ж можна дадаць і параўнальна нядаўнія аналагічныя складаныя найменні: *Садружнасць Незалежных Дзяржаў, Рэспубліка Беларусь, Расійская Федэрацыя.* Але ў энцыклапедыях, манаграфіях, падручніках і артыкулах па гісторыі ці літаратуры, як толькі размова заходзіла пра *Вялікае Княства Літоўскае,* другое слова, насуперак правілу, пісалі з малой літары.

У 1999 годзе быў апублікаваны акадэмічны праект новай рэдакцыі «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». Сярод розных удакладненняў тут на с. 56 паўтараецца ранейшае правіла аб напісанні з

вялікай літары ўсіх слоў у назвах дзяржаў, але ў якасці прыкладаў прыводзіцца ўжо і *Вялікае Княства Літоўскае.*

У друкаванай маўленчай практыцы памалу ўсталёўваюцца некаторыя напісанні, занатаваныя ў памянёным праекце арфаграфічных правілаў. Так, амаль ва ўсіх беларускіх выданнях цяпер пішуць з вялікай літары: *Бог, Гасподзь, Усявышні, Уладыка Нябесны, Божая Маці* і пад. Пішуць «э» ў канцы нязменных слоў *(рэзюмэ, рэнамэ),* у сярэдзіне шмат якіх запазычаных назоўнікаў: *вальдшнэп, дыспансэр, джэнтльмен, кансэнсус, мадэмуазэль, нонсэнс, паланэз, сэрвіс, тунэль, экзэма, экзэмпляр* і інш.

Цяпер «Настаўніцкая газета» (напрыклад, за 20.12.2000 г.), «Літаратура і мастацтва», «Маладосць», «Роднае слова» (напрыклад, у № 10 за 2003 г., с. 6) пішуць з вялікай літары ўсе словы ў назве *Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае* і, само сабой зразумела, у абрэвіятуры *ВКЛ.* Але ў некаторых выданнях прадаўжаюць друкаваць па-ранейшаму; напрыклад, у часопісе «Полымя» (2003. № 10. С. 18): *па пратэкцыі палявога пісара Вялікага княства Літоўскага;* у газеце «Народная воля» (2003. 29 кастр.): *Вялікае княства Літоўскае.* Або пішуць і так і гэтак; напрыклад, у «Нашым слове»: *Вялікае княства Літоўскае* (2003. 29 кастр.) і *Вялікае Княства Літоўскае* (2003. 5 лістап.).

Будзем спадзявацца, што ўсе аўтары стануць трымацца логікі, а не традыцыі і фанатычнага кансерватызму ў арфаграфіі і будуць пісаць з вялікай літары ўсе словы ў назве нашай дзяржавы мінулых эпох, як пішуць гэта ў назвах іншых дзяржаў.

**141**. Раскажыце пра ўжыванне вялікай літары ў прыналежных прыметніках, утвораных ад уласных найменняў людзей, гістарычных і міфічных асоб, а таксама ад мянушак людзей і жывёл. У якіх пададзеных словах трэба замест малой літары, што ў дужках, пісаць вялікую літару і чаму?

(к)упалаўская прэмія, (к)упалаўская стыпендыя, (к)упалаўскія чытанні, (к)упалаўскі стыль, (к)упалава паэма, (б)агдановічаў верш, (к)оласавы творы, (а)хілесава пята, (п)іфагоравы штаны, (м)іхасёвы прыгоды, (г)ордзіеў вузел, (а)нтонаў агонь, (м)služаўскія раманы, (д)амоклаў меч, (а)дамаў яблык, (б)ерынгаў праліў, (к)рапівоўская творчая манера, (м)агеланаў праліў, (н)асовічаў слоўнік, (п)раметэеў агонь, (к)оласаўскія чытанні, (а)ндрэева шапка.

**142.** Шмат гадоў назад А.Салжаніцын гаварыў, што толькі ў Савецкім Саюзе пішуць *Бог* з малой літары, але затое тут *КДБ* пішацца аж з трох вялікіх літар. Цяпер жа шмат хто кінуўся ў іншую крайнасць, у газетах, часопісах, кнігах пішуць, напрыклад: *яй-Богу, кожны Божы дзень.*

Слова *Бог* і вытворныя ад яго ў адных выпадках трэба пісаць з вялікай літары, а ў другіх – з малой. Калі слова *Бог* ужываць як абазначэнне вярхоўнай істоты, стваральніка і кіраўніка свету і як увасабленне праўды і спагадлівасці, то яно ўспрымаецца як індывідуальная назва і таму павінна пісацца з вялікай літары: *Калі Бог хоча каго пакараць, таго ён пазбаўляе розуму. (В.Б.); І блаславіць нас на змаганне Бог. (Н.Г.)* Вялікую літару трэба захоўваць і ў некаторых спалучэннях, дзе прыметнік звязваецца ў нашай свядомасці як утварэнне ад слова *Бог* у яго першасным, зыходным значэнні: *Божая воля, Божая маці, Божая сіла.*

У астатніх выпадках гэтыя прыметнікі, як і вытворныя назоўнікі і дзеясловы, патрэбна падаваць з малой літары: *боскі напітак, богабоязны, богаслужэнне, бажыцца, не божкай.* Слова *Бог* развіло ў сабе зафіксаванае слоўнікамі пераноснае значэнне

‘выдатны спецыяліст у якой-небудзь справе’; у такім выпадку яго трэба пісаць з малой літары: *Ці бачыў Наташу той чарнявы ленінградзец, хвалёны бог электразваркі? (Кр.)*

Паколькі ў складзе фразеалагізма яго кампаненты толькі знешне падобныя на словы, але не маюць асобнага лексічнага значэння, то кампанент *бог* варта пісаць з малой літары. Напрыклад, у сказе *Перакусіце трошкі чым бог паслаў (Пестр.)* выраз *чым бог паслаў* абазначае ‘тым, што ёсць’. Тут ніяк нельга атаясамліваць назоўнікавы кампанент са словам *Бог* у яго першасным значэнні, а *паслаў* разумець як ‘адправіў па пошце ці праз пасланца’. Яшчэ прыклады: *у бога цяля ўкраў, не нашага бога, як у бога за пазухай.*

Калі прыказка мае толькі пераносны, алегарычны сэнс, гэта значыць, што ў ёй гаворыцца пра адно, а маецца на ўвазе зусім іншае, то кампанент *бог* варта падаваць з малой літары: *Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.* Калі ж прыказка ўжываецца толькі ў прамым значэнні, слова *Бог* трэба пісаць з вялікай літары: *На Бога спадзявайся, а сам не давайся.*

Растлумачце ўжыванне вялікай ці малой літары ў слове *Бог* і вытворных ад яго.

1. Пра гэта знаем толькі я і Бог. *(В.З.)* 2. Марыя дзякуе Богу за тое, што ў самыя цяжкія хвіліны ён выратаваў яе. *(ЛіМ)* 3. – З потам прыйшла хвароба, з потам хай пойдзе, – шаптала маці, – пральецца на зялёную траву, на чыстую расу... Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа – не дай божа... *(В.Ш.)* 4. Беражонага і Бог беражэ. *(Прык.)* 5. Дай божа нашаму цяляці ваўка спаймаці. *(Прык.)* 6. Упарыць жа ясень трэба дай божа. *(Пт.)* 7. Гаспадарка дай божа. *(Хад.)* 8. Сямейка – дай божа. *(Лыньк.)* 9. Кожны божы дзень, Боскі гнеў, Богаў сын (Ісус), богатварыць, божканне, богаадступніцтва, конь божы, іскра божая, божая сляза, на божай пасцелі, баранчык божы, божы палец, ад бога выспятка, бог бацька, (страляць) богу ў вокны.

**143**. Пры спісванні падзяліце словы рыскамі для пераносу. Калі перанос немагчымы, растлумачце чаму.

Азія, аса, заяц, цераспалосіца, ураджай, падземны, адзначыць, суддзя, заўтра, унія, алея, якая, ярус, займацца, праўнук, бур’ян, мэтазгодна, надвячорак, перадрукоўваць, каўказскі, сенаўборка, словаўтварэнне, трыццаць, калоссе, папрасіць, паўтарыць, запрэгчы, паджылкі, разыграць, стопрацэнтны, дзеепрыслоўе, падасінавік, назваць, заспяваць, адправіць, падыход, 100 кг, В.Быкаў, торфабрыкет.

**144**. «Арфаграфічны аналіз, – пісаў В.Старычонак у часопісе «Роднае слова» (1998. № 11. С. 135), – садзейнічае больш глыбокаму засваенню арфаграфічных нормаў, свядомай выпрацоўцы навыкаў правапісу, замацаванню пэўных правілаў і тыпаў арфаграм і тым самым выхаванню адукаваных, пісьменных грамадзян».

Арфаграфічнага аналізу патрабуюць не ўсе словы, а толькі тыя, у якіх ёсць арфаграмы. Напрыклад, у сказе *Жняя заснула (Б.)* другое слова не мае арфаграм і яго напісанне не апіраецца на веды па арфаграфіі. У слове можа быць некалькі арфаграм. Так, у слове *ад’езд* іх чатыры: першая на правапіс зычных на канцы прыстаўкі *ад*, другая на правапіс апострафа, трэцяя на правапіс звонкіх перад глухімі, чацвёртая на правапіс звонкіх на канцы слова.

Арфаграфічны аналіз можа быць частковы (на пэўныя правілы) і поўны (на ўсе арфаграфічныя правілы).

П а р а д а к а н а л і з у. 1. Падкрэсліць і назваць арфаграму. 2. Вызначыць від арфаграмы (г.зн. сказаць, на якое правіла гэта арфаграма). 3. Сфармуляваць правіла напісання арфаграмы. 4. Вызначыць прынцып перадачы гукавога складу.

У з о р. *Л<u>я</u>цім <u>над</u> ак<u>ія</u>нам. (Б.)* У першым слове арфаграма *я* – на правапіс *е, я;* правіла: у першым складзе перад націскам пішацца *я*; фанетычны прынцып. Другое слова *(над)* – арфаграма на напісанне разам, асобна ці праз злучок; правіла: прыназоўнік *над*, як і іншыя, пішацца асобна. У трэцім слове арфаграма *ія* – на

правапіс іншамоўных спалучэнняў галосных; правіла: спалучэнне [еа] абазначаецца літарамі *еа*, але слова *акіян* – выключэнне, у ім, згодна з вымаўленнем, пішацца *ія*; фанетычны прынцып.

У правілах 2-й групы (напісанне разам, праз злучок ці асобна), 3-й групы (ужыванне вялікай літары) і 4-й групы (перанос слоў), як ужо гаварылася, не выкарыстоўваюцца фанетычны і марфалагічны прынцыпы. Таму пры арфаграфічным аналізе слоў з арфаграмамі гэтых трох груп прынцып напісання (чацвёрты пункт схемы аналізу) не вызначаецца і не ўказваецца. Выключэнне складаюць выпадкі, калі выкарыстоўваецца традыцыйны ці дыферэнцыяльны прынцып.

Зрабіце арфаграфічны аналіз слоў у сказах.

1. Верш Янкі Купалы «Ворагам Беларушчыны» пачынаецца радком: «Чаго вам хочацца, панове?» *(ЛіМ)* 2. Кожны старажыл Камсамольска ведае Акіма Іосіфавіча Акуліча. Маладым хлопцам ён прыехаў з Барысаўшчыны на Далёкі Усход ахоўваць рубяжы Радзімы. *(Грах.)* 3. З клуба праз драўляную, яшчэ не атынкаваную сцяну далятаюць выбухі, грукат і крыкі «ўра». *(Грах.)* 4. Калі б гадоў да ста так даў бог дастатак... *(Бар.)*

**145**. Раскажыце пра асноўныя правілы напісання абрэвіятур і скарачэння слоў. Чаму адны абрэвіятуры пішуцца з вялікай літары, а другія – з малой?

ВКЛ, СНД, РБ, НАНБ, ФРГ, ЗША, ТБМ, ВНУ, нэп, цэц, дот, дзот.

**146**. Запішыце скарочана словы і спалучэнні слоў. Падкрэсліце скарочаныя абазначэнні, пасля якіх не ставіцца кропка, і растлумачце, у якіх выпадках гэта бывае.

XIX стагоддзе, і іншае, параўнай, глядзі, стары стыль, гэта значыць, тона, гектар, складаназалежны сказ, жаночы род, адзіночны лік, год, сантыметр, кіламетр, кілаграм, метр, лінгвістыка, доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт, устарэлае слова, гістарызм, вінавальны склон, што-небудзь, беларуская мова.

**147**. Адно з пытанняў арфаграфііі як раздзела мовазнаўства – гэта гісторыя беларускай арфаграфіі.

Браніслаў Тарашкевіч, аўтар першай беларускай граматыкі новай (сучаснай) літаратурнай мовы, пісаў: «Пакінуўшы даўно парваныя і заняпаўшыя традыцыі старасвецкае беларушчыны, мова новага пісьменства адразу пачала буйна ўзрастаць з народнага карэння».

Чаму новая беларуская мова, якая пачала складвацца ў другой палове XIX ст., не працягвала традыцый старажытнабеларускай мовы, той мовы, якой карысталіся ў пісьмовых зносінах у Вялікім Княстве Літоўскім?

**148**. Як у правапісе літаратурных твораў XIX ст. адлюстраваны такія спецыфічныя рысы беларускай мовы, як аканне, яканне, дзеканне, цеканне, зацвярдзеласць зычнага *р*, ужыванне *ў* (нескладовага)?

**149**. Раскажыце пра ролю беларускіх пісьменнікаў В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча і асабліва Я.Купалы і Я.Коласа ў выпрацоўцы нормаў беларускай пісьмовай мовы і ў станаўленні беларускай арфаграфіі.

**150**. Раскажыце пра ролю першых легальных беларускіх газет, асабліва «Нашай нівы», у станаўленні арфаграфічных нормаў.

**151**. Сцісла ахарактарызуйце «Беларускую граматыку для школ» Б.Тарашкевіча (Вільня, 1918). На якіх двух прынцыпах засноўваліся ў ёй правілы перадачы на пісьме

гукавога складу слоў? Чаму ў асобную групу вылучаўся правапіс іншамоўных (чужаземных) слоў і на якія дзве групы яны падзяляліся?

**152**. Прачытайце прыклады чужаземных слоў і вытворных ад іх, узятыя з п'есы Я.Купалы «Тутэйшыя», апублікаванай у 1924 г., і зборніка апавяданняў К.Крапівы «Людзі-суседзі» выдання 1928 г. Супастаўце тагачасныя, у адпаведнасці з «тарашкевіцай», і сучасныя напісанні гэтых слоў, адзначце розніцу ў напісанні.

Рэнэгат, дэгэнэрат, мэтаморфоза, пропозыцыя, профэсар, цэрамонія, сэзонны, організм, пэрсона, унівэрсытэт, сэанс, орыгінальны, пролетарскі, псыхо-потолёгічны, мэтодолёгія, фізыолёгія, інжэнэр, ідэалёгія, поэтычны, рэволюцыя.

**153**. Прачытайце верш К.Крапівы «Шчыраму латыністу» (з падзагалоўкам «На заметку ў газэце «Звезда»). Верш напісаны 11 кастрычніка 1922 г. і апублікаваны ў газеце «Савецкая Беларусь» (газета тады друкавалася на беларускай мове, а «Звязда» – на рускай). Адзначце напісанні, якія не супадаюць з сучаснымі.

Што вы, людзі! Што вы! Што вы!
Ня было таго ніколі,
Каб у нашай роднай школе
Беларускай нейкай мовы
Шэсьць гадзін было на тыдні, --
Яна-ж дзецям аж абрыдне.

Ды няма з яе карысьці –
Забіваць адно галовы;
Лепш ужыць латынскай мовы
Ды французскай, як калісьці,
Гледзячы з паднебнай вышы, --
Так з «Зьвязды» «Рабочы» піша.

Кажуць нават, што нядаўна
Ён унёс проэкт, каб далей
Ў нашых школах выкладалі
Пакітайску (вось забаўна!),
Беларус-жа роднай мовы,
Каб ня мог ужыць і слова.

Трэба й мне адукавацца,
Бо й «Савецкай Беларусі»
Давядзецца скора, мусіць,
Пакітайску друкавацца...

Латыніст, заядлы, шчыры!
Пралупі ты зрэнкі шырай
Ды на дол спусьціся з неба,
Наш таварыш безгаловы,
Дык убачыш, што нам мова
Беларуская тут трэба,
Як вада, як кавал хлеба,
Як расліне кожнай глеба.

**154**. У 1990-я гады ў друку і ў вусных выступленнях нярэдка ставілася, а часам і цяпер ставіцца пытанне аб вяртанні новага правапісу да тарашкевіцы. Прычым іншы раз пра тарашкевіцу пішуць і такія аўтары, якія, мякка кажучы, не вельмі добра знаёмыя з самой «Беларускай граматыкай для школ» Б.Тарашкевіча. А між тым аўтар гэтай граматыкі ў прадмове да 5-га выдання (1929) пісаў, што ён выразна бачыць «цэлую чараду яшчэ спрэчных пытаньняў ( у аканьні, у правапісе чужаземных слоў і інш.), бачыць патрэбу і магчымасьць спрашчэньня правапісу, але не бярэцца праводзіць якія-колечы зьмены такім індывідуальна-партызанскім спосабам», бо «гэта павяло-б толькі да шкоднага хаосу». Ён прызнаваў неабходнасць правапіснай рэформы і слушна лічыў, што апрацаваныя паасобнымі людзьмі адпаведныя праекты павінны «прайсьці праз публічнае сіта грамадзкай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзены ў жыцьцё аўтарытэтам культурных устаноў. Бо тутака пасьпех, запраўды, можа быць людзём на сьмех».

У газеце «Наша слова» (1998. 9 верас.) сцвярджаецца, што ў выніку арфаграфічнай рэформы 1933 г. беларуская мова набыла неўласцівыя ёй «суфіксы *-уч-, -юч-, -ўш-*», «напалову страціла перадначіскное «я», прыняла безнацiскное «э» і «о»: *соцыялізм, комунізм, комітэт*».

На самай справе гэта не так. Дзеепрыметнікі з суфіксамі *–уч-, -юч-, -ўш-* ужываліся і да рэформы 1933 г., у граматыцы Б.Тарашкевіча гэта ілюструецца

прыкладамі: *чытаючы(й), чытаючая, чытаючае, чытаючага, чытаўшы(й), купляўшы(й), купляўшая;* праўда, сказана, што дзеепрыметнікі ў форме цяперашняга часу (з суфіксамі *-уч-, -юч-*) ужываюцца рэдка. Прыкладна тое самае знаходзім і ў сучасных падручніках і навуковых граматыках.

Што да правіла пра пераднаціскное «я», то яно было занадта складанае. Літара «я» пісалася на месцы «е» не толькі ў першым складзе перад націскам *(бя-да, ня-ма, ля-жыць)*, але і ў другім складзе перад націскам, «калі ў першым няма «а» або «я» *(ля-су-на, ня-ву-чо-ны, ня была, бяз дзі-ця-ці)*». Больш за тое, «калі ў слове націск на прыстаўцы (найчасцей *вы*), то яканьне можна азначаць так, як быццам слова стаіць бяз прыстаўкі: *ляцець – выляцець, нясьці – вынясьці, нясу – вынясу*». І яшчэ: каранёвае «ё» ў такіх выпадках замяняецца на «я»: *нёс – выняс, вёз – вывяз, вёў – вывяў, лёт – вылят, дзёр – выдзяр.* Сам аўтар граматыкі, як ужо цытавалася вышэй, адчуваў, што правіла пра аканне (яканне) мае патрэбу ў спрашчэнні.

Правільна кажуць, што двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма. Так і з тарашкевіцай. Гэта ўжо пройдзены этап. У XX ст. арфаграфічнае рэгуляванне праводзілася ва ўсіх славянскіх мовах; напрыклад, у польскай мове тройчы (1918, 1936, 1957 гг.). Калі ў Расіі ў 1918 г. спецыяльным дэкрэтам бальшавікі адмянілі напісанне цвёрдага знака на канцы слоў, выключылі з алфавіту *фіту*, унеслі многія іншыя змены, то ні тады, ні цяпер нікому ў галаву не прыходзіла і не прыходзіць вярнуць, скажам, той самы цвёрды знак. І ў нас няма патрэбы, як гаварыў Васіль Вітка, «рэанімаваць правапіс, якога не прыняла і даўно адкінула жывая народная мова».

Ці згодныя вы з тым, што тарашкевіца – гэта ўжо пройдзены этап і вяртанне да яе немагчымае? Аргументуйце свой адказ.

**155**. Раскажыце пра арфаграфічную рэформу 1933 г., а таксама аб праектах рэформы (1926, 1930 гг.), якія папярэднічалі прыняццю Саветам Народных Камісараў БССР пастановы «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу». Чаму гэты правапіс, уведзены названай пастановай, часам называюць (з іранічным адценнем) наркомаўкай?

**156**. Назавіце, якія змены былі ўнесены ў правапіс ненаціскных галосных [э], [о]. Чаму ў правілах аб аканні было зроблена выключэнне для так званых інтэрнацыянальна-рэвалюцыйных слоў з усімі вытворнымі ад іх: *рэволюцыя, совет, большэвік, комуна, соцыялізм, комунізм, піонер, комсамол, пролетарый, Комінтэрн, Профінтэрн?* Калі было адменена гэта выключэнне?

**157**. Якія змены былі ўнесены ў правапіс зычных *д, т, л, з, с, м,* у напісанне мяккага знака, прыстаўнога *в*? Якія канчаткі ўзаконьваліся для давальнага і меснага склонаў множнага ліку ў назоўніках мужчынскага і ніякага роду?

**158**. У мастацкіх творах, напісаных да 1933 г., сустракаюцца (як тагачасная марфалагічная норма) назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з канчаткам *–ом (-ём)* у давальным склоне і *–ох (-ёх)* у месным склоне множнага ліку. Вось прыклады з трагікамедыі Я.Купалы «Тутэйшыя»: *нам, бацьком, галава не баліць; не заміналі важным гасцём; у іншых мясцох; пры бацькох, аб гасцёх, у вачох.* Тое самае і ў паэме Я.Коласа «Сымон-музыка»: *Цэрквы, стромкія касцёлы вежы ўзносяць к небясом.* Або ў «Ціхай плыні» М.Гарэцкага: *Бацька яе пры панох часта бывае.*

Цяпер жа некаторыя аўтары самачынна аднаўляюць старую норму, пашыраючы яе нават на назоўнікі жаночага роду. Знайдзіце парушэнне марфалагічных нормаў, і ранейшых – да 1933 г., і сучасных, у наступных прыкладах з верша А.Сыса.

1. А за тое, што жыў, пасадзіце ў нагох арабіну. 2. Ох, Мікола, Мікола, а як ты памрэш – хто ж мяне па начох прысыпаць будзе вершамі!

**159**. Як, у адпаведнасці з названай пастановай, трэба было змяняць ва ўскосных склонах лічэбнікі *два, дзве*? Якія канчаткі ўзаконьваліся для дзеясловаў 1-га

спражэння цяперашняга часу ў другой асобе множнага ліку? Якія змены былі ўнесены ў абодва гэтыя правілы ўдакладненнямі правапісу ў 1957 г.?

Адказваючы на гэтыя пытанні, звярніце ўвагу на наступнае. Хоць правілы скланення лічэбнікаў *два, дзве, абодва, абедзве* або спражэння дзеясловаў тыпу *ісці, несці* ўключаны ў пастанову «Аб зменах і спрашчэнні беларускага *правапісу*», але ці маюць яны, гэтыя правілы, напасрэднае дачыненне да *правапісу*? Калі моўнік сказаў або напісаў *дзвюх кніжак* замест *двух кніжак*, як узаконьвалася названай пастановай, то парушэннем якіх нормаў трэба было ацэньваць гэта: арфаграфічных ці граматычных? Ці згодны вы з тым, што, як адзначыў А.А.Лукашанец, «варыянтнасць канчаткаў – гэта не праблема правапісу, а праблема словазмянення, якая павінна вырашацца ў граматыках, а не ў зводзе правіл арфаграфіі і пунктуацыі»?

**160**. 11 мая 1957 г. Савет Міністраў БССР прыняў пастанову «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу». Якія правілы ці выключэнні з правілаў, прынятыя папярэдняй пастановай, былі адменены, удакладнены пастановай 1957 г.? Раскажыце, як былі ўпарадкаваны правілы аб напісанні раздзяляльнага апострафа і мяккага знака пасля *з, л, н, с, дз, ц* у словах іншамоўнага паходжання перад *і, е, я, ё, ю,* а таксама ў імёнах па бацьку і прозвішчах, утвораных ад імёнаў на –*ій.*

**161**. Якія змены ўнесены ў правапіс складаных слоў? Назавіце асноўныя правілы напісання складаных слоў, заснаваныя на фанетычным законе несумяшчальнасці ў слове побач двух націскных складоў.

**162.** Якія змены ўнесены ў правапіс часціц *ж (жа), б (бы)*?

**163**. Назавіце прынятыя пастановай 1957 г. удакладненні і змены, унесеныя ў марфалагічныя нормы словазмянення (склонавыя канчаткі лічэбнікаў *два, дзве, абодва, абедзве,* канчаткі *-у, -ю* ў родным склоне назоўнікаў мужчынскага роду пэўнай тэматычнай групы, канчаткі дзеясловаў цяперашняга часу 1-га спражэння ў першай і другой асобе множнага ліку).

* * *

Разнастайныя віды моваэнаўчых аналізаў (лексічны, фразеалагічны, фанетычны, графічны, арфаграфічны) – істотны сродак сістэматызацыі, абагульнення і замацавання ведаў, атрыманых па лексікалогіі, фразеалогіі, фанетыцы, графіцы і арфаграфіі. Схемы і ўзоры фанетычнага, графічнага і арфаграфічнага аналізаў пададзены ў гэтай кнізе адпаведна ў практыкаваннях 46, 107, 144.

Што да лексічнага і фразелагічнага аналізаў, то схемы гэтых аналізаў (без узораў) прыводзяцца ў «Практыкуме па лексікалогіі і фразеалогіі» (2001, с. 19 і 120), але паколькі яны спатрэбяцца пры падрыхтоўцы да экзамену ў летнюю сесію, пададзім тут схемы гэтых аналізаў і ўзоры.

* * *

Схема л е к с і ч н а г а а н а л і з у слова: 1) лексічнае значэнне (назваць і спосаб яго раскрыцця); 2) тып лексічнага значэння (па матываванасці, сувязі назвы з прадметам, спалучальнасці з іншымі словамі); 3) адназначнае гэта слова ці мнагазначнае; 4) аманімічныя адносіны; 5) сінанімічныя адносіны; 6) антанімічныя адносіны; 7) тып (або група) паводле паходжання; 8) тып па экспрэсіўна-стылістычных асаблівасцях; 9) тып па сферы ўжывання; 10) тып паводле актыўнага і пасіўнага складу.

У з о р: Мінут пяць *баец* ішоў лесам.

*Баец* – 'салдат, радавы' (сэнс слова раскрываецца сінанімічным спосабам); тып лексічнага значэння па матываванасці – матываванае, па сувязі назвы з прадметам – прамое, па спалучальнасці – свабоднае; мнагазначнае (параўн.: *баец працоўнага фронту*); у аманімічныя адносіны не ўступае; сінонімы: *салдат, радавы*; антоніма няма; спрадвечна беларускае; агульнае для ўсходнеславянскіх моў; міжстылёвае,

нейтральнае; агульнаўжывальнае; паводле актыўнага і пасіўнага складу гэта слова (у названым значэнні) сёння можна ўжо лічыць устарэлым, архаізмам.

* * *

Схема ф р а з е а л а г і ч н а г а  а н а л і з у: 1) сэнс фразеалагізма (або фразеалагічнае значэнне); 2) тып фразеалагізма паводле паходжання (па магчымасці, вызначаецца і спосаб утварэння фразеалагізма); 3) тып па семантычнай злітнасці кампанентаў (зрашчэнне ці адзінства); 4) тып па суадноснасці з часцінамі мовы, зменнасць ці нязменнасць фразеалагізма; 5) тып па структуры; 6) тып па спалучальнасці са словамі; 7) сінтаксічная роля ў сказе; 8) стылістычная характарыстыка (функцыянальна-стылёвая і, калі выяўляецца, экспрэсіўна-ацэначная).

У з о р: Схлусіць, што Люся тут ні пры чым, -- у мяне не паварочваецца язык, а сказаць праўду я не хачу. *(В.Б.)*

У гэтым сказе два фразеалагізмы: *ні пры чым* і *не паварочваецца язык* (у каго). Прааналізуем другі выраз.

*Язык не паварочваецца* (у каго) – 'хто-небудзь не адважваецца ці не мае ахвоты сказаць што-небудзь'; агульны для ўсходнеславянскіх моў, утвораны фразеалагічна-сінтаксічным спосабам у выніку метафарычнага пераасэнсавання свабоднага прэдыкатыўнага словазлучэння з нерэальным вобразам; фразеалагічнае адзінства з нерэальным вобразам у яго аснове; несуадносны з часцінамі мовы, яго дзеяслоўны кампанент здольны ўжывацца ў цяперашнім, прошлым і будучым часе (*не паварочваецца, не паварочвайся, не павернецца*); мае структуру двухсастаўнага неразвітага сказа; з канструкцыйна абмежаваным значэннем, паказчык – *у каго;* выконвае сінтаксічную функцыю галоўнага члена безасабовага сказа; размоўны па функцыянальна-стылёвай афарбоўцы.

***

Лексічнаму аналізу, аднаму з важнейшых мовазнаўчых аналізаў, як паказвае практыка выкладання мовы ў сярэдняй і вышэйшай школе, чамусьці не прыдаецца належная ўвага. Магчыма, і таму, што ён не такі «лёгкі», як іншыя аналізы, і што даволі часта, лексічна аналізуючы слова, сустракаемся з шэрагам непрадбачаных цяжкасцей.

Змяшчаем далей артыкул І.Я.Лепешава «Лексічны аналіз у сярэдняй і вышэйшай школе», апублікаваны ў часопісе «Беларуская мова і літаратура» (2004. № 6. С. 13–18), з надзеяй і спадзяваннем, што студэнт, неаднойчы звяртаючыся да пададзенага тут матэрыялу, набудзе трывалыя ўмені і навыкі разбіраць слова з лексікалагічнага пункту гледжання.

Слова – такая шматмерная моўная адзінка, што дакладна вызначыць яго сэнс, адказаць на пытанне, што ж такое слова, відаць, немагчыма. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў слова растлумачвалася як злучэнне гукаў ці асобны гук, які мае пэўны сэнс. Такая дэфініцыя (азначэнне) больш-менш стасуецца са словам у яго лексікалагічным разуменні, ды і то пры ўмове, калі не рабіць розніцы паміж паўназначнымі словамі, кожнае з якіх мае пэўны сэнс, і службовымі, пазбаўленымі лексічнага значэння. Слова ж з'яўляецца аб'ектам вывучэння не толькі ў лексікалогіі, але і ў фанетыцы (фанетычнае слова), словаўтварэнні (вывучаецца марфемная будова слова і спосабы яго ўтварэння), марфалогіі (слова як часціна мовы) і сінтаксісе (слова як член сказа). Таму вельмі цяжка даць слову дакладнае азначэнне, якое было б прыдатным да ўсіх бакоў вывучэння гэтай моўнай адзінкі. Існуе некалькі сотняў дэфініцый слова, але ніводная не стала агульнапрынятай. У сучаснай лінгвістыцы часцей за ўсё слова вызначаюць як асноўную адзінку мовы, не даючы ніякіх дадатковых характарыстык.

Славуты швейцарскі мовазнаўца Ф.дэ Сасюр (1857–1913) пісаў: «...слова, нягледзячы на цяжкасці вызначыць гэта паняцце, ёсць адзінка,

якая неадступна з'яўляецца нашаму розуму як нешта цэнтральнае ва ўсім механізме мовы...» (цыт. па [1, с. 11]). А цэнтральным у самім слове выступае яго асобнае лексічнае значэнне.

З гэтага вынікае, што ў практыцы выкладання мовы як у сярэдняй, так і ў вышэйшай школе лексічны разбор слова – самы дзейсны сродак сістэматызацыі, замацавання і праверкі ведаў – павінен займаць адно з першых месцаў сярод іншых відаў аналізу (фанетычнага, марфемнага, словаўтваральнага, марфалагічнага, сінтаксічнага, арфаграфічнага і пунктуацыйнага). Назіранні ж паказваюць, што лексічнаму аналізу адводзіцца другараднае месца, а то і як бы ігнаруюць яго.

Так, у вучэбным дапаможніку для X класа [2] на адваротным баку вокладкі даецца схема лексічнага аналізу і ўзор-прыклад, як рабіць такі аналіз, але ў раздзеле «Лексікалогія» ёсць толькі адно практыкаванне (№ 97) з заданнем «зрабіць лексічны разбор выдзеленых слоў». У «Заданнях і тэстах...», разлічаных на выпускнікоў школ і абітурыентаў (гл.: Беларуская мова і літаратура. 2004. № 2. С. 41–45), няма нават упамінання пра гэты аналіз. Выпускнікам філалагічных факультэтаў (прынамсі, у Гродзенскім універсітэце) таксама не прапаноўваецца слова для лексічнага аналізу. На гэта ў 2003 г. звярнуў увагу старшыня Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі, адзначыўшы ў сваіх вывадах і прапановах: «Мэтазгодна не абмяжоўвацца толькі фанетычным, марфемным, словаўтваральным, марфалагічным і сінтаксічным відамі моўнага разбору. Пажадана ўвесці таксама лексічны разбор слова ў сказе. Тлумачыцца гэта тым, што названы разбор прадугледжвае разгляд слова не проста як моўнай адзінкі, а як адзінкі лексіка-семантычнай сістэмы мовы, дае магчымасць праверыць, як тонка студэнты адчуваюць слова з уласцівымі яму лексічнымі значэннямі і адценнямі, эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай і г.д.».

Лексічны аналіз слова адрозніваецца ад іншых аналізаў методыкай правядзення. Пры фанетычным разборы, як і пры розных відах граматычнага аналізу, захоўваецца прынцып «ад большага – да меншага» (напрыклад, фанетычна аналізуючы слова, мы ідзём ад слова і яго складоў да гука). Пры лексічным жа аналізе слова не чляніцца; тут ажыццяўляецца прынцып разгляду слова з розных бакоў, пранікнення ў глыбіню слова, прынцып сістэмных сувязей лексічных з'яў. У выніку лексічнага аналізу, па-першае, сістэматызуюцца разрозненыя лексікалагічныя паняцці, з якімі знаёмяцца вучні або студэнты; па-другое, складваецца перакананне, што лексіка як слоўнікавы склад мовы ёсць не сума слоў, а сістэма суадносных і ўзаемазвязаных моўных элементаў, што словы знаходзяцца паміж сабой у аманімічных, сінанімічных і антанімічных адносінах, адрозніваюцца паходжаннем, сферай ужывання, прыналежнасцю да актыўнага ці пасіўнага складу, неаднолькавасцю стылістычнай характарыстыкі.

Схема лексічнага аналізу, які праводзіцца ў сярэдняй школе, асабліва ў старшых класах, амаль не адрозніваецца ад схемы, якой карыстаюцца студэнты-філолагі. Толькі ў асобных пунктах яна больш складаная для студэнтаў, што абумоўліваецца адпаведнай універсітэцкай праграмай па сучаснай беларускай мове.

Вось як, напрыклад, аналізуюць студэнты два выдзеленыя словы ў сказе: *Пасля такой спякоты заўсёды бывае* ***рабінавая ноч*** (І.Шамякін).

***Ноч*** – 'частка сутак ад захаду да ўсходу сонца' (тут сэнс слова раскрываецца апісальным спосабам). Тып лексічнага значэння: па матываванасці – нематываванае, па сувязі назвы з прадметам – прамое, па спалучальнасці з іншымі словамі – свабоднае. Слова адназначнае, у аманімічныя і сінанімічныя адносіны не ўступае. Мае антонім – *дзень*. Паводле паходжання – спрадвечна беларускае, агульнаславянскае. Па экспрэсіўна-стылістычных асаблівасцях – міжстылёвае слова, нейтральнае. Па сферы ўжывання – агульнаўжывальнае. Паводле актыўнага і пасіўнага складу – слова актыўнай лексікі.

***Рабінавая*** – 'навальнічная, з громам і маланкай' (спосаб раскрыцця лексічнага значэння – апісальны). Тып лексічнага значэння: па матываванасці – нематываванае, па сувязі назвы з прадметам – вытворна-прамое, па спалучальнасці – фразеалагічна звязанае, або валентна абмежаванае, бо выяўляе сваё названае значэнне толькі ў спалучэнні са словам *ноч*. Слова мнагазначнае (параўн., напрыклад, іншыя значэнні гэтага слова ў такіх спалучэннях: *рабінавы гай, рабінавы сок, рабінавы колер*). У аманімічныя, сінанімічныя і антанімічныя адносіны не ўступае. Паводле паходжання – спрадвечна беларускае, уласна беларускае (у згаданым значэнні). Па экспрэсіўна-стылістычных асаблівасцях – размоўнае, часцей неадабральнае. Па сферы ўжывання – агульнаўжывальнае. Паводле актыўнага і пасіўнага складу – слова актыўнай лексікі.

Калі цяпер на занятках у сярэдняй школе зрабіць фанетычны разбор памянёнага вышэй слова *ноч*, то ён будзе выглядаць так (бяром толькі два першыя гукі): ***н*** – зычны, звонкі, цвёрды; ***о*** – галосны. Ва універсітэце ж гэтыя гукі характарызуюцца куды больш ускладнена: ***н*** – зычны, санорны, цвёрды, язычны, пярэднеязычны, змычна-праходны; ***о*** – галосны, лабіялізаваны, задняга рада, сярэдняга пад'ёму. Зразумела, пры вывучэнні раздзела «Фанетыка» і на выпускных (дзяржаўных) экзаменах студэнты павінны даваць такую падрабязную характарыстыку гукаў. Але што далей? Калі разважаць з прагматычнага пункту гледжання, то аказваецца, што такая скрупулёзная характарыстыка гукаў нідзе ў далейшым не знаходзіць прымянення, у тым ліку і ў школьнай практыцы настаўніка (былога студэнта). Незапатрабаванае лёгка забываецца, выветрываецца з памяці, і праз які год ці крыху болей нават былы студэнт-выдатнік наўрад ці адкажа, які гэта гук – сярэдняга ці пярэдняга рада, ніжняга ці верхняга пад'ёму, змычны ён ці шчылінны, губна-губны ці зубны.

Я гэтым ніколькі не хачу знізіць значэнне фанетычнага ці, скажам, словаўтваральнага аналізу і не заклікаю зменшыць комплекс ведаў, якія сёння атрымлівае студэнт пры вывучэнні адпаведных раздзелаў мовазнаўства. Хочацца толькі яшчэ раз падкрэсліць, што ў практычнай маўленчай дзейнасці амаль кожнага чалавека з сярэдняй ці вышэйшай адукацыяй найбольшую ролю адыгрываюць трывалыя веды і навыкі не па фанетыцы і словаўтварэнні, а менавіта па лексікалогіі. А лексічны аналіз, усе структурныя элементы якога маюць самы непасрэдны выхад у маўленчую практыку, з'яўляецца эфектыўным сродкам сістэматызацыі,

абагульнення і замацавання гэтых ведаў. Ён злучае тэорыю і практычныя навыкі ў адзінае цэлае. Лексічна аналізуючы слова, вучні і студэнты практычна засвойваюць лексіка-семантычныя і стылістычныя нормы літаратурнай мовы.

Спынімся далей на некаторых цяжкасцях, што ўзнікаюць пры лексічным аналізе.

Правільна, дакладна вызначыць сэнс слова – адна з задач лексічнага разбору. Ёсць тры спосабы раскрыцця лексічнага значэння. Найбольш лёгкі і часта ўжывальны ў школьнай практыцы сінанімічны спосаб, хоць ім, як вядома, можна растлумачыць далёка не кожнае слова. Падборам адпаведных сінонімаў раскрываецца значэнне многіх назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў, прыслоўяў: *моц – сіла, храбры – смелы, світаць – днець, шчыра – сардэчна.* Калі да слова ці пэўнага яго значэння нельга падабраць сэнсавы адпаведнік, карыстаюцца апісальным спосабам тлумачэння: *водар* – ‘прыемны пах’. Такое лагічнае вызначэнне слова нярэдка робіцца шляхам вычлянення спачатку родавых, а затым найбольш характэрных відавых прымет прадмета ці з’явы: *сасна* – ‘хвойнае дрэва з доўгімі ігліцамі і круглявымі шышкамі’. Трэці пашыраны спосаб – структурна-семантычны разбор слова, раскрыццё значэння па частках слова: *схуднець* – ‘стаць худым’. Каб праверыць, ці правільна вызначылі сэнс слова, неабходна карыстацца прыёмам накладання на слова яго тлумачэння; напрыклад: *Ну, засцілайце* ***стол*** (= прадмет мэблі), *мужчыны!* (Я.Колас).

У школьнай практыцы, разглядаючы тыпы лексічнага значэння, вылучаюць толькі прамое і пераноснае значэнне. Але гэта не зусім дакладна. Такі падзел значэнняў рэзка разыходзіцца з тым, што знаходзім, напрыклад, у пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы», як і ў кожным іншым тлумачальным слоўніку. Так, *вішня* абазначае і ‘садова-ягаднае дрэва’, і ‘плод гэтага дрэва’; *бульба* – ‘агародная расліна’, ‘падземныя клубні гэтай расліны’ і ‘страва з клубняў гэтай расліны’, але ніводнае з гэтых значэнняў не пазначаецца ў ТСБМ паметай «пераносн.». У слове *браць* з 58 значэнняў (з адценнямі) толькі адно, а ў слове *біць* з 28 – толькі тры маюць памету «пераносн.».

У тлумачальным слоўніку, як, дарэчы, і ў слоўніку лінгвістычных тэрмінаў, «пераноснае» слушна атаясамліваецца з «метафарычным, вобразным, фігуральным»; напрыклад, другое значэнне назоўніка *мядзведзь* (‘непаваротлівы, дужы чалавек’) – пераноснае. У падручніках жа ці дапаможніках часта да пераносных адносяць усе значэнні, апрача прамога, першаснага. Такія другасныя, былыя пераносныя значэнні больш правільна называюць вытворна-прамымі. Пераноснымі ж трэба лічыць толькі тыя значэнні, якія не ў гістарычна-этымалагічным плане, а з сённяшніх пазіцый усведамляюцца як вобразныя, фігуральныя. У такім разе выклад матэрыялу ў падручніках па мове не будзе разыходзіцца з характарыстыкай слоў у акадэмічных слоўніках.

Вывучаючы тыпы лексічнага значэння, на філалагічных факультэтах выдзяляюць тры групы значэнняў з улікам таго, якая прымета кладзецца ў аснову класіфікацыі. Па матываванасці значэнні бываюць нематываваныя *(дуб)* і матываваныя *(дубовы).* Па сувязі назвы з прадметам – прамыя, вытворна-прамыя і пераносныя. Па

спалучальнасці з іншымі словамі – свабодныя і несвабодныя з трыма падгрупамі: фразеалагічна звязанае (***прасёлачная** дарога),* канструкцыйна абмежаванае (***удзельнічаць** у чым)* і сінтаксічна абмежаванае: *Нядрэнна зарабляе гэты **пень**, хоць ад яго карысці мала* (У.Корбан) (больш падрабязна пра гэта гл. [3]).

Без слоўніка не заўсёды лёгка адказаць на пытанне (адзін з пунктаў схемы лексічнага разбору), адназначнае гэта слова ці мнагазначнае, а тым больш пералічыць усе значэнні полісемантычнай адзінкі (напрыклад, дзеяслоў *ісці* мае 63 значэнні ці сэнсавыя адценні). У наступных кантэкстах назоўнік *мора* рэалізуе прамое значэнне (першы прыклад) і два пераносныя ('вялікая прастора чаго-небудзь' і 'вялікая колькасць каго-, чаго-небудзь'): *Адвечным ладам шуміць мора* (Я.Купала); *Рэчкі, купіны, чароты, мора траў і хмызняку* (Я.Колас); *Зямля мора слёз праліла, солі, як долі, наплакала* (Р.Барадулін). Пры лексічным аналізе варта захоўваць наступную ўмову: калі слова характарызуецца як мнагазначнае, то трэба прывесці хоць бы адзін прыклад на іншае значэнне гэтага слова.

Няведанне ці недакладнае веданне, якое гэта слова – адназначнае ці мнагазначнае, нярэдка прыводзіць да няправільных сцвярджэнняў у друку. Напрыклад, у газеце «Літаратура і мастацтва» (2004. 2 красав.) гаворыцца, што дзеяслоў *згубіць* спалучаецца толькі з канкрэтнымі прадметамі, а *страціць* – толькі з абстрактнымі і што ўжыванні *згубіў розум, згубіў прытомнасць* – «гэта непісьменна!». Але з выкарыстаннем дзеясловаў *губляць, згубіць, траціць, страціць* не ўсё так проста, як здаецца. Усе яны, як засведчана ў акадэмічных тлумачальных слоўніках, мнагазначныя, маюць па сем і болей (з адценнямі) значэнняў, і ў некаторых значэннях яны абсалютныя сінонімы, тоесныя ў семантычных і стылістычных адносінах, узаемазамяняльныя ў любых кантэкстах. Гэтыя значэнні ці адценні фіксуюцца ў нарматыўных даведніках не па волі складальнікаў-лінгвістаў, а на аснове маўленчай практыкі людзей, звычайна пры апоры на практыку аўтарытэтных аўтараў, на частотнасць ужывання пэўнага значэння, на іншыя крытэрыі, істотныя пры кадыфікацыі моўнай нормы. Нават тады, калі толькі пачынала складвацца сучасная беларуская літаратурная мова, у прыватнасці ў творах В.Дуніна-Марцінкевіча, сустракаем такія раўназначныя ўжыванні: *...памяць, розум губляю, не глядзі так на мяне, бо розум страчу*. Яшчэ некалькі (скарочаных) прыкладаў: *згубіўшы свой «шляхетны» гонар* (К.Крапіва), *«не губляючы часу»* (І.Мележ), *«жывёлы ўжо згубілі сувязь са сваім дзікім станам»* (М.Лобан), *«гэта **а** некалькі скарачаецца, але не губляе сваёй асноўнай якасці»* (Ф.Янкоўскі).

Яшчэ адзін аўтар (Роднае слова. 1997. № 3. С. 61) лічыць ненарматыўнай канструкцыю «ў канфлікт *уступаць* (бы гэта лужына якая)». Але гэта забарона няправільная. У нашай літаратурнай мове ёсць два дзеясловы-амонімы *ўступаць*, абодва маюць па 6 значэнняў (з адценнямі). *Уступіць* можна не толькі *ў лужыну*, але і (у іншым нарматыўным значэнні) *у спрэчку, у перагаворы, у канфлікт* і г.д. Параўнаем у Р.Шкрабы: *Тварыцкі ўступіў у канфлікт з грамадствам.*

Пры характарыстыцы слова паводле яго паходжання школьнікі вылучаюць толькі спрадвечна беларускую і запазычаную лексіку.

Студэнты ж спрадвечна беларускую лексіку падзяляюць на тры пласты: агульнаславянскую, агульнаўсходнеславянскую і ўласна беларускую лексіку. Запазычанні ж падзяляюцца на дзве групы: запазычанні са славянскіх моў (стараславянскай, рускай, украінскай, польскай) і запазычанні з неславянскіх моў. Выдзяленне запазычанняў неславянскага паходжання ў асобную групу тлумачыцца тым, што яны ў нас, як пісаў К.Крапіва, «карыстаюцца правам экстэрытарыяльнасці. Яны падпарадкуюцца законам нашай марфалогіі, але зусім не прызнаюць законаў фанетыкі і таму ўліўшыся ў беларускую мову, не зліваюцца з ёю канчаткова, а цякуць адасобленай плынню» [4, с. 364].

Словы, утвораныя на базе запазычаных, таксама часам адносяць да запазычаных. Напрыклад, у дапаможніку для практычных заняткаў па мове іншамоўнымі прызнаюцца *эксперыментальны, прагрэсійны, праектаванне* і пад. Аднак такія вытворныя словы павінны кваліфікавацца як беларускія. Так, *бульба* – запазычанне з лацінскай мовы *(bulbos* – клубень), а ўсе ўтварэнні ад гэтага слова – нашы, беларускія: *бульбоўнік, бульбяны, бульбянішча, бульбіна, бульбачка, бульбянік.* Назоўнік *штаб* – запазычанне з нямецкай, *сорт* – з англійскай, *язмін* – з французскай мовы, а ўтвораныя на іх аснове прыметнікі *штабны, спартыўны, язмінавы* – уласна беларускія словы: у іншых мовах такіх прыметнікаў, менавіта ў дадзеным канкрэтным афармленні, няма; параўнаем у рускай мове: *штабной, спортивный, жасминовый*; ва ўкраінскай: *штабний, спортивний, жасминовий.*

У шмат якіх працах (беларускіх і рускіх) пішуць, што да запазычанняў варта «адносіць таксама калькаванне», што яно «з’яўляецца асобным відам запазычанняў» і г.д. Але з гэтым наўрад ці можна пагадзіцца. Параўн. вынік калькавання, г.зн. памарфемнага перакладу іншамоўнага слова: ням. *Weltanschaung* – руск. *мировоззрение*, бел. *светапогляд*, укр. *свитогляд*; руск. *единоличник* – бел. *аднаасобнік*, укр. *одноособник*; руск. *отличник* – бел. *выдатнік.* «Іншамоўнасць словаўтваральных калек заключаецца, – піша М.М.Шанскі, – у тым, што яны ўзнікаюць па словаўтваральным узоры і падабенстве да адпаведных па значэнні іншамоўных слоў, але гэтым іх іншамоўнасць і абмяжоўваецца: карані і афіксы, г.зн. будаўнічы матэрыял, не запазычаныя, а свае» [5, с. 104]. І яшчэ ў іншым падручніку: «Словаўтваральнае калькаванне ў дачыненні да свайго аб’екта (іншамоўнага слова) з’яўляецца перакладам, яно не можа і не павінна разглядацца як лексічнае запазычанне, таму што пераклад слова датычыцца толькі яго ўнутранага боку (плана зместу) і не азначае запазычання самога слова» [6, с. 123–124].

Амаль тое самае можна сказаць і пра паўкалькі – словы, якія складаюцца часткова з прамога запазычання, а часткова з перакладу. Штучнае слова *televisia* (першая частка паходзіць з грэчаскай мовы, а другая – з лацінскай) спарадзіла ў рускай мове слова *телевидение*, у беларускай – *тэлебачанне*, ва ўкраінскай – *телебачення.* Або руск. *колхоз* – бел. *калгас* – укр. *колгосп.* Калькі *(светапогляд),* як і паўкалькі *(тэлебачанне, калгас),* «могуць лічыцца ўласна беларускімі словамі» [7, с. 280], яны «з’яўляюцца новымі словамі, невядомымі ў дадзеным канкрэтным выглядзе ў іншых мовах» [5, с. 111].

У нарматыўных слоўніках многія словы падаюцца з дзвюма стылістычнымі паметамі: функцыянальна-стылёвай і экспрэсіўна-ацэначнай. Першая памета паказвае на ўжыванне слова ў пэўным стылі, другая – на наяўнасць у слове экспрэсіўнага, эмацыянальнага або ацэначнага адцення. Напрыклад, у «Беларуска-рускім слоўніку» (1988): *вершаплёт* «разм., пагард.». Як бачым, «класіфікацыя лексікі з яе стылістычнага боку звычайна ўскладняецца класіфікацыяй яе з пункту гледжання экспрэсіўнага» [5, с. 129]. Таму больш дакладна падзел лексікі па яе стылістычных асаблівасцях называць класіфікацыяй з экспрэсіўна-стылістычнага боку.

Гартаючы тлумачальныя слоўнікі рускай, украінскай, польскай ці іншых моў, знаходзім шмат слоў, пазначаных паметай «прастамоўнае». Гэта параўнальна немалы пласт лексікі ў любой мове. Прастамоўныя словы звычайна разглядаюцца ў складзе размоўнага стылёвага разраду як яго найбольш зніжаная частка, што знаходзіцца на перыферыі літаратурнай мовы.

У перакладных «Беларуска-рускім слоўніку» (1988) і «Руска-беларускім слоўніку» (4-е выд., 1993) шмат якія словы, агульныя для абедзвюх моў, таксама маюць паметы «праст.», напрыклад: *абдзіралайка, балабоніць, гарлапан, знюхацца, мурзаты, налопацца*. Такой жа паметай пазначаны шэраг беларускіх слоў у «Беларуска-рускім слоўніку» (1988): *бэбахі, вайкайё, вашапруд, соўгаць, ушалопаць, шныпарыць* і інш. Здавалася б, і ў іншых сучасных акадэмічных слоўніках гэтыя і падобныя словы павінны падавацца аднолькава, з той жа функцыянальна-стылёвай паметай «праст.». Аднак у пяцітомным ТСБМ, як і ў аднатомным «Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы» (1996), гэтыя і сотні іншых слоў па незразумелых прычынах атрымалі падвышаны статус, кваліфікуюцца не як прастамоўныя, а як размоўныя.

У чым жа справа? Можа, гэтыя словы сапраўды маюць патрэбу ў пераацэнцы іх стылістычнага статуса? Ніякіх доказаў на гэты конт няма. Аўтары ТСБМ хоць у адным са слоўнікавых артыкулаў (Т. 4. С. 370) вызначаюць прастамоўе як «словы і граматычныя формы, уласцівыя вуснай народнай мове як стылістычны сродак для надання мове жартаўлівага, іранічнага, грубаватага і пад. значэння», але ў сваёй лексікаграфічнай практыцы нідзе не прымяняюць памету «прастамоўнае». У рэцэнзіі на першы том ТСБМ адзначалася, што ўкладальнікі слоўніка не вылучаюць у межах размоўнай лексікі «рэальна існуючай катэгорыі прастамоўнасці, якая служыць для зніжанай, грубаватай характарыстыкі з'яў і паводзін людзей. Ні ў прадмове да слоўніка, ні ў слоўнікавых артыкулах мы не знойдзем указанняў на гэты своеасаблівы разрад, і можа міжвольна стварыцца ўражанне, што беларускай мове так званыя прастамоўныя сродкі зусім не ўласцівыя» [8].

Памылкі і промахі слоўніка ўжо як бы набылі аўтарытэтную сілу, укараняюцца ў навучальную літаратуру. У падручніках па беларускай мове пасля выхаду ў свет ТСБМ змяніліся адносіны да прастамоўнай лексікі. Калі ў ранейшых дапаможніках яна разглядалася як асобная лексічная група або асобны стылістычны разрад (ці падразрад у складзе размоўнай лексікі), то ў сучаснай навучальнай літаратуры (несумненна,

пад уплывам ТСБМ) прастамоўная лексіка або зусім не апісваецца, або пералічваецца ў шэрагу разнастайных тэматычных, экспрэсіўна-ацэначных і іншых груп размоўнай лексікі. Параўн., напрыклад, як па-рознаму характарызуюцца прастамоўныя словы ў першым і трэцім выданнях аднаго і таго ж навучальнага дапаможніка; у першым выданні: «Гутарковыя словы з адценнем спрошчанасці, грубаватасці называюцца прастамоўнымі»; у трэцім выданні: «Частка гутарковых слоў мае адценне спрошчанасці, грубаватасці, у некаторых слоўніках (напрыклад, «Беларуска-рускім слоўніку» 1962 г.) яны кваліфікаваліся як прастамоўныя і адзначаліся паметай «праст.» [9, с. 60–61].

Хацелася, каб, кажучы словамі з цытаванай рэцэнзіі, «рэальна існуючая катэгорыя прастамоўнасці» заняла сваё месца і ў слоўніках, і ў падручніках. Сказанае, несумненна, трэба браць пад увагу і пры лексічным аналізе слоў, калі яны характарызуюцца з экспрэсіўна-стылістычнага боку.

1. *Виноградов В.В.* Русский язык: Грамматическое учение о слове. – М.-Л., 1947.
2. Беларуская мова: Вучэб. дапам. для 10-га кл. / Г.А.Гваздовіч, М.М.Круталевіч, У.А.Саўко. – Мінск, 1999.
3. *Лепешаў І.* Канструктыўна абмежаванае значэнне слоў // Роднае слова. – 1998. – № 4. – С. 59–70; *Лепешаў І.Я.* Некаторыя спрэчныя пытанні лексікалогіі // Беларуская мова і літаратура. – 1999. – № 1. – С. 93–96; *Лепешаў І.Я., Якшук Л.М.* Сінтаксічна абумоўленае значэнне слоў і фразеалагізмаў // Беларуская мова і літаратура. – 2002. – № 1. – С. 117–127.
4. *Крапіва К.* Пытанні беларускага правапісу // Збор твораў: У 4 т. – Т. 4. – Мінск, 1963.
5. *Шанский Н.М.* Лексикология современного русского языка. – М., 1964.
6. Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / Пад рэд. А.Я.Баханькова. – Мінск, 1994.
7. Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. – Мінск, 1970.
8. *Булахаў М.* Важная падзея ў навуковым жыцці // Звязда. – 1979. – 25 ліп.
9. Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фанетыка. Арфаграфія. – Мінск, 1993.

Пытанні для падрыхтоўкі да **заліку**
па сучаснай беларускай літаратурнай мове

1. Слова як моўная адзінка. Слова і паняцце.
2. Лексічнае і граматычнае значэнне слова.
3. Лексічнае значэнне слова і спосабы яго раскрыцця.
4. Адназначныя і мнагазначныя словы.
5. Тыпы пераносных значэнняў.
6. Метафара і віды метафар.
7. Адрозненне аманіміі ад мнагазначнасці.
8. Амонімы. Тыпы амонімаў.
9. З’явы, сумежныя з аманіміяй.
10. Паронімы. Паранімія і паранамазія.
11. Антонімы. Іх структура, пашыранасць у мове.
12. Тыпы сінонімаў.
13. Сінанімічны рад. Дамінанта.
14. Сувязь сінаніміі і антаніміі з мнагазначнасцю.
15. Варыянты слоў.
16. Спрадвечна беларуская лексіка і яе гістарычныя пласты.
17. Запазычанні са славянскіх моў.
18. Запазычанні з неславянскіх моў (семантычныя і фанетычна-марфалагічныя прыметы).
19. Калькі і паўкалькі. Экзатызмы і варварызмы.
20. Лексіка з экспрэсіўна-стылістычнага боку, яе агульная характарыстыка.
21. Лесіка па сферы ўжывання, яе агульная характарыстыка.
22. Тыпы дыялектызмаў.
23. Спецыяльная лексіка і яе разнавіднасці.
24. Лексіка паводле актыўнага і пасіўнага складу (агульная характарыстыка).
25. Устарэлыя словы і іх класіфікацыя. Гістарызмы.
26. Тыпы архаізмаў.
27. Агульнанародныя неалагізмы і аказіяналізмы.

*Практычная частка.* Зрабіць лексічны аналіз слова, падкрэсленага ў прапанаваным тэксце.

Пытанні для падрыхтоўкі да **экзамену**
па сучаснай беларускай літаратурнай мове

1. Месца курса сучаснай беларускай літаратурнай мовы сярод іншых лінгвістычных дысцыплін. Прадмет і задачы курса. Норма, кадыфікацыя нормы.
2. Паняцце «сучасная беларуская літаратурная мова». Паняцці «нацыянальная мова», «дыялектная мова».
3. Лексікалогія як раздзел мовазнаўства. Слова як аб'ект вывучэння ў лексікалогіі, марфалогіі і словаўтварэнні.
4. Беларуская мова сярод іншых моў свету.
5. Слова як адзінка лексічнай сістэмы. Лексічнае і граматычнае значэнне слова. Слова і паняцце.
6. Тыпы лексічных значэнняў слова (па матываванасці, сувязі назвы з прадметам і па лексіка-граматычнай спалучальнасці з іншымі словамі).
7. Мнагазначнасць слова. Адназначныя і мнагазначныя словы. Стылістычнае выкарыстанне мнагазначнасці слова.
8. Спосабы развіцця пераносных значэнняў.
9. Аманімія і сумежныя з ёю з'явы. Лексічныя і лексіка-граматычныя амонімы (поўныя і няпоўныя, вытворныя і невытворныя). Адрозненне аманіміі ад мнагазначнасці.
10. Шляхі ўзнікненя амонімаў. Стылістычнае выкарыстанне амонімаў, амаформаў, амафонаў і амографаў.
11. Паронімы. Паранімія і паранамазія.
12. Сінанімія як з'ява, супрацьлеглая полісеміі і аманіміі. Абсалютныя сінонімы і іх месца сярод іншых відаў сінонімаў. Эўфемізмы. Сінонімы і перыфраза.
13. Сувязь сінаніміі з мнагазначнасцю. Сінанімічны рад, дамінанта. Стылістычная роля сінонімаў. Варыянты слоў, іх адрозненне ад сінонімаў.
14. Антонімы. Антанімічны рад, антанімічна-сінанімічны рад. Сувязь антаніміі з мнагазначнасцю. З'ява энантыясеміі. Аксюмаран як фігура маўлення, як з'ява, сумежная з антаніміяй.
15. Лексіка паводле яе паходжання (схема падзелу). Шляхі папаўнення і развіцця лексікі.
16. Спрадвечна беларуская лексіка і яе пласты (агульная характарыстыка). Агульнаславянская лексіка (яе семантычныя, марфалагічныя і стылістычныя прыметы).
17. Уласна беларуская лексіка. Пласт безэквівалентных слоў. Калькі і паўкалькі сярод уласна беларускай лексікі. Агульнаўсходнеславянская лексіка.
18. Запазычанні са славянскіх моў. Прыметы старaславянізмаў. Прыметы паланізмаў.
19. Неславянскія запазычанні. Прыметы такіх запазычанняў. Словы-інтэрнацыяналізмы. Асваенне іншамоўных слоў. Экзатызмы і варварызмы.
20. Падзел лексікі з экспрэсіўна-стылістычнага боку (схема падзелу). Міжстылёвая лексіка. Размоўная лексіка.

21. Адлюстраванне прастамоўнай лексікі ў ТСБМ, РБС і БРС. Кніжная лексіка і яе стылёвыя групы. Падзел лексікі з экспрэсіўна-стылістычнага пункту гледжання і культура маўлення.
22. Лексіка беларускай нацыянальнай мовы паводле сферы ўжывання (схема падзелу, агульная характарыстыка). Дыялектная лексіка, словы з паметай "абласное" ў нарматыўных слоўніках. Стылістычнае выкарыстанне дыялектызмаў.
23. Спецыяльная лексіка. Адрозненне паміж тэрмінамі і прафесіяналізмамі. Жаргонная лексіка.
24. Лексіка паводле актыўнага і пасіўнага складу (схема падзелу).
25. Устарэлыя словы і іх класіфікацыя. Гістарызмы і іх ужыванне ў мове.
26. Архаізмы (семантычныя і лексічныя). Віды лексічных архаізмаў.
27. Неалагізмы (семантычныя і лексічныя). Агульнанародныя і аказіянальныя неалагізмы. Наватворы апошніх гадоў.
28. Лексікаграфія як раздзел мовазнаўства. Яе сувязь з лексікалогіяй. Энцыклапедычныя і філалагічныя слоўнікі.
29. Перакладныя слоўнікі XVI–XVII стст., XIX ст.
30. Перакладныя слоўнікі 1918–1937 гг.
31. «Руска-беларускі слоўнік» і «Беларуска-рускі слоўнік» (акадэмічныя і школьныя).
32. Тлумачальныя слоўнікі (І.І.Насовіча і школьныя).
33. Дыялектныя слоўнікі (поўныя, адносна поўныя і дыферэнцыйныя).
34. Арфаграфічныя слоўнікі (СБМ і інш.)
35. Этымалагічныя і гістарычныя слоўнікі.
36. «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (у 5 тамах) і ТСБЛМ.
37. Марфемны слоўнік, слоўнікі паронімаў, амонімаў.
38. Тэрміналагічныя, анамастычныя, частотныя слоўнікі, слоўнікі мовы пісьменніка.
39. Фразеалогія. Фразеалагізм як моўная адзінка. Аб'ём і межы фразеалогіі.
40. Варыянтнасць і сінанімічнасць фразеалагізмаў.
41. Мнагазначнасць фразеалагізмаў. Антанімічнасць фразеалагізмаў.
42. Утварэнне фразеалагізмаў і іх этымалагічная класіфікацыя.
43. Семантычная характарыстыка фразеалагізмаў. Тыпы фразеалагізмаў па семантычнай злітнасці кампанентаў.
44. Сэнсавая структура фразеалагізмаў (фразеалагічнае і стылістычнае значэнні і іх кампаненты).
45. Функцыянальна-стылёвыя разрады фразеалагізмаў і стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў.
46. Фразеалагізмы паводле структуры (разнавіднасці, тыпы, мадэлі).
47. Тыпы фразеалагізмаў па суадноснасці з часцінамі мовы. Фразеалагізмы, несуадносныя з часцінамі мовы.
48. Спалучальнасць фразеалагізмаў са словамі кантэксту.
49. Сінтаксічная роля фразеалагізмаў.
50. Беларуская фразеаграфія. Тыпы слоўнікаў і іх характарыстыка (апрача ФСБМ).
51. «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» (1993).
52. Прадмет фанетыкі. Гукі мовы. Паняцце фанемы.
53. Галосныя гукі.

54. Зычныя гукі.
55. Фаналогія (паняцце фанемы, слабыя і моцныя пазіцыі фанемы).
56. Склад і складападзел. Націск і яго асаблівасці.
57. Аканне і яканне ў беларускай мове.
58. Асіміляцыя і іншыя пазіцыйныя змяненні зычных.
59. Арфаэпія і яе задачы. Арфаэпічныя нормы і прычыны адхіленняў ад іх.
60. Арфаэпія галосных.
61. Арфаэпія зычных.
62. Пазіцыйныя і гістарычныя чаргаванні гукаў.
63. Змест і задачы графікі. Алфавіт. Дыграфы «дз» і «дж». Гукавыя значэнні літар.
64. Прынцыпы графікі. Адназначныя і двухзначныя літары. Іншыя графічныя сродкі.
65. Арфаграфія. Чатыры групы правілаў. Прынцыпы арфаграфіі (іх агульная характарыстыка). Спалучэнне двух прынцыпаў пры напісанні пэўных арфаграм.
66. Напісанні разам, праз злучок і асобна. Правілы пераносу слоў.
67. Ужыванне вялікай літары. Функцыі вялікай літары. Напісанні «Бог» і «бог».
68. Фанетычны і марфалагічны прынцыпы беларускай арфаграфіі.
69. Гісторыя беларускай графікі. З гісторыі сусветнага пісьма.
70. Гісторыя беларускай арфаграфіі.

*Практычная частка:* у экзаменацыйным білеце, апрача двух тэарэтычных пытанняў, даецца сказ, у якім трэба зрабіць аналізы *двух* слоў: 1) лексічны або фразеалагічны, 2) фанетычны ці графічны або арфаграфічны. Словы ці фразеалагізмы для пэўных аналізаў пазначаны парадкавай лічбай справа: лексічны – лічбай 1, фразеалагічны – 2, фанетычны – 3, графічны – 4, арфаграфічны – 5.

## Умоўныя скарачэнні

*Ак.* – Э.Акулін
*А.К.* – А.Куляшоў
*А.Л.* – А.Лукашук
*Астр.* – А.Астрэйка
*Б.* – Я.Брыль
*Бад.* – А.Бадак
*Бар.* – Р.Барадулін
*Бр.* – П.Броўка
*Б-ч* – М.Багдановіч
*В.А.* – В.Адамчык
*В.Б.* – В.Быкаў
*В.В.* – В.Вольскі
*В.Г.* – В.Гардзей
*В.З.* – В.Зуёнак
*Віт.* – В.Вітка
*Вішн.* – М.Вішнеўская
*В.К.* – В.Казько
*В.Л.* – В.Лукша
*В.М.* – В.Маракоў
*В.Ш.* – В.Шырко
*Г.Д.* – Г.Далідовіч
*Гіл.* – М.Гілевіч
*Гл.* – П.Глебка
*Грах.* – С.Грахоўскі
*Дам.* – У.Дамашэвіч
*Д.-М.* – Л.Дранько-Майсюк
*Зв.* – «Звязда»
*З.Дз.* – З.Дзядзенка
*І.* – В.Іпатава
*Іваш.* – В.Івашын
*І.К.* – І.Капыловіч
*І.М.* – І.Мележ
*Каратк.* – У.Караткевіч
*Карп.* – А.Карпюк
*К.Б.* – К.Буйла
*Кір.* – К.Кірыенка
*Клыш.* – А.Клышка
*Кр.* – У.Краўчанка
*Крап.* – К.Крапіва
*К-с* – Я.Колас
*К.Т.* – К.Тарасаў
*Куп.* – Я.Купала
*Кух.* – С.Кухараў
*ЛіМ* – «Літаратура і мастацтва»
*Лыньк.* – М.Лынькоў
*Ляхн.* – П.Ляхновіч
*Марц.* – А.Марціновіч
*Махн.* – А.Махнач
*М.Г.* – М.Гіль
*Н.* – І.Новікаў
*Пальч.* – А.Пальчэўскі
*Панч.* – П.Панчанка
*Пестр.* – П.Пестрак
*Прык.* – Прыказка
*Пт.* – І.Пташнікаў
*П.Т.* – П.Ткачоў
*Саб.* – Р.Сабаленка
*Сав.* – І.Саверчанка
*С.Б.* – С.Буткевіч
*Св.* – Ю.Свірка
*С.Д.* – С.Дубавец
*Сіп.* – Я.Сіпакоў
*Ск.* – М.Скобла
*Скр.* – Я.Скрыган
*С.Л.* – С.Лаўшук
*У.Д.* – У.Дубоўка
*У.К.* – У.Калеснік
*Хад.* – Т.Хадкевіч
*Ш.* – В.Шаўчэнка
*Шам.* – І.Шамякін
*Я.В.* – Я.Васілёнак

## З М Е С Т

Вучэбнае выданне

**Лепешаў** Іван Якаўлевіч
**Якалцэвіч** Марыя Антонаўна

ПРАКТЫКУМ ПА ФАНЕТЫЦЫ,
АРФАЭПІІ, ГРАФІЦЫ І АРФАГРАФІІ

Дапаможнік па курсу
«Сучасная беларуская літаратурная мова»
для студэнтаў спецыяльнасці
1-210501 – Беларуская філалогія

Рэдактар Н.П.Дудко
Камп'ютарная вёрстка: М.І.Верстак

Здадзена ў набор Падпісана да друку
Фармат 60х84/16. Папера афсетная
Друк Гарнітура Таймс
Ум.-друк.арк. Ул.-выд.арк. Тыраж экз. Заказ
Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны
універсітэт імя Янкі Купалы»
ЛВ № 02330/0133257 ад 30.04.2004. Вул. Пушкіна, 39, 230012, Гродна.

Надрукавана на тэхніцы выдавецкага цэнтра
Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы».
ЛП № 2330/0056882 ад 30.04.2004. Вул. Пушкіна, 39, 230012. Гродна.